# БЕЛАРУСКІ



BELARUSIAN DIGEST

# ДАЙДЖЭСТ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 122 September 2005 Верасень Год выд. 13.

# Не, не аддадзім на згубу родную мову!

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафэсар

На працягу ўсяго XX стагоддзя беларускай мове выпала — удумацца толькі! — усяго каля дзесятка больш-менш спрыяльных гадоў. Трохі больш за палову з іх прыпадае на міжваенную беларусізацыю, а астатнія — на пачатак 90-х гадоў, калі пасля прыняцця закона "Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.) роднае слова карэннага насельніцтва краіны пачало прабіваць сабе шлях ва ўсе сферы нашага грамадства.

**Толькі блiснула надзея...**

Усе ж астатнія гады мінулага стагоддзя наша мова практычна была выключана з грамадскага жыцця Беларусі, бо па-за ўсялякай канкурэнцыяй тут панавала мова суседняга народа — руская. Прычым панавала так, што афіцыйныя ідэолагі, апраўдваючы згубныя перакосы ў дзяржаўнай моўнай палітыцы, няўхільнай упартасцю пераконвалі беларусаў, што для іх не толькі свая, але і руская мова з'яўляецца роднай. Гэтых "мудрацоў" ніколькі не бянтэжыла, што на ўсёй планеце Зямля няма ніводнага народа з дзвюма роднымі мовамі! Беларусам гэтага не гаварылі. І многія паддаліся на падман.

Але здзіўлення варта якраз не гэта, а тое, што і ў экстрэмальных моўных варунках у нас на пачатку 90-х гадоў знайшліся разумныя, смелыя, з высокай нацыянальнай самасвядомасцю людзі — грамадскія і палітычныя дзеячы, дзеячы навукі і культуры, якія здолелі дамагчыся, каб у заканадаўчым парадку беларускай мове быў нададзены статус адзінай дзяржаўнай у краіне. Яны настойліва праводзілі дзейсныя мерапрыемствы па забеспячэнні мове тытульнай нацыі адпаведнага аўтарытэтнага месца ў грамадстве. Хіба забыць тую радасць, калі мы нарэшце пачулі, як гучыць роднае слова падчас дэбатаў у парламенце, у выступленнях высокіх дзяржаўных асоб, па радыё і тэлебачанні? Але нішто так не цешыла непарыўна звязаных з нацыянальна-культурнымі традыцыямі беларусаў, як усё больш шырокае ўкараненне матчынай мовы ва ўстановы выхавання і адукацыі, асабліва ніжэйшых звёнаў.

Наша агульнаадукацыйная школа, якая раней працавала на русіфікацыю маладых пакаленняў беларусаў, нарэшце пачала служыць Беларусі! Эфектыўныя практычныя захады па ажыццяўленні разумных, узважаных артыкулаў Закона аб мовах давалі надзею на выхаванне нашай дзятвы і юнацтва ў нацыянальным, патрыятычным духу шчырай адданасці Бацькаўшчыне. І ўсё было без гвалту і ціску, пра які і сёння любяць паляманціваць русіфікатары ўсіх масцей. Бо ўсё пачыналася з першых класаў. У першым пасля прыняцця Закона навучальным годзе ў беларускіх класах навучалася 44% агульнай колькасці першакласнікаў! Нават бацькі ў Мінску, дзе ўжо некалькі дзесяткаў гадоў не існавала аніводнага беларускага класа, не збаяліся прыводзіць сваіх дзетак у такія класы, і дзеці ішлі туды з радасцю.

Гэта была разумная, жыццёва неабходная палітыка. Разам з матчынай мовай у школы прыйшлі і іншыя прадметы з катэгорыі беларусазнаўства: сапраўдная нацыянальная гісторыя і культура, якія садзейнічалі фарміраванню ў дзяцей любові і гонару за сваю Радзіму. Маладыя пакаленні беларусаў пачалі ўзгадоўвацца ў духу ледзь не забытых багатых традыцый свайго народа і нярэдка дома з абруселымі сваімі бацькамі загаворвалі па-беларуску...

Наша мова загучала ў грамадскіх месцах. Упершыню за ўвесь пасляваенны перыяд бліснула надзея, што праз пэўны час агульнаадукацыйная школа з рэактара русіфікацыі ператворыцца ў рэактар беларусізацыі. Як і належыць у суверэннай краіне!

Пазітыўныя змены з'явіліся на ўсіх дзялянках духоўнай дзейнасці, у тым ліку ў сродках масавай інфармацыі. Наша творчая інтэлігенцыя ўсяго за некалькі год паспела зрабіць шмат карыснага па вяртанні ачмураных ідэолагамі КПСС беларусаў да сваіх прыродных культурна-моўных каранёў. Паўсюль на поўны голас загучалі беларуская паэзія, песня, музыка. Не адмаўляючыся ні ў якім разе ад скарбаў сусветнай культуры, мы несумненна рабіліся багацей, падымаючы з пылу сваё, роднае — вякамі таптанае.

**Майскі рэферэндум: шпарчэй, шпарчэй... назад!**

Такое нацыянальнае ажыўленне ў краіне моцна занепакоіла праціўнікаў беларускага адраджэння. Тых самых, што ў свой час няшчыра апладзіравалі беларусам, калі іх дапускалі час ад часу ў нацыянальных строях танчыць "Лявоніху" ці "Крыжачок", спяваць "Касіў Ясь канюшыну", іграць народныя мелодыі — выключна напаказ, дзеля ідэалагічнай "дэкарацыі". Але калі адчулі, што зараз гэта глыбока і ўсур'ёз, не на жарт успалашыліся: свядомыя грамадзяне-беларусы змогуць стаць паўнакроўным народам. Як такое дапусціць?

За развіццём моўных падзей на Беларусі пільна сачылі ў маскоўскім Крамлі. Раней Масква нярэдка спасылалася на "пазітыўны" беларускі вопыт моўнай палітыкі — гэта значыць вынішчэнню мовы карэннай нацыі на карысць адной — рускай. Калі ж пад магутнымі накатамі адраджэнскіх хваляў сцяна пачала рушыцца, высокія расійскія палітыкі перапужаліся не менш за сваіх беларускіх "васалаў" і сталі супольна шукаць супрацьядздзе "разгулу национализма". Пры ўсталяванні прэзідэнцтва А.Лукашэнкі актывізаваць дзейнасць у гэтым напрамку штурхала іх і яго нястрымнае імкненне да аб'яднання з Расіяй. Яны лічылі і зараз лічаць, што агульная з суседняй дзяржавай руская мова, як нішто іншае, паспрыяе паглыбленню і пашырэнню інтэграцыйных працэсаў, нібы чароўная палачка-выручалачка. Так што не паспела ярка бліснуць над Беларуссю надзея на Адраджэнне напрыканцы XX стагоддзя, як зноў насунуліся змрочныя хмары.

...З другой паловы 1994 года вельмі выразна выявілася нежаданне чыноўніцкага апарату, асабліва яго вышэйшых звёнаў, канкрэтна і мэтанакіравана працаваць над выкананнем Закона аб мовах. Пайшоў яўны адкат у гэтай сферы па ўсіх накірунках. Чыноўнікі аж гарэлі нястрыманым жаданнем — і не хавалі гэтага — хутчэй дачуцца аб афіцыйным стаўленні да мовы тытульнага народа краіны нядаўна абранага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі: што ён скажа? І ён не прымусіў сябе доўга чакаць. Месцам для праграмнай, лічы, заявы быў абраны Гомель, адзін з найбольш зрусіфікаваных на Беларусі абласных цэнтраў. 1 снежня 1994 года тут праходзіла сесія гарадскога Савета. Беспамылкова мяркуючы, што абсалютную большыню дэпутатаў складаюць асобы, выхаваныя ў духу культурна-моўных стандартаў суседняй дзяржавы, А.Лукашэнка пацешыў іх, безапеляцыйна заявіўшы: "Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што па-беларуску нельга выказваць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы — гэта руская і англійская".

Мне асабіста невядома, якім шквалам апладысментаў сустрэлі дэпутаты філалагічную дасведчанасць прэзідэнта. Затое пра рэакцыю аднаго яго апанента — тагачаснага дэпутата на той сесіі Леаніда Епішава — вядома. Вось яго каментар: "Пасля гэтых слоў, якія гучалі з вуснаў прэзідэнта, мне стала няёмка і крыўдна за нашу Бацькаўшчыну. Не разумею, як можна так зняважыць мову сваёй дзяржавы, тым больш, калі ты з'яўляешся ейным вышэйшым кіраўніком. Можна ўявіць, колькі б пратрымаліся на пасадах прэзідэнты Францыі ці Фінляндыі, калі б хто-небудзь з іх так абразліва выказаўся пра мову сваёй краіны".

Тагачасныя афіцыйны друк не прывёў вышэйцытаваных слоў А.Лукашэнкі, — відаць, не хацеў рабіць з нядаўна абранага кіраўніка дзяржавы аб'ект крытыкі з боку нацыянальна самасвядомай часткі беларускага народа. Але ж вядома: слова — не верабей. Такое дэманстратыўна негатыўнае выказванне пра мову тытульнага народа дзяржавы недаравальна рабіць нікому, тым больш — яе першай афіцыйнай асобе. І тым больш, калі мова твайго народа агульна прызнана ў свеце як адна з найбагацейшых і самабытнейшых славянскіх моў.

Але на гэтым Аляксандр Рыгоравіч не спыніўся. Паспяхова прайшла апрабацыя яго пазіцыі па недапушчэнні шырокага ўжывання беларускай мовы ў сферы навукі перад акадэмічнымі навукоўцамі, хаця Закон аб мовах акурат і быў скіраваны на супрацьлеглае — менавіта на шырокую дарогу нашай мове ў навуцы! Вось рэзоны вышэйшага кіроўцы краіны. "Так ужо склалася гістарычна (насамрэч — у выніку дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. — Л.Л.), што навуковая інфармацыйная прастора вакол АНБ (Акадэмія навук Беларусі. — Л.Л.) была і застаецца рускамоўнай. Міжнародная практыка паказвае, што мовамі навукі павінны быць мовы-гіганты. Беларуская да такіх моў, на жаль, пакуль не належыць. У той час як руская афіцыйна прызнана адной з міжнародных моў навукі.

Вучоныя не разумеюць, чаму іх прымушаюць публікаваць навуковыя працы на беларускай мове, паколькі потым, для таго каб давесці ўласныя працы да ведама сваіх замежных калег (а на долю ж такіх прац прыпадае зусім нязначны працэнт! — Л.Л.) ім даводзіцца перакладаць іх на рускую альбо на англійскую. Думаю, дзяржава павінна падтрымаць вучоных у свабодзе выбару мовы, на якой публікуюцца іх навуковыя працы, манаграфіі і іншая навуковая літаратура" ("Навіны АНБ". 9 снежня 1994 г.).

Кіраўніцтва Акадэміі навук і большыня адарваных ад нацыянальных культурна-моўных каштоўнасцяў супрацоўнікаў пачулі ад А.Лукашэнкі якраз тое, што ім хацелася пачуць. І свабода ў "вышэйшым" разуменні хутка пакрочыла... назад. Нашу мову сталі бессаромна выпіхаць нават адтуль, дзе яна ўжо выкарыстоўвалася. І ніхто з навукоўцаў публічна не выказаўся ў абарону беларускай мовы, хаця ў структуры Акадэміі нямала інстытутаў гуманітарнага профілю, калектывы якіх нясуць прамую адказнасць перад народам за ратаванне ад культурна-моўнай асіміляцыі.

Трэба прызнаць: нашы навукоўцы 90-х гадоў істотна саступалі па ўзроўні нацыянальнай самасвядомасці сваім калегам, што ў 20-я — першай палове 30-х гадоў мінулага стагоддзя працавалі ў Інстытуце беларускай культуры, а затым у Беларускай акадэміі навук. Без усялякага перабольшання, міжваенная беларусізацыя на плячах тагачасных самаахвярных навукоўцаў, адданых Бацькаўшчыне, была прынесена ў самую гушчу народа, дала тады важкі плён.

Але большыня з іх трапіла пад кола сталінскіх рэпрэсій. Пэўна, іх прадаўжальнікі больш цанілі ўласны спакой. Таму, пачуўшы агучаную прэзідэнтам пазіцыю, і многія навукоўцы, і большыня чыноўніцкага апарату адразу ж выявілі даўно саспелую ў іх гатоўнасць даць рашучы бой гэтай "недасканалай" беларускай мове, вызваліцца ад яе. Многім, ужо адарваным ад сваіх каранёў, так і карцела хутчэй кінуцца ў схватку з нежаданым і забытым родным словам. Хтосьці з тых чыноўнікаў яшчэ добра памятаў, як ад вывучэння ў школе гэтай незапатрабаванай грамадствам мовы іх вызвалялі бацькі, а пазней яны самі рабілі такую "ласку" для ўласных дзетак, якія таксама вучыліся ў рускамоўных агульнаадукацыйных школах, сярэдніх спецыяльных ці вышэйшых навучальных установах: іншых жа не было! У такіх варунках толькі бацькі з высокай нацыянальнай самасвядомасцю маглі дабівацца, каб вярнуць сваіх дзяцей на беларускую мову навучання і выхавання, але хто іх слухаў?

Антыбеларускія настроі пэўнай часткі грамадства не маглі не выкарыстаць у самых высокіх эшалонах улады, амаль спрэс укамплектаваных носьбітамі рускіх культурна-моўных стандартаў. У гэтых эшалонах якраз і нарадзілася ідэя моўнага рэферэндуму з мэтай "ураўнення" юрыдычных статусаў беларускай і рускай моў, што, як настойліва прапагандавалася ў дзяржаўных

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

сродках масавай інфармацыі, нібыта павінна прывесці да "раўназначнага" выкарыстання моў на практыцы. Запэўнівалася, быццам гэта не зробіць ніякай шкоды роднаму слову тытульнай нацыі краіны.

І большыня грамадзян паверыла ў гэтую прыгожую баечку. Бо ні праз друк, ні праз радыё і тэлебачанне ім не сказалі праўду: што ўсталяванне нібыта аднолькавага статусу для беларускай і рускай моў абавязкова прывядзе да канчатковага і немінучага выцяснення роднай, паколькі носьбіты рускай складалі пераважную большыню работнікаў дзяржаўнага, адміністрацыйна-гаспадарчага апарату і ідэалагічных служб, інтэлігенцыі. Яны і скіравалі ход сумнавядомага рэферэндуму 14 мая 1995 года ў пажаданае рэчышча. Як вядома, многія на тым рэферэндуме галасавалі, нават не падазраючы, якая "міна" ў ім закладзена.

Сусветны вопыт шматкроць засведчыў, што юрыдычная роўнасць дзвюх, трох ці некалькіх моў на адной і той жа тэрыторыі — гэта пустыя словы, фікцыя, асабліва, калі ў краіне ёсць уплывовыя сілы, якія не жадаюць забеспячэння такой роўнасці на справе. На Беларусі іх у той час, як і сёння, быў легіён. Вось чаму галаслоўна паабяцаная архітэктарамі майскага рэферэндуму-95 нібыта юрыдычная "роўнасць" беларускай і рускай моў мігам павярнула ўсё да самых горшых савецкіх часоў, калі руская мова з'яўлялася фактычна адзінай дзяржаўнай на Беларусі. Афіцыйнае двухмоўе, як і чакалася, прывяло да панавання рускага аднамоўя: магутны, шырокаразгалінаваны, дашчэнту зрусіфікаваны чыноўніцкі апарат без усялякага прамаруджвання, з зайздроснай актыўнасцю ўзяўся за вяртанне рускай мове колішняга становішча і выцясненне роднай. Яны ўжо ўвайшлі (так хочацца сказаць "уліплі") у нацыянальную гісторыю яшчэ больш зацятымі русіфікатарамі, чым іх папярэднікі за царскім і савецкім часамі.

**Зруйнаваць — і кропка?**

Асабліва моцна затрашчаў нацыянальны падмурак сферы народнай адукацыі. Бурыць яго аказалася няцяжка яшчэ і таму, што, на вялікі жаль, адсутнічала супраціўленне русіфікацыі з боку нашай педагагічнай інтэлігенцыі, узгадаванай у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах амаль выключна на рускім гістарычным і культурна-моўным матэрыяле. Ды і многія бацькі дзяцей агульнаадукацыйных школ не бачылі прысутнасці беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчым працэсе інстытутаў (універсітэтаў), тэхнікумаў і г.д., не кажучы ўжо пра кабінеты органаў дзяржаўнай улады, адміністрацыйна-гаспадарчых, грамадскіх устаноў.

У такіх варунках беларуская мова ніяк не магла захавацца ў сістэме народнай адукацыі на тых пазіцыях, якія ёй забяспечвалі да 1994 года нацыянальна-адраджэнцкія сілы пры падтрымцы самой дзяржавы. Ужо ў год рэферэндуму на рускую мову навучання перавялі 108 школ, з якіх — і гэта самае страшнае — 91 на вёсцы. Як бачым, русіфікатарскія сілы ўласнай гадоўлі ўзяліся за разбурэнне нацыянальнага падмурку адукацыі і ў тым тыпе населеных пунктаў, якія спрадвеку вызначаліся высокай ступенню беларускасці.

...І вось вынік "роўнасці": на дзевятым годзе пасля майскага рэферэндуму з агульнай колькасці вучняў агульнаадукацыйных школ толькі 23,8% навучаліся па-беларуску, прычым прынцыпам добраахвотнасці тут і не пахла. А паводле стандартаў ЮНЕСКА мове, на якой навучаецца менш за 30% агульнай колькасці вучняў, рэальна пагражае этнічнае вымiранне.

Асабліва не стыкуецца з беларускім нацыянальным інтарэсам дзейнасць агульнаадукацыйных школ сталіцы нашай суверэннай (пакуль што?) дзяржавы. У гэтым навучальным годзе тут са ста вучняў толькі чатыры вучыліся па-беларуску! Маладыя генерацыі беларускага народа ўзгадоўваюцца па-за родным словам, гэта значыць па-за галоўным і фарміруючым асобу кампанентам сваёй нацыі, што ў будучым не дазволіць большыні з іх стаць актыўнымі носьбітамі яе традыцый.

Дзесяцігоддзе пасля рэферэндуму 1995 года перакануча засведчыла апасенні дальнабачных, неабыякавых да лёсу краіны і яе культуры людзей. Што мы маем зараз? Мова карэннага насельніцтва краіны ледзь дыхае на ладан. Хто і дзе яе чуе? Можа, яна гучыць хаця б на вуліцы Кірава ў Мінску, дзе месціўся зачынены ўладамі легендарны Беларускі гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа? Ці, можа, на "Славянском базаре", дзе знянацку прыляцеўшы сюды іншапланецянін і не зразумеў бы, дзе апынуўся? Сёння — скажам страшную праўду — ужо няма аніякіх падстаў называць беларускую мову фактычна дзяржаўнай, бо такому высокаму статусу адпавядаюць толькі мовы, якія ў поўным аб'ёме абслугоўваюць палітычную, эканамічную, духоўную сферы дзейнасці людзей той ці іншай краіны. З першых дзвюх сфер беларускую мову цалкам вывелі, у трэцяй яна значна саступае рускай у самых прэстыжных, элітных пластах культуры. Беларуская мова, будучы пазбаўленай дзяржавай самых важных сацыяльных функцый па абслугоўванні грамадскага жыцця, робіцца незапатрабаванай і гіне. Ці ж маем мы, беларусы, права дапусціць такое?

У грамадстве спрэс пануе руская мова, што супярэчыць нават афіцыйна аб'яўленым мэтам рэферэндуму. А беларуская нацыянальная ідэя, без якой няма і не можа быць будучыні і незалежнасці нашай дзяржавы, дэмакратычнай краіны з годным узроўнем духоўнага і эканамічнага жыцця, без роднай мовы ўвасобіцца ніяк не зможа.

**Сцеражыся манкурта!**

У прыватных размовах з сённяшнімі палітыкамі я не раз узнімаў моўную праблему. Здзіўляе, што некаторыя з іх нават апраўдваюць панаванне рускай мовы ў грамадскім жыцці Беларусі, разглядаюць такое становішча зусім у духу дзяржаўных кіроўцаў — як гарантыю хутчэйшага верагоднага яе палітычнага аб'яднання з Расіяй. Дзеля гэтага, маўляў, а таксама набыцця ва ўсходняга суседа патрэбнай сыравіны па памяркоўных цэнах не грэх і ахвяраваць такой "драбязой", як этнакультурная самабытнасць беларускага народа...

Дзікунства нейкае! Такой неацэннай ахвяры, думаецца, не жадаюць нават некаторыя рускія людзі. Сярод іх, праўда, былі і ёсць прыхільнікі зацятага русіфікатара XIX стагоддзя Міхаіла Мураўёва-вешальніка, якога царскія ўлады закінулі ў наш край. Але сярод рускіх заўжды былі і ёсць сапраўдныя інтэрнацыяналісты, высакародныя і ўдумныя інтэлігенты, якія супраць таго, каб нішчыць духоўныя каштоўнасці іншых народаў, штурхаць да этнічнага вымірання.

Нам, калі і трэба асабліва каго-небудзь асцерагацца, дык гэта найперш уласных нігілістаў, герастратаў, манкуртаў. Адарваныя духоўна ад роднай беларускай культурна-моўнай асновы, яны гатовы выбіць яе з-пад ног любога, хто не жадае трапіць у пастку моўнай асіміляцыі. Якраз нігілісты-манкурты і займаюць высокія пасады ў дзяржаўных органах улады, розных сферах грамадскага і культурнага жыцця Беларусі.

Мне згадваюцца мудрыя словы вядомага рускага філосафа і сацыёлага Пятра Лаўрова (1823—1900 гг.): "Патрабаванне падтрымаць сваю нацыянальнасць як самастойную і адасобленую адзінку зусім законнае, паколькі адпавядае імкненню да таго, каб ідэі, у якія чалавек верыць, мова, якой ён размаўляе, пажаданыя мэты, якія ён ставіць, увайшлі жывым элементам у будучае, перарадзіліся б адпаведна патрабаванням прагрэсу, але ні ў якім разе не вымерлі". (Энциклопедический словарь Русского библиографического института Гранат". Т.33 с.67).

Перашкод на шляху выратавання ад поўнага заняпаду беларускай мовы, якую ўладныя структуры ўжо практычна цалкам замянілі ў грамадскім жыцці рускай паводле рэферэндуму 1995 года, ой як шмат. Менавіта пасля яго ЮНЕСКА ЗАНЕСЛА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ Ў ЧЫРВОНУЮ КНІГУ.

Дык што — скласці рукі і плакацца адно аднаму ў камізэльку? Не! Давайце працай і любоўю ўсіх, каму дарага Бацькаўшчына, узнясём беларускую мову на ганаровы п'едэстал. Няглядзячы на велізарныя цяжкасці і афіцыйны супраціў, гэтай высакароднай справай па заклiку душы і сэрца ў нас і сёння займаецца немалая колькасць таленавітых, шчыра адданых свайму краю і беларушчыне людзей. Можа, я ў палемічным запале выказаўся вышэй наконт нашай інтэлігенцыі занадта рэзка. Сёння нацыянальна-свядомая частка грамадства ясна бачыць: без роднай мовы народ ужо не народ, а толькі карыкатура на яго. Калі карэнным чынам не здолеем знайсці супрацьвагу згубнай дзяржаўнай моўнай палітыцы, беларусаў немінуча напаткае — прычым не праз такі ўжо працяглы перыяд — небыццё, якое ўжо і сёння рэльефна выяўляецца па многіх прыкметах. Каб не дапусціць канчатковай згубы, патрэбны не меншыя намаганні, чым для ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. А майскі рэферэндум 1995 года — гэта ж духоўны Чарнобыль нашай нацыі.

**І ў сэрцы,і на вуснах**

Вось і шчыруюць на беларускай ніве нястомныя аратыя-руплiўцы, каб не зарасла яна спрэс злым пустазеллем. Таленавітыя пісьменнікі — ад "аксакалаў" пяра да маладога "прызыву" пішуць выдатныя кнігі, якія ўзвышаюць чалавечую душу, расплюшчваюць чытачам вочы на нашу гераічную гісторыю і духоўныя скарбы народа... Да апошняга дыхання адкрываў нам таямніцы жыцця і асвятляў дарогу да саміх сябе вялікі сын нашай зямлі Васіль Быкаў... Адна толькі нядаўняя кніга духоўнай паэзіі "Ксты" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна — магутная з'ява (так лічу не толькі я) у сусветнай літаратуры, вартая — не перабольшваю — Нобелеўскай прэміі... А навуковыя і мастацкія творы аб мінулым Бацькаўшчыны, постацях яе слаўтых дзеячаў у дзяржаўных і вайсковых справах, у асветніцтве, мастацтве, прыгожым пісьменстве, у іх барацьбе за свабоду і справядлівасць, усталяванне прынцыпаў гуманізму не толькі на роднай зямлі, а ў розных краях планеты ?

Зараз падобныя творы, якія сталіся б духоўным апірышчам для беларусаў, амаль не выходзяць у дзяржвыдавецтвах, хутчэй выдаюцца на сродкі дабрачынных людзей ці саміх творцаў невялічкімі тыражамі. Іх амаль не адшукаць у дзяржаўных кнігарнях. Але прыйдзе час, і яны ўвойдуць у многія дамы мудрымі і добрымі сябрамі, стануцца неацэннай каштоўнасцю. Пакуль іх можна знайсці ці замовіць у кніжных шапіках ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" (Мінск, вул.Румянцава, 13) ці ў сядзібе Партыі БНФ (Мінск, вул.Варвашэні — па-новаму Машэрава, 8). Можна — і карысна — знаёміцца з новымі творамі лепшых беларускіх майстроў пяра і літаратурнай моладзі ў выдатным літаратурна-мастацкім і публіцыстычным выданні "Дзеяслоў".

Ні ў якім разе не заклікаю беларусаў да культурнай самаізаляцыі, адгароджвання ад вялікай рускай і сусветнай культуры і літаратуры. Але дакраніцеся душой да свайго, роднага — і вы спазнаеце асалоду святланоснага, гаючага, спеўнага беларускага слова, адчуеце гонар за гэты цуд і асабістую адказнасць за яго захаванне ў новых стагоддзях.

Я не заклікаю іх ні да якіх рэвалюцый. Раю самае простае, даступнае ўсім і кожнаму: прыносьце дадому беларускія кнігі — для сябе і сваіх дзяцей. Хай яны змалку чуюць беларускую казку, вучаць беларускія вершы, спяваюць беларускія песні. Ну, а калі забыліся якое слоўца — не бяды. Дабівайцеся, каб вашых дзетак вучылі па-беларуску. Размаўляйце самі па-беларуску дома, на працы і паўсюдна, і яно ўспомніцца — роднае, мілае, блізкае, што таілася недзе ў глыбіні душы. Ды і слоўнікі, і знаўцы падкажуць — настаўнікі, сябры суполак Таварыства беларускай мовы ў розных кутках краіны — людзі розных прафесій, што пранеслі матчыну мову праз усё жыццё.

Мова жыве, пакуль гучыць. Калі яна будзе ў нас у сэрцы і на вуснах — мы яе ўратуем і ўратуемся самі ад згубы свайго імя, сваёй краіны, сваёй будучыні. І тады ніякія рэферэндумы нам не страшныя. Мы ж не хочам, каб праз пэўны час чалавецтва забылася, што была такая краіна, такая зямля — Беларусь? Бо няма мовы — няма народа.

Таму паўтару яшчэ і яшчэ раз гарачы заклік Францішка Багушэвіча: "НЕ ПАКІДАЙЦЕ Ж МОВЫ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ, КАБ НЕ ЎМЁРЛІ!".

**************************************************

## Андрэй Саннікаў: Беларускі рэжым небяспечны

*1 ліпеня бальшынёй галасоў Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ўхваліла законапраект аб фінансаваньні замежнаэканамічнай дзейнасьці ЗША цягам бліжэйшых двух гадоў. Кангрэс ЗША прыняў рашэньне аб дадатковым выдаткаваньні 10 мільёнаў даляраў для пашырэньня свайго тэлевізійнага і радыёвяшчаньня на Беларусь. Яшчэ Палата прадстаўнікоў вырашыла выдаткаваць 24 мільёны даляраў на прасоўваньне дэмакратыі, разьвіцьцё палітычных партыяў, грамадзянскай супольнасьці і незалежных СМІ.*

*«Рэжым Лукашэнкі ўжо выйшаў за межы міжнароднай этыкі. Ніякія абавязаньні, што краіна брала на сябе ў рамках ААН, АБСЭ, міжнародных актаў аб правах чалавека не выконваюцца. Усталяваўся рэжым, які ня толькі шкодзіць разьвіцьцю краіны, ня толькі выкананьню асноўных свабодаў і правоў чалавека, але яшчэ небясьпечны і ў міжнародным кантэксьце. Таму, я лічу, што дэмакратычныя краіны проста абавязаныя падтрымаць альтэрнатыўныя сілы, перш за ўсё, якія займаюцца абаронай правоў чалавека, распаўсюдам альтэрнатыўнай інфармацыі. Так існуе дэмакратычны сьвет, таму мы маем права чакаць такой падтрымкі», -- заявіў "Радыё Свабода" міжнародны каардынатар*

*грамадзянскай ініцыятывы Хартыя'97, адзін з лідараў "Свабоднай Беларусі" Андрэй Саннікаў, каментуючы ініцыятывы Злучаных Штатаў.*

У законапраекце не раскрываецца, па якіх каналах будзе павялічвацца вяшчаньне на Беларусь. Сродкі праходзяць па артыкуле фінансаваньня дзейнасьці Рады упраўляючых замежным вяшчаньнем, што адказвае за працу "Голаса Амэрыкі" і Радыё Свабода.

Для параўнаньня: на вяшчаньне на Кубу цягам бліжэйшых двух гадоў прадугледжаны сродкі ў памеры 67 мільёнаў даляраў, на глушэньне радыёстанцыі "Свабодная Азія" Віетнаму выдаткоўваецца больш за 9 мільёнаў даляраў.

Што да сродкаў на разьвіцьцё дэмакратыі, працытую дакумэнт: *"У кожным фінансавым годзе - 2006 і 2007-м, дазваляецца выдаткаваць па 12 мільёнаў даляраў для спрыяньня разьвіцьцю дэмакратыі ў Беларусі, уключаючы свабодны і сумленны выбарчы працэс, на разьвіцьцё палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, разьвіцьцё дэмакратыі, павагу правоў чалавека і вяршынства закону, на незалежныя СМІ і міжнародныя абмены, а таксама навучальныя праграмы для лідэраў дэмакратычных сіл, якія ўмацоўваюць грамадзянскую супольнасьць"*

Ці вялікія гэта грошы, і куды іх лепш разьмеркаваць?

*"Трэба глядзець, на што канкрэтна выдаткоўваюцца гэтыя грошы. Адна справа, калі гэта проста на вяшчаньне. Іншая, калі выдаецца на трэці сэктар і на нейкія іншыя праекты. І падругое, дакладна вызначыць, якая сума. У прынцыпе – гэта невялікія грошы, каб яны маглі істотна паўплываць на сытуацыю. Прынамсі, першапачаткова так падаецца. Таму што частка застаецца ў саміх амэрыканцаў на падтрымку розных офісаў, паездак"*, -- паведаміў палітоляг Андрэй Казакевіч.

Міжнародны каардынатар "Хартыі-97" Андрэй Саннікаў таксама лічыць, што гэта сродкі, ў першую чаргу, на падтрымку грамадзянскай супольнасьці, на разьвіцьцё альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі і на міжнародныя праекты – правядзеньне, да прыкладу незалежнага расьсьледаваньня справаў зьніклых.

*"Напрыклад, мяне цікавіць пытаньне зьніклых і зьняволеных палітыкаў у Беларусі. Калі з такой дапамогай (а гэта ня толькі фінансавая дапамога, мы перш за ўсё зацікаўленыя ў маральнай падтрымцы і салідарнасьці дэмакратычных краінаў), калі гэта дазволіць вызваліць зьняволеных - Марыніча, Леванеўскага, а зараз адпраўляюць на "хімію" Статкевіча, Севярынца, Клімава, успомнім Бандажэўскага, тады я магу казаць, што гэтыя грошы былі эфэктыўна скарыстаныя"*, -- лічыць Саннікаў.

*************************************************************

# Паявіцца новае беларускае радыё?

Прэм'ер-міністар Польшчы Марэк Бэлька перадаў 950 тысячаў злотых на стварэньне незалежнай радыёстанцыі, якая вяшчала б з тэрыторыі Польшчы пабеларуску ў Беларусь. Як паведаміў Інфармацыйны цэнтар польскага ўраду, грошы атрымаюць няўрадавыя арганізацыі. Сродкі прызначаныя з рэзэрваў польскага бюджэту. Ці амаль мільён злотых (300 тысячаў даляраў) гэта дастаткова, каб стварыць радыё?

Незалежны гарадзенскі журналіст Мікола Маркевіч, які раней падрыхтаваў праект беларускага радыёвяшчаньня лічыць, што прызначаныя сродкі недастатковыя.

Маркевіч: **— Усё залежыць ад канцэпцыі радыёвяшчаньня і намераў арганізатараў. Ці сапраўды арганізаваць сапраўдную альтэрнатыўную інфармацыйную прастору для беларусаў, ці толькі заакцэнтацаць гэтую праблему і зрабіць дэкарацыю, якая ня будзе прыдатная для вырашэньня практычных справаў. Калі гэта будзе другое, то зразумела, гэта дастатковая сума. А калі маюцца на ўвазе планы й мары беларусаў, якім патрэбнае вольнае слова, то гэта абсалютна недастатковая сума, нават для нейкіх арганізацыйных захадаў. Я ня маю адносін да гэтай інфармацыі, але прадэкляраваная сума сьмешная. Калі гэта першае й апошняе, то гэта нават не выклікае зьдзіўленьня, гэта выклікае водгук кшталту: "Гара нарадзіла мышку!"**

Якая радыёстанцыя патрэбная Беларусі? Маркевіч лічыць, што пры цяперашніх умовах Польшча мае тэхнічныя магчымасьці, каб пачаць вяшчаць пабеларуску ў фармаце FM.

Маркевіч: **— Найбольш прыдатным і аптымальным варыянтам для Беларусі магло б стаць FM-вяшчаньне на такія гарады як Гродна, Брэст і Ваўкавыск. Гэта праграма мінімум. Пад гэтую праграму ў Польшчы ёсьць усе рэальныя, тэхнічныя й арганізацыйныя магчымасьці.**

Пакуль размовы наконт заснаваньня ў Польшчы беларускамоўнага вяшчаньня амаль сакрэтныя, адзінае што вядома, гэта тое, што станцыя мае атрымаць грошы з Эўразьвязу, а справай найбольш цікавяцца палітыкі Грамадзянскай плятформы.

На думку віцэ-старшыні Эўрапарлямэнту Яцэка Сарыюша-Вольскага, Эўрапейская Камісія хоча дапамагчы ў фінансаваньні незалежнага радыёвяшчаньня ў Рэспубліцы Беларусь. Ён сказаў, што ўжо восеньню мінулага году Эўразьвяз прызначў сродкі на заснаваньне беларускамоўнай станцыі. Вольскі дадаў, што набліжаецца час, калі можна будзе выкарыстаць гэтыя сродкі.

Сарыюш-Вольскі: **— Увесь час Эўракамісія аналізавала гэтую справу. Сёньня ёсьць заява камісара Фэрэра-Вальднэр, што Камісія гатовая передаць сродкі на стварэньне радыёстанцыі, якая вяшчала б з тэрыторыі Польшчы, Латвіі й Летувы. Я лічу, што неўзабаве свабоднае радыё будзе вяшчаць беларусам у Беларусі.**

Яцэк Сарыюш-Вольскі дадаў, што незалежнае радыё "Рацыя", ужо йснавала, але ягоная праца была перапыненая з-за адсутнасьці фінансавых сродкаў. На думку палітыка Грамадзянскай плятформы, беларускай радыёстанцыі не хацеў тады падтрымаць урад Саюзу левых дэмакратычных сілаў.

Як мы інфармавалі, нямецкая радыёстанцыя "Deutsche Welle" перамагла тэндэр Эўрапейскай Камісіі на адкрыцьцё замежнага вяшчаньня ў Рэспубліку Беларусь. Нямецкая радыёстанцыя мела ў плянах ад восені пачаць передаваць штадзённыя 15-хвілінныя інфармацыйныя выпускі для беларусаў. Цяпер штодня "Deutsche Welle" будзе рыхтаваць паўгадзінныя передачы, на якія зь бюджэту Эўракамісіі атрымае 138 тысяч эўра. Адзіная праблема ў тым, што ў Беларусь зь Нямеччыны будуць вяшчаць... па-расейску. Гэта выклікала хвалю крытыкі з боку саміх беларусаў.

Пра патрэбу стварэньня незалежнага радыёвяшчаньня для Беларусі казалі здавён. Справа стала актуальнай на форуме эўрапейскай супольнасьці пасьля восеньскіх парлямэнцкіх выбараў, якія летась адбыліся ў Беларусі. Тады група польскіх эўрадэпутатаў, якая падрыхтавала праект рэзалюцыі па Беларусі, рэкамэндавала Эўрапейскай Камісіі прызначэньне фінансавых сродкаў на стварэньне беларускага радыё й тэлебачаньня ў замежжы. У сувязі з апошнімі падзеямі, зьвязанымі з польска-беларускім дыпляматычным крызысам і напружанай сытуацыяй вакол Саюзу палякаў, польскія ўлады заявілі аб прысьпешаньні працы ў напрамку стварэньня незалежнай беларускай радыёстанцыі. Аднак выявілася, што ў той жа самы час Эўрапейская Камісія аб'явіла тэндэр на стварэньне радыёперэдачаў для Беларусі. Разм з "Deutsche Welle" заяўкі на конкурс падалі буйныя эўрапейскія станцыі "Euronews" і "BBC World Service". Перамагла "Deutsche Welle"

Не зважаючы на рашэньне Эўракамісіі, заснаваць незалежнае беларускамоўнае вяшчаньне спрабуе на сваёй тэрыторыі таксама Польшча.

Дыскусіі выклікаюць тэхнічныя магчымасьці стварэньня радыёстанцыі. Старшыня Польскай рады радыёвяшчаньня й тэлебачаньня Данута Ванек лічыць, што замест будаваць магутныя перадатчыкі з большым абсягам, варта выкарыстаць частоты й перадатчыкі беларускага радыё "Рацыя", якое вяшчала ў Беластоку, але некалькі гадоў таму з-за адсутнасьці грошай спыніла дзейнасьць.

Ванек: **— Беларускі саюз у Польшчы меў частоты, якімі мог увесь час карыстацца. Яны спынілі вяшчаньне з-за адсутнасьці грошай. Я б прызначыла грошы на тое, што ўжо ёсьць.**

Былы польскі дыплямат, якому беларускае МЗС загадала ў траўні пакінуць Беларусь, Марэк Буцька, лічыць, што радыёперадатчыкі „Рацыі" надта слабыя. Передачы на сярэдніх хвалях траплялі да малой групы жыхароў заходняй Беларусі.

Буцько: **— Новае радыё павінна вяшчаць як FM-станцыя, на сярэдніх хвалях у Беларусі мала хто слухае радыё, ды й чутнасьць слабая.**

Пабудова новага перадатчыка з большым абсягам — гэта няпростая справа — тлумачыць віцэ-дырэктар па пытаньнях тэхнікі ў Польскай радзе радыёвяшчаньня й тэлебачаньня Мар'ян Кісло. Згодна зь міжнароднымі пагадненьнямі, на гэта вымушаныя згадзіцца краіны, на тэрыторыю якіх будзе трапляць сыгнал, у тым ліку й Беларусь.

Кісло: **— Некаторыя кажуць, што з увагі на такі канфлікт можам не дамаўляцца зь беларускім бокам. Але гэта можа мець адмоўныя наступствы для Польшчы, таму што зь Беларусяй дамаўляемся ня толькі наконт частот для радыё, але таксама й лічбавага тэлебачаньня.**

Рафал Садоўскі з Цэнтру Ўсходніх Дасьледваньняў лічыць, што трэба як найхучэй заснаваць радыёстанцыю для Беларусі, таму што беларусы патрабуюць незалежнай інфармацыі.

Садоўскі: **— Радыё, якое пляную вяшчаць з тэрыторыі Польшчы, мае перадаваць незалежную й аб'ектыўную інфармацыю ўсім грамадзянам Беларусі на іх мове, дзякуючы самім беларусам. Асноўная праблема — гэта недахоп доступу беларусаў да незалежнай інфармацыі й гэтая радыёстанцыя мае пераламаць блякаду.**

Між тым, каб апазыцыйная радыёстанцыя пачала вяшчаць, патрэбная перш за ўсё палітычная воля як з боку Польшчы, так і Эўрапейскай Камісіі. Пакуль у польскім праекце ніхто н е разглядае магчымасьці вяшчаць па-расейску.

**Тамаш Саевіч** - Warszawa

*************************************************************

# Мы — беларусы!

## У Мінску прайшоў IV З'езд беларусаў свету

Раз у чатыры гады прадстаўнікі беларускіх дыяспар з усіх краін свету прыязджаюць у Мінск, каб сустрэцца і абмеркаваць праблемы Бацькаўшчыны. Менавіта ў гэтыя дні ў Мінску можна сустрэць людзей, імёны якіх некаторы час былі проста забаронены ў нашым грамадстве.

На жаль, у гэтым годзе шэраг вядомых дзеячаў беларускай дыяспары, у тым ліку Кастусь Акула (Канада), Барыс Кіт (Германія) і Аляксандр Надсан (Вялікабрытанія), не змаглі прыехаць на з'езд па ўзросце і стане здароўя. А некаторыя — старшыня рады "Беларускай Народнай Рэспублікі" Івонка Сурвілла, а таксама дэлегацыі з Бельгіі і Канады — па палітычных меркаваннях. На жаль, баяцца ехаць у Беларусь і некаторыя эмігранты новай хвалі — паколькі фармальна ў Беларусі не прадугледжана двайное грамадзянства, гэтыя людзі баяцца таго, што ў іх адбяруць беларускія пашпарты, прымусяць плаціць падаткі, ісці ў армію і г.д. І ўсё ж такі з'езд адбыўся. Улады праігнаравалі гэтую падзею, але, дзякуй Богу, не сталі ёй перашкаджаць.

**Усе мы — беларусы**

Адкрываў з'езд даклад старшыні грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" Анатоль Грыцкевіч. "Беларусы, якія жывуць на радзіме і ў эміграцыі, амаль адарваныя адзін ад аднаго і не могуць развіваць кантакты", — заявіў вядомы навуковец. Паводле яго слоў, тэндэнцыя адасобленасці карэннай нацыі краіны ад яе дыяспары ўзмацнілася ў апошняе дзесяцігоддзе, што звязана як з палітычнымі, так і з эканоміка-мытнымі прычынамі. Разам з тым, зазначыў ён, "магутны патэнцыял беларускай дыяспары" мае вялікае значэнне для захавання беларускай прысутнасці ў свеце, і гарантыяй яго з'яўляецца ў тым ліку дзейнасць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі.

**Чым Амерыка абавязана Беларусі?**

Пасол ЗША ў Беларусі Джордж Крол у сваім выступленні на з'ездзе выказаў захапленне народам, культурай і прыродай, а таксама гісторыяй і мовай Беларусі — "адной з самых старажытных і прыгажэйшых" моў Еўропы. "Прайшоўшы вельмі цяжкія выпрабаванні, войны, рэпрэсіі і чарнобыльскую катастрофу, беларусы праявілі сябе стойкай, мужнай і мудрай нацыяй", — заявіў дыпламат. Паводле яго слоў, Амерыка абавязана беларускаму народу, чые сыны праславілі ЗША. Сярод іх Дж.Крол назваў Тадэвуша Касцюшку — героя барацьбы за незалежнасць Амерыкі, вучонага Барыса Кіта, дзякуючы якому ЗША пабывалі на Месяцы, а таксама Зору Кіпель, чый унёсак у дзейнасць публічнай бібліятэкі Нью-Йорка зрабіў яе сусветна вядомай.

**Аб комплексах**

Вядомы дзеяч эміграцыі ЗША доктар гісторыі Янка Запруднік звярнуў увагу на кансервацыю ў значнай частцы беларусаў двух комплексаў — прыніжанасці і высакамернасці. "Каб пазбавіцца іх, краіна не павінна знаходзіцца на ўскрайку сусветнага працэсу глабалізацыі", — падкрэсліў вучоны. На яго думку, значная роля ў пераадоленні ізаляцыі і паскарэнні тэмпаў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны належыць кансалідацыі беларусаў свету.

Дарэчы, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Алег Гардзіенка ў сваім выступленні адзначыў скарачэнне колькасці беларускай дыяспары. Так, паводле яго слоў, калі раней называлася лічба 3,5 млн. чалавек, то цяпер яна выклікае сумнеў. Паводле апошніх звестак, у дыяспары жывуць не больш за 2,1—2,4 млн. беларусаў, што складае 20 працэнтаў этнічных беларусаў свету.

**На адной мове** ............................................

Інтэлігенцыі давядзецца правесці цяжкую працу па абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў. Такую думку падчас пасяджэння выказаў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Паводле яго меркавання, "аранжавая" рэвалюцыя ў суседняй Украіне мела нацыянальна-дэмакратычны характар. "Каб паўтарыць украінскі досвед, трэба ўмацоўваць пазіцыі беларускай мовы, пашыраць арэал яе распаўсюджвання, выкарыстоўваць іншыя сродкі кансалідацыі нацыі". Адно з іх, лічыць Н.Гілевіч, — нацыянальна-дэмакратычны гімн, неабходнасць выбару якога даўно

наспела. Н.Гілевіч мяркуе, што такім гімнам мог бы стаць "Ваяцкі марш" на словы Макара Краўцова і музыку Уладзіміра Тэраўскага.

На думку вядомага беларускага дыпламата Пятра Краўчанкі, сітуацыю ў краіне можна акрэсліць трыма панацыямі: навала, выжыванне і нацыянальная ідэя. "Вораг захапіў наш дом і здзекуецца з нас. Нацыя перад выбарам: жыць ці памерці. Адзіным выйсцем з сістэмнага крызісу з'яўляецца рэалізацыя нацыянальнай ідэі", — лічыць П.Краўчанка

**Новы кіраўнік — Алесь Марачкін.**

Новым кіраўніком ГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" быў абраны вядомы беларускі мастак 65-гадовы Аляксей Марачкін. Гэта адбылося на заключным пленарным пасяджэнні з'езда. Прычым А.Марачкін быў абраны на безальтэрнатыўнай аснове пераважнай большасцю галасоў.

Нагадаем, што першым лідэрам ЗБС быў пісьменнік Васіль Быкаў. Яго змяніў акадэмік, доктар геолага-мінералагічных навук Радзім Гарэцкі. У перыяд паміж III і IV з'ездамі аб'яднанне ўзначальваў доктар гістарычных навук прафесар Анатоль Грыцкевіч.

А.Марачкін вядомы не толькі як мастак-пейзажыст, партрэтыст і стваральнік антытаталітарных інсталяцый, але і як грамадскі дзеяч, які арганізаваў і ўзначаліў суполку "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў, якая стаіць на пазіцыях нацыянальнага адраджэння.

Алесь Марачкін быў адным са стваральнікаў Беларускага народнага фронту і Партыі БНФ, удзельнікам шматлікіх акцый апазіцыі, пачынаючы з канца 80-х гадоў, у тым ліку акцый па ўвекавечанні памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій у Курапатах і "Чарнобыльскага шляху".

**Без сваіх і чужых**

Па выніках з'езда прыняты шэраг дакументаў. Сярод іх — рэзалюцыя, у якой дэлегаты звяртаюцца да ўлад краіны з прапановай не падзяляць беларускую дыяспару па палітычных прыкметах, не ствараць штучныя альтэрнатывы "Бацькаўшчыне", якая імкнецца аб'ядноўваць беларусаў свету і каардынаваць культурна-асветніцкую дзейнасць беларускіх суполак замежжа.

Удзельнікі з'езда заклікалі ўлады запрашаць прадстаўнікоў "Бацькаўшчыны" да ўдзелу ў распрацоўцы законаў і іншых актаў, што тычацца беларускай дыяспары, выдаткоўваць бюджэтныя сродкі на рэалізацыю праграмы "Беларусы замежжа", прынятай на з'ездзе. Дэлегаты падтрымалі ініцыятыву стварыць на базе ЗБС Беларускага дома з інфармацыйным і навукова-даследчым цэнтрам, бібліятэкай па беларусазнаўстве, архівам і музеем гісторыка-культурнай спадчыны беларускага замежжа. У сувязі з гэтым удзельнікі з'езда лічаць неабходным захаваць за "Бацькаўшчынай" яе сённяшнюю штаб-кватэру па вуліцы Рэвалюцыйнай, 15 у Мінску пры пагрозе магчымага пераразмеркавання арэнднага фонду падчас планаваемай рэканструкцыі Верхняга горада.

Акрамя таго, прыняты зварот да суайчыннікаў у Беларусі і за мяжой з заклікам да кансалідацыі і супрацоўніцтва з "Бацькаўшчынай", а таксама рэзалюцыя аб беларускай мове. У гэтым дакуменце ад дзяржаўных органаў краіны дэлегаты патрабуюць забяспечыць прыярытэтнасць беларускай мове.

Марат ГАРАВЫ, Алена НОВІКАВА. / Н.В./

*****************************************************

# Ці незалежныя мы без сваёй мовы?

Калі глядзеў па канале АНТ чацвёртую серыю адыёзна-афіцыёзнага фільма "Новейшая история", мяне дужа цікавіла адна рэч. А менавіта: што скажуць "адвакаты" надання рускай мове ў Беларусі статусу дзяржаўнай, і як яны разумеюць так званае "двуязычие". "Так званае" таму, што ў рэальнасці яно, нягледзячы на статус закона, і блізка не існуе, а паўсюдна — зверху данізу — усталявалася спрэс рускамоўе. Ды і сам канал прыводзіць да раздваення свядомасці і неразумення, дзе ты жывеш — у Беларусі ці Расіі?

Тэрмін "двуязычие" спатрэбіўся патэнцыяльным рэстаўратарам СССР дзеля таго, каб закамуфліраваць, схаваць сапраўдную мэту палітыкі русіфікацыі — этнічнага генацыду беларускага народа. Вось дзве трактоўкі русіфікацыі як з'явы: "делать русским по языку и обычаям" (С.Ожэгаў) і "насильственное распространение русского языка и культуры среди национальных меньшинств" (І.Шыршоў). Што ж, можна "павіншаваць" беларускі народ з тым, што яго занеслі ў "национальное меньшинство" Расійскай дзяржавы. Заслужылі! У гэтых трактоўках і палягае сапраўдны сэнс "двуязычия", калі "насильственным" шляхам "национальное меньшинство" делается "русским по языку и обычаям". Пасля такой асіміляцыі народ як народ перастае існаваць. Дзе зараз, да прыкладу, некалі вядомыя славянскія народы люцічы і бодрычы? Анямечаныя, яны зніклі з твару Зямлі...

Зрэшты, дамо слова самім стваральнікам "Новейшей истории". Дыктар: "...возвращение русскому языку государственного статуса можно было рассматривать как хороший дружеский знак союзной России..."

Хлусня! Руская мова ніколі ў СССР і ў Беларусі не мела афіцыйнага "государственного статуса", па крайняй меры, не было апублікаваных юрыдычных актаў на гэты конт. Таму і ў "возвращении" не было ніякай патрэбы.

Слоўная эквілібрыстыка, якая суправаджала палітыку русіфікацыі ў СССР, вартая таго, каб яе нагадаць. Адносна рускай мовы тады ва ўжытку былі азначэнні: "добровольно изучаемый" (пры Леніне), "второй язык", "общий язык общения и сотрудничества всех народов СССР", "язык великого Ленина", "язык межнационального общения", "межгосударственный язык для республик", "общий язык всех социалистических наций", "национально-русское двуязычие" (1987 г.), "государственность русского языка" (на самай справе — рускае аднамоўе. — А.Р.). У адносінах да роднай мовы ("языка") — "обязательный" (пры Леніне), "добровольно изучаемый" (1958 г., пры Хрушчове), "местный язык" (! — А.Р.), "бытовой язык" (! — А.Р.). Звярніце ўвагу на дынаміку ўзрастання ролі рускай мовы — ад добраахвотна вывучаемай да абавязковай. І разам з тым змяншэннем ролі роднай мовы ад абавязковай да добраахвотна вывучаемай. Мовы памяняліся (не самі — іх памянялі) месцамі: родная стала чужой, чужая — замест роднай. Вось гэта і ёсць палітыка русіфікацыі, на справе — рэальная дыскрымінацыя мовы карэннага народа.

Дыктар: "...утвердив двуязычие, можно было избежать дискриминации и раскола в обществе...". На самай справе "дискриминации и раскола в обществе" ўжо нельга было "избежать", бо яшчэ да "утверждения двуязычия" беларускі народ ужо быў расколаты пры дапамозе рускай мовы, хаця сённяшні рэктар БДУ, выступоўца ў фільме "Новейшая история" Васіль Стражаў (і падобныя яму, хто заўжды "на страже" рускага аднамоўя) лічыць, быццам менавіта "беларуская мова — гэта сродак раз'яднання". Прыехалі! Меў рацыю Васіль Быкаў, калі сказаў, што Беларусь — нейкая анамалія. Вучоныя ўсяго свету зрабілі выснову аб тым, што РОДНАЯ МОВА з'яўляецца СРОДКАМ СТАБІЛЬНАСЦІ грамадства, а В.Стражаў упарта сцвярджае адваротнае. Яго "вучэнне" ўсё яшчэ абапіраецца на савецкае мысленне. Праўда, ён ледзьледзь "не дацягнуў" да лагічна правільнай высновы, сказаўшы, што "мова ўзнікла як сродак аб'яднання людзей, аб'яднання намаганняў". Вось гэта правільна! Наша мова ўзнікла "як сродак аб'яднання" народа на карысць Беларусі. Руская ж была ўведзена на чужой для яе тэрыторыі як сродак "аб'яднання намаганняў" Расійскай імперыі, потым — савецкай на карысць метраполіі — Расіі.

Але ж гэтыя імперыі ляснуліся! Па логіцы, пасля іх распаду каланіяльныя народы вяртаюць сабе родную мову. Гэта — універсальны закон. У Беларусі ж адбылося неверагоднае! Замест вяртання роднай мовы краіна фактычна — праз мову чужую — вярнула сабе статус калоніі, перайшоўшы поўнасцю на мову былой імперыі.

Узрадаваў і адначасова засмуціў мяне яшчэ адзін прамоўца — Аляксандр Патупа. Парадаваў тым, што пацвердзіў афарызм старажытных рымлянаў "у каго мова — у таго і ўлада". Ён сказаў "...это (беларусізацыя. — А.Р.) была не вполне добросовестная попытка как бы группы людзей (напэўна, гэтая "група" — беларусы. — А.Р.) сделать себе за счет этого огромное преимущество: они владеют языком — они будут иметь доступ к любым должностям..." (падкрэслена мною. — А.Р.). Аказваецца, тыя, хто праводзіў тут палітыку беларусізацыі, "просто не поняли того, что да, есть национально-этническое большинство, правильно, но — языковое меньшинство". У адрозненне ад нацыяналістаў, А.Патупа "понял"...

Затое "не понял", чаму Аўстрыя размаўляе на нямецкай мове, і гэтым мяне засмуціў. Яго параўнанне моўнай сітуацыі ў гэтай еўрапейскай краіне і ў Беларусі — ці свядомая хлусня, ці несвядомае неразуменне. У аўстрыйцаў ("этнического большинства") нямецкая мова — спрадвеку іх родная (аўстрыйскай у прыродзе не існуе, а беларуская існуе). Вось чаму "Австрия, пользующаяся там немецким языком, вовсе не является каким-то в связи с этим жутким, так сказать, государством" (А.Патупа). Тут варта дадаць: верне беларускі народ сабе родную мову — і таксама не будзе "жутким, так сказать, государством"!

Такім чынам, па версіі стваральнікаў фільма, родная мова — гэта сродак раз'яднання, а "двуязычие" — панацэя ад "дискриминации и раскола в обществе". Трэба ж даўмецца да такога кашчунства! Што, будзем цяпер "чакаць", што з-за польскай мовы адбудзецца раскол польскага грамадства, з-за чэшскай — чэшскага, з-за венгерскай — венгерскага і г.д. Ды такое і ў пачварным сне немагчыма!

...Ад фільма, зробленага на пачатку XXI стагоддзя, патыхае эпохай канца 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага веку, калі ў СССР былі знішчаны "буржуазные науки" і з дапамогай "сталінскага дыямата" запанавалі злавесная лысенкаўшчына і "народны мічурынскі дарвінізм", якія былі выведзены з-пад навуковай крытыкі і карысталіся моцнай палітычнай падтрымкай тагачаснай улады, як карыстаецца зараз усё антынавуковае, што выпаўзае з цемры і рушыць супраць сапраўднай культуры і навукі.

Дык аб чым гэтая "Новейшая история"? Аб тым, як пасля рэферэндуму 1995 года ў Беларусь разам з дзяржаўнасцю рускай мовы фактычна вярнулася савецкая ўлада. "У каго мова — у таго і ўлада". Дык ці сапраўды незалежная сёння Беларусь без сваёй мовы?

Алесь РАШЧЫНСКІ, кампазітар. /N.Vola/

*****************************************************

# Бэнэфіс Сакрата Яновіча



У Беластоку адбыўся бэнэфіс вядомага беларускага пісьменьніка Беласточчыны Сакрата Яновіча. Ушанаваць аднаго з найвыдатнейшых беларусаў у Плшчы прыйшлі ягоныя сябры й паклоньнікі ягонай творчасьці.

Пасьля сустрэчы ў Беластоку ніхто не сумняецца ў тым, што Сакрат Яновіч гэта знакавая асоба не толькі для беларускага асяроддзя Польшчы, але таксама для палякаў, якія шмат чаго пра Беларусь і беларусаў даведваюцца пастаянна з кніг, напісаных менавіта Яновічам.

Непакорлівы беларускі скандаліст, сумленьне польскіх беларусаў - гэта толькі некаторыя акрэсьленьні, якія цягам гадоў выпрацаваў сабе Сакрат Яновіч. На ягоных кнігах выхоўваецца ўжо трэцяе пакаленьне маладых беларусаў.

У размове з нашай радыёстанцыяй С.Яновіч прызнаў, што бэнэфіс не завяршае ягонай дзейнасьці. Амаль 70-гадоваму пісьменьніку жыцьцёвай энэргіі й цікавых ідэяў можа пазайздросьціць не адзін малады чалавек.

С.Яновіч нарадзіўся ў 1936 годзе ў Крынках. Пасьля завяршэньня вучобы ў Варшаўскім унівэрсытэце й кароткага пэрыяду ў Беластоку, ён надалей жыве ў Крынках, дзе вядзе культурную асацыяцыю Villa Sakrates, якая Крынкі й Беласточчыну набліжае да Эўропы.

Ягоныя самыя вядомыя кнігі гэта "Беларусь, Беларусь" і "Беларусь terra incognito" . Яновіч піша дзёньнікі, якія час ад часу выходзяць друкам. Ад 2000 г. выдае ён "Annus Albaruthenicus, hod biełaruski". У 2003 г. быў ляўрэатам прэміі імя Анджэя Дравіча - прэстыжнай узнагароды за дзейнасьць на карысьць прымірэньня паміж культурамі. Бо хаця вельмі непакорлівы й зьедлівы Яновіч, то ягонай працы на карысьць беларускай меншасьці ў Польшчы цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў пераацаніць немагчыма.

Т.Саевіч, Беласток

*****************************************************

# У Германіі знойдзена Біблія ў перакладзе Францыска Скарыны

**Аліна ГРЫШКЕВІЧ, БЕЛТА**

У Германіі знойдзена беларуская Біблія эпохі Рэфармацыі. Федэральнае міністэрства замежных спраў Германіі 1 верасня прадставіць грамадскасці ў Берліне пераклад Бібліі, выкананы беларускім гуманістам Францыскам Скарынам. Кніга была нядаўна знойдзена ў Гёрліцкай бібліятэцы Верхнялужыцкага навуковага таварыства.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў пасольстве Беларусі ў Германіі, Біблія надрукаваная ў Празе ў 1517—1519 гадах. Яна змяшчае 658 аркушаў (1316 старонак). З 1527 года Біблія з'яўляецца ўласнасцю Гёрліца. Навуковую каштоўнасць знаходкі нядаўна пацвердзіў германскі славіст Норберт Рандаў, які на працягу многіх гадоў з'яўляецца кансультантам цэнтра моўнай падрыхтоўкі Федэральнага міністэрства замежных спраў.

Біблія, перакладзеная і выдадзеная Францыскам Скарынам, з'яўляецца першай друкаванай кнігай на адной з усходнеславянскіх моў. З усіх друкаваных выданняў Скарыны цяпер вядомы 258 экзэмпляраў. Біблія, знойдзеная ў Гёрліцы, з'яўляецца адзіным экзэмплярам, што ёсць у бібліятэках Германіі. Як падкрэслілі ў германскай дыпламатычнай місіі, унікальная знаходка можа даць магутны імпульс вывучэнню славістыкі і беларускай культуры ў Германіі.

*****************************************************

# „Незалежнасьць Беларусі зь неба не звалілася"

Роўна пятнаццаць гадоў таму, 27-га жніўня 1990 году, Вярхоўны Савет БССР 12-га скліканьня прыняў Дэклярацыю ад дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Як дайшло да ўзьнікненьня гэтага дакумэнту, і якое значэньне ён мае цяпер, праз 15 гадоў? Тэму дасьледваў Тамаш Саевіч.

У той час распадаўся Савецкі Саюз, а зь ягоных парэшткаў выраcталі свабодныя краіны. У Вярхоўным Савеце БССР 12-га скліканьня пераважную большасьць складалі камуністы й гэта іх трэба было пераканаць да прыняцьця Дэклярацыі. Хаця гэта здавалася немагчымым, стваральнікі дэклярацыі, дэпутаты ад Беларускага Народнага Фронту й на гэта знайшлі спосаб. Апавядае адзін са стваральнікаў дэклярацыі, тагачасны дэпутат ад БНФ, Алег Трусаў.

Трусаў: **– Гэта была заслуга апазыцыі, Беларускага Народнага Фронту. Пры тым, так хітра было зроблена, што сам я за яе не галасаваў. Мы ў знак пратэсту выйшлі, і яе прынялі камуністы. І потым я моцна сьмяяўся "Гэта вы прынялі, не мы!" – я казаў тады камуністам. Так мы хітра зрабілі, што мы іх падбілі на прыняцьцё, а ў знак пратэсту выйшлі з залі, а яны на злосьць нам прагаласавалі. Гэта цікава, што могуць часам значыць палітычныя змаганьні. Я лічу, што гэта быў рамантычны час. Гэта быў час надзеяў на лепшае, і, у прынцыпе, гэты час апраўдаў надзеі, таму што незалежнасьць Беларусі ёсьць.**

Нягледзячы на тое, што ў Дэклярацыі не знайшоўся запіс, які надаваў бы ёй статус канстытуцыйнага закону, што давала б Беларусі магчымасьць стаць незалежнай ад Канстытуцыі СССР і савецкіх законаў, то ўжо праз год, 25-га жніўня 1991 году Дэклярацыя аб сувэрэнітэце такі статус атрымала. Ад 1993 году 27-га ліпеня, на згодна з пастановай Вярхоўнага Савету, стаўся днём сьвяточным. Не на доўга. Толькі да лістапада 1996 году, калі Аляксандар Лукашэнка правёў чарговы рэфэрэндум. Ці ня сумна з пэрспэктывы 15-ці гадоў, што ня быў выкарастаны шанец? Працягвае Алег Трусаў.

Трусаў: **– Не, мне ня сумна, таму што шанец быў выкарыстаны цалкам. Незалежнасьць на Беларусь зь неба не звалілася. Мы маглі яе ня мець, каб былі іншыя людзі. І самае галоўнае, што мне падабаецца, што для нас асноўнае сьвята гэта 25-га сакавіка. У беларусаў адзінае сьвята, менавіта 25-га сакавіка 1918 году.**

27-га ліпеня як угодкі прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Беларусі застануцца аднак перш за ўсё ў памяці людзей, якія тады, так як Алег Трусаў, стварылі гісторыю незалежнай Беларусі. Як успамінае тыя падзеі былы старшыня Вярхоўнага Савету прафэсар Станіслаў Шушкевіч?

Шушкевіч: **– Гэта быў вельмі цікавы дзень. Гэта такія прыгоды, якім няма роўных. Падзея была няпростай, таму што прапанаваная цэнтральным камітэтам кампартыі Беларусі дэклярацыя, якую ўнёс Дземяньцей, утрымлівала 38 пунктаў і фактычна была новай СССР з чалавечым тварам. Мы параіліся ў Вярхоўным Савеце, і вырашылі яе дапрацаваць. Тады я дапрацоўваў яе з групай былых першых сакратароў, яны прыслухоўваліся, што мяняецца ў палітычнай частцы гэтай дэклярацыі. Здаецца, што 26 пунктаў пераўтварыліся ў 5. Аснова гэтай дэклярацыі сапраўды фіксавала беларускую незалежнасьць. Яна абвяшчала, што Беларусь робіцца незалежнай сувэрэннай дзяржавай, і я вельмі ганаруся, што гэта адбылося.**

Лідар БНФ Вінцук Вячорка лічыць, што ня гледзячы на прыход да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, сам факт прыняцьця Дэклярацыі 27-га ліпеня з гістарычнага пункту погляду вельмі важны.

Вячорка: **– 27-га ліпеня, калі была абвешчаная Дэклярацыя аб сувэрэнітэце, гэта быў у значнай ступені фармальны крок. Фактычна, мы сталі незалежнай краінай 25-га жніўня 1991 году, калі Дэклярацыя набыла статус канстытуцыйнага закону. Вось гэты час быў адначасова часам пабудовы падвалінаў сучаснай эўрапейскай, незалежнай і беларускай Беларусі. Гэта быў час, калі ствараліся вялізарныя шанцы для будучага дабрабыту, стварэньня сучаснага беларускага грамадзтва, падвалінаў магчымага сяброўства ў Эўрапейскім Зьвязе й у NATO. На жаль, прыблізна з канца 1992 году пачалося тармажэньне, якое закончылася ў 1994 прыходам да ўлады: Аляксандра Лукашэнкі, і рэзкім вяртаньнем краіны ў мінуўшчыну. Але дагэтуль застаецца абсалютна неацэнным сам факт вяртаньня незалежнасьці Беларусі. Я перакананы, што незалежная краіна Беларусь ёсьць незваротным фактам эўрапейскай і сусьветнай гісторыі й геапалітыкі.**

Краіна гэта народ. Народ гэта гісторыя, а гісторыя - гэта памяць, якая бяз людзей ня мае шанцаў на існаваньне. Як доўга выжыве сярод грамадзтва памяць пра 27-га жніўня?

**Тамаш Саевіч, Warszawa**

*****************************************************

# «Беларуская стае мовай багатых»

Старшыня ТБМ **Алег Трусаў** абураны намерам «Нямецкай хвалі» распачаць расейскамоўнае вяшчаньне на Беларусь, але ўпэўнены, што перамога будзе за беларушчынай. І канстатуе, што трасянка — гэта ад прыроды.

***На «Дойчэ вэле» акапаліся белагвардзейцы***

**«НН»: Якая думка прыйшла вам у галаву, калі Вы пачулі пра пляны «Нямецкай хвалі» стварыць расейскамоўную перадачу для Беларусі?**

**Алег Трусаў:** Я пачуў пра гэта па беларускай «Свабодзе» і вельмі зьдзівіўся, што радыё не зрабіла ніякага камэнтару. Мы накіравалі лісты паслу Нямеччыны, кіраўніку расейскай праграмы «Нямецкай хвалі», пад патранажам якой ствараецца беларуская перадача, а таксама кіраўніку самой радыёстанцыі. Гэта сьмешны аргумэнт: «Калі беларусы ведаюць расейскую мову, дык будзем рабіць па-расейску». Але ж у Нямеччыне шмат хто ведае ангельскую мову — дык давайце «Нямецкую хвалю» на ангельскую перавядзём. Але ёсьць радыё «Швэцыя» па-беларуску, і «Палёнія», і перадачы ў Літве ды Латвіі, Радыё Ватыкана, тая ж «Свабода». Цяпер мы вядзём перамовы, каб стварыць на BBC беларускамоўную службу ці хаця б маленькую перадачу. Калі адказ ад немцаў будзе адмоўны ці яго ня будзе ўвогуле, мы пачнём зьбіраць подпісы грамадзян і дасылаць іх у пасольства Нямеччыны. Мы ведаем, як дасягнуць посьпеху.

**«НН»: Але чаму немцы вырашылі парушыць традыцыю вяшчаньня на Беларусь з-за мяжы па-беларуску?**

АТ: Гэта ініцыятыва расейскай рэдакцыі станцыі. Відаць, там акапаліся «былыя белагвардзейцы» з сваёй ідэяй «адзінай і непадзельнай». Калі яны вяшчаюць на Расею па-расейску, дык няхай і вяшчаюць. Але вяшчаць адмыслова на Беларусь па-расейску — такога ня трэба. Лепш няхай яны ніякай перадачы ня робяць, чым будуць рабіць па-расейску.

***Моўнае пытаньне вечнае. Гэта палітыкі зацерліся***

**«НН»: Ці не здаецца Вам, што моўнае пытаньне адышло на другі плян, зацерлася нават у самой Беларусі?**

**АТ:** Моўнае пытаньне вечнае. Гэта палітыкі зацерліся. Многім ужо даўно пара на пэнсію, пісаць мэмуары, гадаваць унукаў і не дурыць людзям галавы.

**«НН»: Сярод апазыцыйных палітыкаў ёсьць тыя, хто практыкуе дзьвюхмоўе. Ці апраўданы «тактычны» адыход ад беларускай мовы падчас палітычнай кампаніі з намерам пасьля перамогі вярнуцца да яе?**

**АТ:** Людзі, якія гэта абяцаюць, ніколі так ня зробяць. Калі такі чалавек прыйдзе да ўлады, расейшчына папрэ яшчэ больш. Таму яны да ўлады і не прыходзяць. Такі ўжо наш народ. І тое, што Лукашэнка размаўляў на трасянцы, дало яму шмат балаў, бо наш народ увесь размаўляе на трасянцы.

**«НН»: Дык, можа, насьпела патрэба ў кандыдаце, які прафэсійна валодае трасянкай?**

**АТ:** Штучна такога чалавека ня зробіш: трасянка — гэта ад прыроды.

**«НН»: Ці маюць рацыю тыя, хто лічыць, што палітык, які карыстаецца беларускай мовай, траціць у папулярнасьці?**

**АТ:** Наадварот, гэта заўжды вядзе да павышэньня папулярнасьці. Магу давесьці на ўласным прыкладзе. Яшчэ ў савецкія часы, у 1990-м годзе, я перамог на выбарах у парлямэнт, пры гэтым я сам і ўся мая каманда размаўлялі па-беларуску. Каб размаўляў па-расейску, то прайграў бы. Цяпер рэйтынг беларускай мовы вельмі значна. Колас на мінулых парлямэнцкіх выбарах вёў кампанію па-беларуску і па выніках экзыт-полу набраў больш за 60% галасоў.

**«НН»: Існуе думка, што кожны беларус разумее родную мову, нават калі і не прызвычаіўся на ёй размаўляць.**

**АТ:** Я скажу шырэй: кожны чалавек, які доўга жыве ў Беларусі — гадоў дваццаць, — можа быць ці татарынам, ці азэрбайджанцам, а беларускую мову разумее.

**«НН»: Нават у нашых неспрыяльных для мовы ўмовах?**

**АТ:** А нашы ўмовы такія, што ён расейскай мовы нармальнай ня чуе нідзе. І, дарэчы, дзякуючы Лукашэнку. Выступае міністар адукацыі Радзькоў па-расейску і кажа, што школьнікі павінны дапамагаць бацькам зьбіраць «бульбу». Людзі асымілююцца і пераходзяць на трасянку цягам 10—15 гадоў. Я ведаю адну кітаянку, якая на трасянцы размаўляе, на добрай мсьціслаўскай гаворцы. Выйшла замуж за беларуса. Літаратурнай расейскай мовы ў Беларусі ад 5 да 10%. Усё астатняе — беларускае.

***Белмоўны брэнд — адразу прыбытак***

**«НН»: На якіх франтах наступае беларуская мова?**

**АТ:** У рэкляме і ў гандлёвых марках. Мы кожнаму прадпрымальніку, які па-беларуску зрабіў хоць маленькую назву, пішам падзяку. Як мы падзяку напісалі хлебазаводу №2, дырэктар запрасіў нас у госьці, пачаставаў хлебам і цяпер выпусьціў гатунак «Радзівілаўскі». Цікава, што цяпер вытворцы робяць так: брэнд на-беларуску, вялікімі літарамі, а ўсё астатняе на этыкетцы — дробным шрыфтам па-расейску.

**«НН»: А адкуль гэтая тэндэнцыя зьявілася?**

**АТ:** Бізнэсоўцы зразумелі: як толькі беларускамоўны брэнд — адразу прыбытак. Таму што людзям у вочы кідаецца. Ідзе расейскамоўная балбатня па БТ. Паўза, і пачынаецца рэкляма «Самсунгу», «Сьнежкі» ці «Рэно», на добрай беларускай мове, прыгожымі галасамі. Спажывец адразу прачынаецца, запамінае, ідзе і купляе.

**«НН»: Які статус набыла цяпер беларуская мова?**

**АТ:** Калі раней яе лічылі «калгаснай», дык цяпер гэта мова эліты — пісьменьнікаў, інтэлігенцыі і багатых людзей.

**«НН»: А які будзе наступны этап разьвіцьця мовы?**

**АТ:** Як толькі зьменіцца ўлада, пачнецца бурны пераход ад трасянкі да літаратурнай беларускай мовы. Будучы прэзыдэнт ужо будзе прамаўляць на літаратурнай мове, нават калі будзе зачытваць з паперкі.

**Гутарыў Алесь Кудрыцкі**

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

**ад Парахвіяльнае Рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.**

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Ню Ёрк, выказвае шчырую падзяку парахвіянам Мікалаю Вашкевічу, Расьціславу Гарошку, Віктару Дудараву, Сяргню Капытка, Анатолю Колбуну, Васілю Кузьменка, Віталю Міхноўскаму, Андрэю Падлескаму, Мікалаю Сагановічу ды Ўладзімеру Цяліцы за іхную ахвярную цяжкую працу пры зьмене вокнаў у саборным будынку, а таксама заканчэньні рамонту парахвіяльнае канцылярыі.

Разам зь імі Парахвіяльная Рада адумысловай падзякай адзначае й удзел у гэтай працы прадстаўнікоў нашае моладзі Івана Кудзіна й Віталя Пузача, ды заклікае ўсю нашую моладзь браць зь іх прыклад і далучацца да дапамогі ў аднаўленьні будынку нашае сьвятыні й грамадзкага асяродку.

Апрача вышэй пералічаных парахвіянаў на вялікую падзяку заслугоўваюць і нашыя парахвіянкі — сяброўкі Сястрынства імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкае — Зоя Вашкевіч, Ларыса Пузач і Ліна Сагановіч, за гатаваньне шчодрых пасілкаў для добраахвотных работнікаў і прыбіраньне ў будынку падчас ягонага аднаўленьня й у іншых патрэбах.

Урэшце, асаблівай падзякай Парахвіяльная Рада адзначае яшчэ й дзейнасьць парахвіянаў Юрага Зэкава, Сяргея Капытка, Андрэя Падлескага й Мікалая Сагановіча, што акрамя працы пры зьмене вокнаў, ахвярна аддавалі й аддаюць шмат часу ды сілы на пазалачэньне іканастасу ў царкве.

Няхай Бог шчодра ўзнагародзіць усіх іх за іхную ахвярнасьць!

Мы-ж, Дарагія Суродзічы, як адзін не забываймася на куток Роднага Краю, які знаходзім у нашай сьвятыні й грамадзкім цэнтры, а далучаймася да працы нашых ахвярных работнікаў ды шчодра складаймася грашыма, каб аднаўленьне гэтае супольнае беларускае гасподы можна было завяршыць якнайхутчэй.

Ахвяры на гэтую, дагодную Богу й карысную нацыянальнай справе мэту, будзьце ласкавыя перасылаць чэкамі на адрыс сабору:

St. Cyril of Turau Cathedral, 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N. Y. 11217-1702, або плацеце дыжурным сябрам Парахвіяльнае Рады пры наведваньні сабору.

Няхай-жа й Вас Бог багата ўзнагародзіць за Ваш шчодры водгук на наш заклік!

*Парахвіяльная Рада*
*Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.*



# Безназоўная смерць

Да 123 угодкаў з дня нараджэння Янкі Купалы

Не так даўно журналіст Сяргей Шапран запрасіў мяне і Рыгора Барадуліна на сустрэчу з чалавекам, які нібыта дакладна ведае пра тое, як загінуў Янка Купала. Чалавек гэты нарадзіўся ў сям'і, якая была блізкай да сям'і Купалы, але з першых жа ягоных слоў стала зразумела, што менавіта дакладнасці ягонаму аповеду і нестае. Тым не менш сустрэча з гэтым чалавекам, які віноўніцай смерці Купалы назваў маладуюжанчыну, падштурхнула мяне да таго, каб сабраць у адно запісы розных гадоў, з якіх і склаўся тэкст, які я прапаную ў скароце чытачам "Народнай волі".

Некалі, упершыню прачытаўшы "Безназоўнае", напісаную ў 1924 годзе і па сутнасці апошнюю купалаўскую паэму, я сярод іншага запісаў: "Беларусь і беларусы — запозненая мара гісторыі, не здольная здзейсніцца. Янка Купала — персаніфікаваная нявдзейсненасць гэтай мары. Сон пра мару".

Было гэта гадоў трыццаць таму... Шмат чаго за прамінулы час адбылося і ў свеце, і ўва мне. Цяпер я не думаю, што Беларусь — мара, не здольная здзейсніцца. І ўсё ж той Беларусі, пра якую бачыў сны Купала, як не было, так і няма, у гэтым сэнсе яна па-ранейшаму — "Безназоўнае". Як і тады, калі пісаў пра яе Купала сваю безназоўную паэму: "Было яно калісьці, Калі, як жаўталісце, Жылі мы — не жылі.".

Безназоўнае сёння хоць нібыта і расшыфраванае, хоць і мае назву "Беларусь", ды ўсё адно незразумела, што гэта такое? Як сама Беларусь, безназоўнае застаецца таямнічым. Як таямнічым застаецца Янка Купала, само ягонае жыццё і сама смерць.

**Дык вось пра смерць...**

Як існавалі, так існуюць тры версіі смерці Купалы: няшчасны выпадак, самагубства і забойства. Гэта значыць, ці сам ён вечарам 28 чэрвеня 1942 года скінуўся з дзесятага паверха ў лесвічны пралёт гатэля "Масква", ці яго скінулі. Ні адна з версій не мае неабвержных доказаў, але з часам усё больш і больш з'яўляецца фактаў і дакументаў, якія, калі не наўпрост, дык ускосна сведчаць пра забойства...

У мяне даўно былі падставы меркаваць, што развітаўся з жыццём Купала не па ўласнай волі. Аднак меркаванні — меркаваннямі, а доказы — доказамі. Апошніх і цяпер не хапае, і ўсё ж іх стала дастаткова для таго, каб займець права выказаць сваю версію гібелі Купалы. Яна, як мне ўяўляецца, найбліжэй да таго, што было ў сапраўднасці...

**"Прашу выехаць у Маскву"**

У кастрычніку 1941 года Янка Купала выпраўляецца з Масквы ў эвакуацыю пад Казань, дзе жыве больш за паўгода, пакуль не атрымлівае ўрадавую тэлеграму.

"Правительственная.

Казань, Верхний Услон, Печищи, мельзавод. Народному поэту Белоруссии Янке Купале.

Прошу Вас выехать Москву Совнарком БССР, выезд телеграфьте.

Председатель Совнаркома Белоруссии Былинский. 4 июня 1942 г."

Набліжаўся 60-гадовы юбілей Купалы, але з боку ўрада пакуль не чуваць было ніякіх юбілейных прапаноў. Хутчэй наадварот... 14 красавіка 1942 года на пасяджэнні ЦК КП(б)Б прымаецца рашэнне "Аб правядзенні 60-гадовага юбілею народнага паэта Беларусі Якуба Коласа". Святкаванне прызначаецца на лістапад, ствараецца юбілейная камісія на чале з сакратаром ЦК Ц.Гарбуновым, у якую ўключаюць і Янку Купалу. Але ж купалаўскае 60-годдзе раней за коласаўскае, не ўвосень, а летам, — дык дзе ж пра юбілей Купалы якое-небудзь рашэнне? Ці пастанова? Няма... І не будзе ні рашэнняў ніякіх, ні пастаноў. Значыць, святкаваць не збіраліся. Таму не зусім зразумела, для чаго той жа Ц. Гарбуноў раптам пытае ў лісце да Купалы, напісаным у самым канцы траўня, роўна за месяц да трагічнага дня 28 чэрвеня: "Ці знойдзеце Вы магчымым па стане здароўя прыехаць у Маскву ў сярэдзіне чэрвеня дзён на 10—15?"

У гэтым лісце, як і ў тэлеграме, ні пра якія святкаванні ані слова, але якая яшчэ магла быць прычына такога тэрміновага выкліку?.. Апроч юбілею, здавалася, ніякай. Купала збіраецца ў дарогу і, калі ўжо едзе на юбілей, пытае дазволу на тое, каб узяць з сабой жонку. Зусім нечакана для яго дазволу не даюць. Катэгарычна адказваюць: "Не. Вас выклікаюць аднаго". І ў спадарожніцы яму замест жонкі выпраўляюць старшыню Вярхоўнага Савета БССР Н.Грэкаву, на імя якой у Казанскі гаркам партыі прыходзіць тэлеграма за подпісам таго ж Былінскага: "Выезжайте вместе народным поэтом Белоруссии Янка Купала Москву".

Выходзіць, Н.Грэкава прыстаўленая да яго за наглядчыцу?.. Купала разгублены, ён і ўявіць не мог, каб адмовілі ў просьбе паехаць разам з жонкай. На юбілей, на свята... Раней такога не здаралася, нешта тут не тое... І гэтае нешта не магло не насцярожыць чалавека з такой інтуіцыяй, як у Купалы. Да таго ж для насцярогі мелася яшчэ адна прычына, значна больш істотная, чым адмова ў тым, каб ён паехаў у Маскву разам з Уладзіслаўай Францаўнай...

**"Урадавая. Ташкент"**

У лютым 1942 года Бюро ЦК КП(б)Б прымае пастанову аб скліканні ў Казані чарговай сесіі Беларускай акадэміі навук. З дакладам на сесіі даручаецца выступіць Янку Купалу. Тэма даклада не абы якая: "Беларуская інтэлігенцыя ў дні Айчыннай вайны". Матэрыялы для даклада (гэта значыць тое, што павінен Купала сказаць) высылае ў Казань зноў жа не хто-небудзь, а сакратар ЦК Гарбуноў. І вось што прамаўляе Янка Купала на той сесіі 12 сакавіка:

"Кажуць, што вуліцу, на якой жыў я ў Мінску, яны (немцы. — У.Н.) назвалі маім іменем. Таксама, бачыце, "паважаюць" пісьменніка. Але будзьце вы праклятыя, крывавыя выракдкі, за такую "павагу"! Спачатку вы паслалі сотні самалётаў, спалілі гэтую вуліцу, кінулі дзесяткі бомбаў на мой дом, спалілі яго разам з маімі рукапісамі, а цяпер вы прыкідваецеся прыхільнікамі культуры. Такога здзеку над культурай яшчэ не бачыў свет, і я, сумленны савецкі пісьменнік, плюю ў ваша крывавае рыла і ўсім сэрцам сваім жадаю пагібелі вам, катам беларускага народа, катам беларускай культуры..."

Мяркую, што толькі дзеля гэтага выступлення і была прыдумана ў Казані ўся сесія Беларускай акадэміі навук. Каб на прыкладзе Купалы ўсім астатнім паказаць, што такое інтэлігенцыя ў час вайны...

18 чэрвеня Купала прыязджае з Казані ў Маскву — і праз дзесяць дзён урадавую тэлеграму атрымлівае ў Ташкенце, дзе ён быў у эвакуацыі, Якуб Колас:

"Правительственная. Ташкент. Союз писателей. Коласу Якубу.

Извещаем о смерти нашего любимого Янки Купалы... Зампредсовнаркома Крупеня. 29 июня 1942".

Колас падаўлены, разгублены, яму трывожна. Ён быў тры месяцы таму на сесіі Акадэміі навук у Казані, чуў выступленне Купалы... І Колас піша з Ташкента ў лісце да І. Крупені: "Вы далі мне тэлеграму, цяжкую, балючую: паведамілі аб смерці Янкі Купалы... Паведаміце, калі ласка, што здарылася з Янкам, пры якіх абставінах ён памёр? У мяне астаецца такое перакананне, што з ім прыключылася раптоўная бяда".

**Паміж Луцэвічам і Луцкевічам.**

У афіцыйным паведамленні, надрукаваным 30 чэрвеня ў газеце "Известия" і 2 ліпеня ў газеце "Савецкая Беларусь", пра сапраўдныя абставіны смерці Янкі Купалы, зразумела, ні слова. А вось што дакладвалася пра гэтыя абставіны 29 чэрвеня ў аператыўным данясенні (спецсообщении, як яно называецца) на імя наркама ўнутраных спраў СССР Л. Берыі (з копіямі Сталіну і Молатаву).

"28 июня в 22 часа 30 минут в гостинице "Москва" упал в лестничную клетку и разбился насмерть поэт Белоруссии Луцкевич Иван Доминикович".

Што спецсообщается пра Янку Купалу — зразумела. Толькі чаму ён Луцкевіч, а не Луцэвіч? Памыліліся? У данясенні на імя Берыі з копіяй Сталіну?.. Хіба ў Купалы, Івана Дамінікавіча Луцэвіча, не было пашпарту, пасведчання? Калі не ў кішэнях, дык у нумары, які адчынілі якраз для таго, каб паглядзець рэчы і дакументы. Ёсць жа (нідзе пакуль не надрукаваны) вопіс гэтых рэчаў і дакументаў. У ім пад № 20 апісаны нават пачак запалак, 1 шт., а пасведчанняў розных (апрача пашпарта № I НУ 580393) ажно 4 шт. — ды яшчэ дэпутацкі і пісьменніцкі білеты. Дык не глядзелі?.. І без таго неяк ведалі, што Луцкевіч?.. Прычым настолькі ведалі, што менавіта так, Луцкевіч, напісалі прозвішча не аднойчы, што яшчэ можна было б лічыць памылкай, а праз усё данясенне: Луцкевіч, Луцкевіч, Луцкевіч...

Заўважым гэта — і вернемся да апраўданняў Купалы ў тым, што немцы ў Мінску назвалі вуліцу ягоным іменем.

Вуліца імя Янкі Купалы павінна была з'явіцца ў Мінску яшчэ да вайны: вясной 1941 года прапаноўвалася ў гонар паэта перайменаваць вуліцу Садовую. Аднак Панцеляймон Панамарэнка, тагачасны першы сакратар ЦК КП(б)Б, асабіста выкрасліў тую "прапанову працоўных" з праекта партыйнай пастановы. Чырвоным алоўкам. А ўжо восенню, усяго праз паўгода, вуліцы і плошчы ў Мінску перайменоўваюцца немцамі. Пастановы (загады) падпісвае цяпер не сакратар ЦК Панамарэнка, а начальнік Мінскай палявой камендатуры Шлегельхофер — і вуліцу Кастрычніцкую, на якой жыў Купала, называюць вуліцай імя Івана Луцкевіча. Не Івана Луцэвіча, паэта Янкі Купалы, а Івана Луцкевіча, аднаго з пачынальнікаў беларускага Адраджэння, заснавальніка Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, гісторыка, археолага і этнографа, заўчасна памерлага ў 1919 годзе.

Чытаем аператыўнае данясенне (спецсообщение) далей.

"Предварительным выяснением обстановки падения никаких данных, свидетельствующих о насильственной смерти или самоубийстве, не установлено (гэткая фармулёўка: "не тое, не сёе, а немаведама што" — пры данясенні на самы верх выглядае даволі дзіўнай, бо як мінімум не выключае грознага пытання зверху: "Что же вы выясняли вашим предварительным выяснением?" — ды падобна на тое, што ніхто не чакаў і не асцерагаўся ніякіх грозных пытанняў, нібы там, куды пра гэта дакладвалася, загадзя ўсё вядома).

Происшествию предшествовали следующие обстоятельства:

Примерно в 21 час Луцкевич был приглашен в комнату 1034 (десятый этаж той же гостиницы) к проживающему там председателю Сюза советских писателей Белоруссии Лынькову, где присутствовал там же писатель Крапива, редактор газеты "Красноармейская правда" Миронов, сотрудник этой же газеты Карханов и зав. отделом редакции "Известия" Войтинская. Луцкевич пришел в нетрезвом виде и с присутствующими еще выпил несколько стопок шампанского.

Примерно в 22 часа Войтинская и Крапива из номера ушли и минут через 10 после них вышел Луцкевич.

Момент и обстоятельства падения Луцкевича никто не видел. Можно предполагать, что упал он с 9-го этажа, так как начиная с седьмого этажа в лестничной клетке обнаружены отдельные капли крови.

При осмотре комнаты, занимаемой Луцкевичем, обнаружены около стола две бутылки из-под шампанского и не убранная со стола посуда с запахом вина (агледзеўшы пакой, не знайшлі анічога, апроч слядоў папойкі, якая роўненька кладзецца ў нібы загадзя падрыхтаваную версію: напіўся — і зваліўся). Других данных, связанных с происшествием, не обнаружено.

Следствие ведет Военный Прокурор гор. Москвы. Начальник 3 Управления НКВД СССР (Горлинский). № 3/3/6661".

Апроч блытаніны (як наўмысна наблытанай) з прозвішчам Купалы, "насильственной смерти или самоубийства которого не установлено", яшчэ шмат чаго, што напісана ў гэтым дакуменце, не супадае са сведчаннямі многіх і многіх людзей. Да прыкладу, паэт П. Глебка ва ўспамінах сваіх распавядае, як ён гадзін пад дзесяць вечара зайшоў у нумар да М. Лынькова, дзе праз колькі хвілін зазваніў тэлефон. Узяўшы трубку і перадаўшы яе Купалу, Лынькоў папрасіў усіх гасцей выйсці на балкон, бо званіў нехта такі, з кім размову Купалы нікому не трэба было чуць. Пагаварыўшы, Купала адразу пайшоў з нумара, быццам некуды тэрмінова пакліканы...

Што ж адбылося пасля таго, як Купала зачыніў за сабой дзверы нумара 1034?.

**Таямнічы В.Б.Г.**

Сведчанняў пра тое няшмат, але яны ёсць. І сведчанні гэтыя, калі сабраць іх разам, хоць і супярэчлівая, ды ўсё ж нельга сказаць, што ні ў чым паміж сабой не падобныя. Прынамсі, амаль ва ўсіх іх побач з Купалам прысутнічае ці на калідоры, ці на лесвічнай пляцоўцы маладая жанчына. Яна альбо адна (як пра тое распавядаў украінскі паэт Пятро Панч), альбо на пару з маладым чалавекам (як сведчыў архітэктар Г. Заборскі). Пра тое, як ледзьве не збіла яго з ног, хвілін праз пяць пасля смерці Купалы выбягаючы з гэтэлю, маладая жанчына, распавядаў і паэт Анатоль Астрэйка, нават называў яе імя... Але не імя даўняй купалавай каханкі Паўліны Мядзёлкі, хоць існавала (наўмысна, мяркую, прыдуманая) і такая версія...

Не ведаю, ці была познім вечарам 28 чэрвеня 1942 года ў гатэлі "Масква" Паўліна Мядзёлка, яе ўспаміны і пра той дзень, і пра наступныя дні пасля смерці Купалы даволі блытаныя, але мне дакладна вядомае імя жанчыны, якой у гатэлі тым вечарам не было: народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай. Раніцай таго дня яе выправілі з канцэртам да партызан, але ўжо назаўтра, 29 чэрвеня, вярнулі ў Маскву — і 1 ліпеня яна выступала з развітальным словам на пахаванні Янкі Купалы... У зборніку ўспамінаў пра Купалу "Такі ён быў", выдадзеным у 1975 годзе, Александроўская згадвае, як перад яе ад'ездам Купала ўсё парываўся ёй нешта сказаць, але так і не сказаў. Калі б гэты зборнік выдаваўся зараз, ва ўспамінах Александроўскай вось што было б напісана: "Развітваючыся, ён браўся за рукі, не адпускаў... Казаў: "Ларыса, перапёлачка, не ехала б ты нікуды, кепска мне будзе... Можа, і не жыць". Так ва ўсялякім разе запісана мной са слоў Ларысы Пампееўны на аркушы паперы, які меўся стаць адной са старонак кнігі яе ўспамінаў... І далей словы Александроўскай: "Гэта ўстрывожыла мяне, мы тады ўсе былі нервовымі — і ў "Маскве", і ў

"Якары" (маецца на ўвазе гатэль "Якар", у якім таксама жылі беларусы, у тым ліку літаратары і акцёры, але, так бы мовіць, драбнейшыя). Перад самым ад'ездам пра размову з Купалам я сказала Гарбунову. Гарбуноў адмахнуўся, раззлаваўся нават: "Слухай ты яго! Ён усім тое самае кажа".

Наўрад ці Купала казаў тое самае сакратару ЦК...

Нечага такога ў маім жыцці, пра што б я, азіраючыся назад, шкадаваў — нямнога. І сярод гэтага нямногага шкада мне ненапісанай, а дакладней, незапісанай кнігі ўспамінаў Ларысы Пампееўны Александроўскай. Бліскучай жанчыны, спявачкі, актрысы, якая пачынала працаваць сакратаркай яшчэ ў штабе таварыша Фрунзе. Набліжаная да самых вярхоў улады, яна ведала столькі, колькі мала хто…

У гады, калі толькі пачыналася наша ненапісаная кніга ўспамінаў, Л.П.Александроўская была старшынёй Беларускага тэатральнага аб'яднання, дзе я працаваў рэдактарам бюлетэня "Тэатральны Мінск". Аднойчы з Уладзімірам Іскрыкам (у той час супрацоўнікам БТА, а пазней работнікам апарата Саўміна) мы ў прысутнасці Ларысы Пампееўны завялі спрэчку (якраз у дачыненні да Купалы) пра аднаго літаратара... ну, назавем яго В.Б.Г. Гэта першыя літары нават не прозвішча, а мянушкі чалавека, пра якога Александроўская, перапыняючы маю з Іскрыкам спрэчку, раптам сказала: "Ён Купалу і забіў…"

Ашаломлены, я вырашыў, што гэты самы В.Б.Г. браў у знішчэнні Купалы непасрэдны, фізічны ўдзел, і стаў угаворваць Ларысу Пампееўну, каб яна засведчыла ягонае імя на паперы. Ну калі ўжо мы пішам кнігу ўспамінаў... Быў пачатак сямідзесятых — і жанчына сталінскіх часоў, якая працавала яшчэ ў штабе таварыша Фрунзе, паглядзела на мяне, як пазіраюць звычайна на тых, пра каго кажуць: дурны, як сабака да году. Праз паўзу, нібы шкадуючы пра тое, што слова — не верабей, дагаварыла: "Ён напісаў данос, праз які Купалы не стала..."

На пачатку 70-х я ніяк не мог зразумець: што ж за данос можна было выдумаць, напісаць на Купалу, які сядзеў сабе ціха на млыне ў Печышчах, у глушы пад Казанню? Я нічога тады не мог прааналізаваць, супаставіць, бо не было чаго з чым супастаўляць. Цяпер ёсць.

Як дэзінфармацыя пра тое, што ў акупаваным Мінску з'явілася вуліца імя Янкі Купалы, прайшла на самы верх?.. Чаму яна не правяралася?.. Было ж праз каго (пры жаданні) праверыць. Напрыклад, на радыё ў Мінску, па якім і абвяшчалася пра перайменаванне вуліц, працавала жонка паэта Пятра Глебкі Ніна Ларыёнаўна, якая, безумоўна, была неяк звязаная з савецкімі спецслужбамі, інакш бы як яна, паслужыўшы ў цэнтры нямецкай прапаганды, пасля вайны ўратавалася — хай сабе і з мужам-ардэнаносцам?.. Дарэчы, Ніна Ларыёнаўна (па сведчанні Аркадзя Куляшова) папярэджвала Глебку, каб не надта набліжаўся да Купалы, бо побач з тым — небяспека. Аркадзь Куляшоў быў перакананы, што Купалу забілі. Месца ў гатэлі "Масква" паказваў: "Вось тут з ім расправіліся".

П.Глебка, хоць і асцярожна, але сцвярджаў тое ж.

Пімен Панчанка запісаў у дзённіку: "Забілі Купалу — заб'юць і мяне".

П.Броўка казаў, што Купала, прыехаўшы ў Маскву, нечага баяўся, асабліва ўначы — і разам з Твардоўскім яны ў яго начавалі, Купала не адпускаў.

Л.Александроўская кажа: "Мы тады ўсе былі нервовымі..."

Не для таго, каб неяк пацвердзіць словы Л.Александроўскай, сумнявацца ў якіх не маю падстаў, а для большага ўяўлення пра тое, які настрой панаваў у асяродку беларусаў, што жылі ў гатэлі "Масква", калі там пасяліўся Купала, працытую некалькі сказаў (з дазволу сям'і Куляшовых) з ліста жонкі Кузьмы Чорнага да Аксаны Фёдараўны Вечар, жонкі Аркадзя Куляшова. Ліст датаваны 27 чэрвеня 1942 года, калі Равека Ізраілеўна, жонка Чорнага, прыехала з Уральска — за дзень да смерці Купалы.

"Дорогие! Приехала в Москву вчера около 5-ти часов дня. Черный меня не встретил... Наконец он приехал на вокзал вместе с Глебкой, и мы отправились в гостиницу...

Сразу же я окунулась в атмосферу склочничества, существующую здесь между некоторыми, была свидетельницей отвратительной сцены, которую разыграл Б. (П.Броўка. — У.Н.), который называл К. (А.Кучара. — У.Н.) самыми оскорбительными словами, ругался безобразнейшими словами, его едва выпроводили. Оказывается, он постоянно устраивает такие сцены, особенно попадает от него Л. (М.Лынькову. — У.Н.). В общем, они, кажется, немногим лучше баб. Потом Лыньков... страдал очень и кончил слезами".

З чаго гэта П.Броўка, чалавек, трэба сказаць, зусім не брутальны, які назаўтра ж, як піша далей у сваім лісце Равека Ізраілеўна, прасіў у яе прабачэння, апраўдваючыся тым, што ў яго нервы расхадзіліся, раптам на ўсіх разлаяўся — найбольш на Лынькова, старшыню Саюза пісьменнікаў? І чаму ён зневажаў Кучара?.. Чаму яны ўсе такія нервовыя: "ругаются безобразнейшими словами, страдают очень и кончают слезами?.." Ці не таму, што ўсе яны здагадваюцца ці нават ведаюць пра небяспеку, якая навісла над Купалам, а праз яго, магчыма, і над імі? І ці не таму, ці не праз гэта крычыць Броўка ўсім — і найперш Лынькову: "Ды зрабіце вы што-небудзь!.." І ўсё гэта, урэшце, ці не таму, што зместам даносу, які напісаў В.Б.Г. на Купалу, якраз і была дэзінфармацыя пра вуліцу, названую немцамі, фашыстамі, ворагамі іменем народнага паэта, ардэнаносца, лаўрэата Сталінскай прэміі?

Хутчэй за ўсё праз свайго кампетэнтнага даносчыка самі кампетэнтныя органы гэтую дэзу і запусцілі. Альбо ўгадаў ён іх патаемныя пажаданні — ёсць у лёкаяў такая ўласцівасць, здольнасць: наперад угадваць жаданні гаспадароў. Навошта ж гаспадарам, "кампетэнтным органам", такое перапраўяраць? Калі гэта для іх, як кажуць, самае тое... Калі з гэтага вынікае, што ў адносінах да Купалы, які быў і застаецца ідэолагам нацдэмаўшчыны, нац.-фашызму, адны яны, "кампетэнтныя органы", былі празорлівымі, патрабуючы для яго неадкладнай кары. Сляпымі ж былі, памыляліся, гуляючы з Купалам у званні і ўзнагароды (ордэн Леніна, Сталінская прэмія) — хто?.. Органы партыйныя, якія павінны былі б быць і больш празорлівымі, і больш кампетэнтнымі. А яны яшчэ падбілі да гульні, да памылкі — каго?.. Таго, хто даў згоду і на ордэн імя Леніна, і на прэмію свайго імя! Таго, хто не памыляецца! Пра гэта ўжо нават падумаць страшна... Але ж начальнік беларускіх "кампетэнтных органаў" Л.Цанава дакладваў начальніку беларускіх партыйных органаў П.Панамарэнку (і якраз тады, калі з Купалам у самых высокія ўзнагароды гуляліся), што як раней друкаваліся вершы Купалы ў нацдэмаўскіх газетах побач з партрэтам Пілсудскага, так цяпер у нац.-фашыстоўскіх газетах — побач з партрэтам Гітлера. Не адрэагавалі — вось і вынік. Так што давайце, нарэшце, рэагаваць... Няма чалавека — няма праблемы. І памылак няма...

Пра тое, як у канцы 30-х і ў пачатку 40-х хацелася "кампетэнтным органам" расправіцца з ужо абрыдлым ім Купалам, сведчыць запіска таго ж Л.Цанавы з прапановай вызваліць з-пад арышту Кузьму Чорнага для "использования его по вскрытию и разоблачению нац.-фашистского формирования в Белоруссии". І каго ж "разоблачать", хто там сярод фашыстаў?.. "Романовский Н.К., — піша далей Цанава, — был завербован в нац.-фашистскую организацию Я.Купалой, Я.Колосом и Бедулей, которые в настоящее время находятся на свободе, о чем в своих показаниях на суде Романовский будет делать упор и ссылаться на последних".

Я не падганяю ўсё чыста пад выбраную мной версію, зусім не. Не выключаю, што праз усё тое, за што яго маглі забіць, ні ў чым не вінаваты Купала, стаміўшыся быць вінаватым, мог скончыць жыццё самагубствам. Але ці самагубства гэта было, ці не — у любым выпадку абавязкова, што называецца, па факце смерці павінны былі завесці крымінальную справу. У спецпаведамленні сказана ж: "Следствие ведет военный прокурор города Москвы". Дык як мог той пракурор правесці ўсё следства без адзінай паперыны? Ніяк не мог. Хоць адна паперына, а гэта і значыць крымінальная справа, павінна была быць. Дзе яна?.. Доступу да яе нікому з тых, каго так ці інакш цікавіць Купала, не ўдалося дабіцца. У тым ліку і мне — ні ў нядаўнія часы перабудовы, ні ў найноўшы час дэмакратыі. На ўсе мае захады і як рэдактара часопіса "Крыніца", і як старшыні Саюза пісьменнікаў адказ быў адзін: крымінальнай справы па смерці Янкі Купалы ні ў якіх архівах няма. А калі яе няма, казалі мне далей, дык яна і не заводзілася. Чаму?.. Бо засведчаны быў факт самагубства, а да самагубцаў у час вайны, калі гінуць мільёны, каму якая справа?..

Ну, па-першае, факт самагубства нідзе і нікім не засведчаны. Па-другое, самагубца не абы які, да яго якраз шмат у каго ў той час і была самая пільная справа... А што да справы крымінальнай, дык яна, па некаторых звестках, захоўваецца зараз не ў архівах пракуратуры ці ФСБ, а ў архіве Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі — былым архіве ЦК КПСС. Разам з усімі тымі дакументамі, да якіх пакуль, як ні дабівайся, — не даб'ешся.

Але час ідзе... вада камень точыць... і людзі праўды дабіваюцца.

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ. /Народая Воля/



*Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць...*

**Цімафей Ліякумовіч** (Чыкага)

# "Зямля мяне галубіць як вернага сына..."

***Дзяржаўнаму літаратурнаму музею Янкі Купалы 60 гадоў***



У цэнтры беларускай сталіцы ўзвышаецца велічны будынак Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Пастанову аб яго стварэнні ўрад рэспублікі прыняў у 1944 г. Упершыню ж ягоныя дзверы гасцінна адчыніліся для наведвальнікаў (спачатку, да 1951 года, музей знаходзіўся ў Доме прафсаюзаў, у 1951—1959 гадах меў прытулак у Доме пісьменнікаў па вуліцы Энгельса) 20 верасня 1945 года, а спецыяльны двухпавярховы будынак з барэльефам на франтоне (архітэктары Іван Валодзька і Віктар Волчак) быў пабудаваны ў 1959 годзе на месцы Купалавага дома, у якім жыў паэт у 1927-1941 гадах і які згарэў у першыя ж дні вайны ад фашысцкай бомбы. З яго пабудовай грамадскасць рэспублікі атрымала магчымасць годна ўвекавечыць памяць народнага паэта, які ўсё сваё жыццё кіраваўся толькі адной думкай – думкай аб шчасці Беларусі

Актыўным ініцыятарам стварэння Купалаўскага музея, нястомнай збіральніцай па крупінках неабходных матэрыялаў (багаты архіў, рукапісы, бібліятэка пісьменніка загінулі ў полымі вайны), яго першым дырэктарам (з 1944 па 1960) была верны сябра, спадарожніца і жонка паэта Ўладзіслава Луцэвіч. Яе традыцыі добрасумленна працягвалі Ядвіга Раманоўская, пляменніца песняра, у 1960—1985 гадах галоўная захавальніца фондаў музея, а потым справу працягвала яе дачка Жанна Дапкюнас, якая прысвяціла чатыры дзесяцігоддзі свайго жыцця музею ў якасці супрацоўніцы і дырэктара.

Прайшло 60 гадоў канцэнтраванай музейнай працы па збіранню, вывучэнню і нястомнай папулярызацыі літаратурнай спадчыны народнага паэта Беларусі. За гэтыя гады музей ператварыўся не толькі ў цэнтр прапаганды Купалавай літаратурнай спадчыны, але і ў значны ачаг беларускай культуры. Тут сабраны ўнікальныя духоўныя і матэрыяльныя сведкі пра класіка беларускай літаратуры, творчасць якога ўвасобіла ў мастацкім слове лёс беларускага народа, садзейнічала фарміраванню і росту самасвядомасці беларускай нацыі і яе выхаду на шырокую гістарычную арэну.

У музеі Янкі Купалы беражліва захоўваюцца рукапісы паэта, ягоная перапіска, фотаздымкі, кніжкі – неразлучныя спадарожнікі жыцця, у тым ліку са шматлікімі дароўнымі надпісамі, рэдкія дакументы, фанаграмы ягоных выступленняў і ўспамінаў аб ім, асабістыя рэчы, унікальныя перыядычныя выданні XIX—XX стагоддзяў. Яны і складаюць аснову калекцыі музея.

Змястоўныя, арыгінальна афармленыя кампазіцыі дазваляюць наведвальнікам уявіць жыццёвы і творчы шлях пісьменніка на фоне насычаных бурнымі грамадскімі і літаратурнымі падзеямі XX стагоддзя. Экспанаты сведчаць пра бязрадасныя дзіцячыя і невясёлыя юначыя гады паэта, пра яго захапленне казкамі, народнымі песнямі і паданнямі, чым тлумачыцца і выбар народным заступнікам псеўданіма, які нагадвае пра свята Купалля, у аснове якога ляжыць легенда пра чарадзейную кветку папараці – сімвал дабрабыту і шчасця.

Экспанаты сведчаць, як рос і мужнеў талент паэта, праз якія цяжкія ўніверсітэты жыцця яму давялося прайсці. Яны нагадваюць і пра тых, хто знаходзіўся побач з Янкам Купалам і дапамагаў выстаяць у бурах, якія грымелі над ягонай галавой. Належная ўвага аддадзена ягоным паэтычным настаўнікам В.Дуніну-Марцінкевічу і Ф.Багушэвічу, а таксама А.Пушкіну, М.Лермантаву, А.Кальцову, М.Някрасаву, А.Міцкевічу, Т.Шаўчэнку, якія зрабілі жыватворны ўплыў на станаўленне і развіццё беларускага самародка.

Экспанаты таксама даюць уяўленне пра жыццё

Янкі Купалы ў Вільні, Пецярбурзе, Маскве, Смаленску, праягоныя паездкі па Беларусі, на Украіну, у Грузію, Чэхаславакію, пра знаходжанне ў Ленінградзе, Кіеве, Тбілісі.

Янка Купала з павагай ставіўся да людзей усіх нацыянальнасцей. Ён праславіўся і як шчыры пясняр дружбы народаў. Паэты з усіх рэспублік былога СССР з падзякай услаўлялі яго ў сваіх вершах. На арбіце Купалаўскага космасу пры адлюстраванні яго шырокамаштабных літаратурных сувязей зіхацяць яркімі зоркамі М.Горкі, В.Брусаў, А.Фадзееў, М.Ісакоўскі, М.Рыльскі, П.Тычына, Н.Зар'ян, А.Лахуці і іншыя вядомыя пісьменнікі.

У дакументальных матэрыялах адлюстраваны расстрэльныя 30-я гады – гады сталінскіх рэпрэсій і беспадстаўных абвінавачванняў, што ледзь не прывялі да гібелі песняра, але ўсё ж пакалечылі яму жыццё. Музейныя матэрыялы расказваюць аб пакутлівых перажываннях і напружанай дзейнасці Янкі Купалы ў першы суровы год вайны, якая прабудзіла ў паэта новыя сілы, што дазволілі яму знайсці словы, якія апякалі агнём чалавечыя сэрцы і натхнялі на бязлітасную барацьбу з фашысцкімі захопнікамі. Ягоныя вершы і публіцыстыка ваеннай навальніцы прасякнуты гневам і пагардай да чалавеканенавісніцкага фашысцкага звяр'я, клікалі на подзвіг і падтрымлівалі ў народзе святую веру ў перамогу.

Паглыбленню ў асабісты і творчы лёс паэта садзейнічаюць гісторыка-бытавыя прадметы, матэрыяльныя рэчы музея.

Рэканструяваны куток пецярбургскай кватэры, дзе Янка Купала жыў у 1909—1913 гадах, нават з рамай таго вакна, у якое ён глядзеў.

Паводле ўспамінаў, фотаздымкаў і архіўных дакументаў узноўлены інтэр'ер кабінета пісьменніка.

Зусім нядаўна супрацоўнікі музея дамагліся, каб ім быў перададзены шэраг рэчаў -- нямых сведак апошніх дзён і смерці паэта з гасцініцы "Масква". Пры яе рэканструкцыі музей атрымаў элементы інтэр'ера лесвічнага пралёта 10-га паверха, з якога зваліўся ці быў скінуты паэт, і гасцінічнага нумара 414, у які яго пасялілі ў час апошняга наведвання сталіцы.

Творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва дапамагаюць наглядна ўявіць воблік паэта. Некаторыя жывапісныя палотны маюць сваю гісторыю. Напрыклад, партрэт Янкі Купалы (1923) мастака Я.Кругера быў вывезены ў Нямеччыну, выяўлены ў канцы вайны там савецкім байцом сярод руін, а потым перададзены Беларусі.

У кампазіцыі музея, якая налічвае больш за 36 000 экспанатаў, сабрана ўсё магчымае з таго, што было дарагім Янку Купалу, што стала дарагім людскім сэрцам, што ператварылася ў народны скарб, сагрэты народным цяплом і любоўю. Музей Янкі Купалы – жывы помнік паэту – народнаму заступніку, выказніку народных дум і спадзяванняў, неперамыздзенаму майстру беларускага слова.

Супрацоўнікі музея – нястомныя прапагандысты і папулярызатары літаратурнай спадчыны Янкі Купалы – вядуць паўсядзённую асветніцкую і навукова-даследчую працу. У сценах музея рэгулярна адбываюцца мерапрыемствы, прысвечаныя песняру (вечары, чытанні, канферэнцыі). Тут праводзяцца сустрэчы з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі. Традыцыйнымі зрабіліся прэзентацыі кніг лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы – М.Аўрамчыка, Р.Баравіковай, Р.Барадуліна, Н.Гілевіча, М.Мятліцкага і інш.

Па ініцыятыве музея і пры ягоным непасрэдным удзеле пабачылі свет зборнікі ўспамінаў пра Янку Купалу, біябібліяграфічныя даведнікі, буклеты, плакаты, каталогі мастацкіх палотнаў з выяўленнем асобы паэта і іншыя каштоўныя публікацыі, якія спрыяюць больш глыбокаму ўяўленню пра ягоны творчы подзвіг.

На базе музея створаны літаратурны фонд Янкі Купалы, з якім сумесна праводзяцца міжнародныя навуковыя Купалаўскія канферэнцыі ("Янка Купала і "Наша Ніва", "Янка Купала – публіцыст", "Ад тутэйшасці да нацыянальнасці: Янка Купала і праблема беларускага самапазнання", "Янка Купала і еўрапейскі літаратурны працэс").

Музей шырока практыкуе тэматычныя выставы ("Янка Купала ў творчасці беларускіх паэтаў", "Мастацкая Купаліяна XX ст." і інш.). Змястоўнымі атрымаліся арыгінальныя выставы да 200-годдзя А.Пушкіна і А.Міцкевіча.

З поспехам прайшлі таксама па ініцыятыве музея дабрачынныя канцэрты "Янка Купала і музыка" у выкананні Заслужанага калектыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

Шмат увагі музей удзяляе падрастаючаму пакаленню. Тут адбываюцца Купалаўскія ранішнікі, рэспубліканскія злёты пераможцаў конкурсаў "З Янкам Купалам у сэрцы" сярод вучняў школ імя песняра, злёты маладых паэтаў.

Проста немагчыма пералічыць шматлікія мерапрыемствы, якія праводзіць музей і якія служаць высакароднай справе памяці славутага беларуса – чалавека, грамадзяніна, песняра.

Да таго ж трэба ўлічыць, што музей мае 4 філіялы ("Вязынка", "Ляўкі", "Акопы" і "Яхімаўшчына") у мясцінах, дзе давялося жыць паэту. Цесная сувязь падтрымліваецца з музеем Янкі Купалы ў Татарстане, дзе ў вёсцы Печышчы пясняр пражыў свае апошнія 8 месяцаў.

Падтрымлівае Купалаў дом сувязь і з іншымі музеямі свету. У 2000 годзе ён прымаў выставу з Лонданскага дома-музея Чарлза Дзікенса. Дзяржаўны гісторыка-літаратурны музей-запаведнік А.Блока з Сонечнагорска (Расія) экспанаваў выставу "А.Блок і сярэбраны век у рускай культуры".

У сваю чаргу выставы музея экспанаваліся ў Маскве, Кіеве, у Пушкінскім запаведніку "Міхайлаўскае", у Беластоку (Польшча), у Літоўскім літаратурным музеі і ў іншых гарадах і краінах. Так, экспазіцыя, прысвечаная ўвасабленню вобраза Т.Шаўчэнкі ў творчасці беларускага песняра, дэманстравалася ў сталіцы Украіны і мела вялікі поспех у кіяўлян.

Уяўляецца, што расказ пра музей Янкі Купалы будзе няпоўным, калі не нагадаць пра прыгожы парк яго імя (з 1962 года), які вырас на месцы драўлянага кварталу аднапавярхоўных дамоў, сярод якіх быў і паэтаў дом, што згарэлі ў час фашысцкай бамбёжкі. Парк раскінуўся каля маляўнічага выгібу нетаропкай Свіслачы. Спалучэнне зеляніны і вады надаюць паркаваму масіву асаблівую прывабнасць і ўтульнасць.

Пры ўваходзе ў парк наведвальнікаў сустракае натхнёная фігура велічнага, адлітага з бронзы Янкі Купалы з сукаватай палкай у руцэ, якая служыць яму посахам. Складваецца ўражанне, што жывы паэт ідзе па роднай зямлі насустрач людзям, якім прысвяціў свае бессмяротныя радкі. Нагадвае пра гэта і крынічка, і кветка папараці ў падножжы п'едэстала. Манументальны помнік быў узведзены да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы (скульптары А.Анікейчык, Л.Гумілеўскі, А.Заспіцкі, архітэктары Ю.Градаў і Л.Левін).

Побач з музеем журчыць шматструйны фантан "Вянок", які адлюстроўвае момант старадаўняга свята, з прывабнымі постацямі гарэзлівых дзяўчын, якія адпускаюць на ваду купальскія вянкі і ўвасабляюць сабою чысціню, юнацтва і каханне.

Насычаны змястоўнымі экспанатамі музей, велічны помнік Янку Купалу, соладкагучны фантан, цудоўны парк ствараюць унікальны прыродны і скульптурны ансамбль, дзе ў камні, бронзе, у зеляніне і ў звонкіх і чыстых струменьчыках вады жыве ўдзячная памяць аб народным паэце, павага і любоў да яго.

Зямля мяне галубіць як вернага сына,
А сонца мне душу не кідае туліць.

Душа беларускага народа, якая жыла ў вялікім паэце, паўнакроўнай гаспадыняй пасялілася ў яго новым доме. Пясняр Беларусі працягвае "з цэлым народам гутарку весці", працягвае слухаць "сэрца мільёнаў біцця", а нягаснучая свежасць, дзейсны гуманізм і высакароднасць Купалавых радкоў па-ранейшаму прыносяць людзям духоўнае ачышчэнне ад усякага штодзённага смецця. Прычашчэнне Купалаўскім словам абагачае чалавека мудрасцю, духоўнай прыгажосцю і дабрынёй.

************************************

# "Дзякуй табе, Амерыка!"

Гутарка з Уладзімерам Вараб'ёвым

Гэты хор існуе ў Чыкага пры Беларускай праваслаўнай царкве Сьвятога Юр'я, але многія пры сустрэчы сёньня ўзгадваюць яго як амаль самастойны творчы музычны калектыў. У апошні час хор значна ўзрос якасна па свайму музычнаму і выканаўчаму гучанью. З большага гэта здарылася дзякуючы ўдзелу ў ім музыкаў былога канцэртнага калектыву "Забава" з Беларусі – Уладзімера Вараб'ёва і Андрэя Васіленкі. Абодва яны ў свой час скончылі кансерваторыю па розных інструментальных клясах, але займаліся на радзіме і вакалам. Уладзімер Вераб'ёў сьпяваў у Менску ў хоры падчас навучаньня, потым – у хоры "Камерата", папулярным у творчым асяродьдзі. Усё жыццё Андрэя Васіленкі таксама звязана з харавым сьпяваньнем: ён сам з сям'і аматараў сьпеваў, удзельнічаў у розных харавых калектывах, ягоная сястра і дагэтуль кіруе там капэляй.

Ужо пэўны час кіраўніком хора пры царкве Сьвятога Юр'я з'яўляецца Уладзімер Вараб'ёў. Нядаўна мы сустрэліся, і я папрасіў яго адказаць на некалькі пытаньняў.

- Спадар Уладзімер, як так здарылася, што вы сталі актыўнымі ўдзельнікамі менавіта гэтага хору?

- Калі мы прыехалі сюды, дык спачатку і не марылі аб тым, што будзем сьпяваць у хоры. Але прайшоў пэўны час, і ўсё склалася для нас удала: мы сталі сьпяваць тут у Чыкага ў хоры Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятога Юр'я. Нам пашчасьціла пазнаёміцца са сьвятаром, айцом Дзімітрыем Бажко, які за паўгода да нас прыехаў у Чыкага з Беларусі па запрашэньні працаваць настаяцелем гэтага храму як асяродка Беларушчыны. На першай жа сустрэчы ён выклаў нам сваё разуменьне: адным з істотных кампанентаў царкоўнай службы з'яўляецца хор і ягоны прафесійны і музычны ўзровень. Таму што хор ёсьць ня проста музычнае суправаджэньне, але і нібы другая дзеючая асоба ўсёй праваслаўнай літургіі. І мы з ім пагадзіліся, разумеючы, што толькі прафесійнае харавое сьпяваньне можа стварыць падчас службы асаблівую атмасферу, больш глыбокую, больш цікавую, больш духоўную. Айцец Дзімітры запрасіў нас прыняць удзел у хоры царквы Сьвятога Юр'я, і неўзабаве Андрэй Васіленка стаў дыяканам, а я – кіраўніком гэтага хору.

- Раскажыце, калі ласка, як вам усё ж удалося дасягнуць такога выдатнага гучаньня?

- Спачатку было ўсё ня так проста: у хоры сьпявалі пераважна пажылыя людзі, якія звыкліся і сьпяваць, і трактаваць па-свойму сэнс духоўнага сьпяваньня. Кіраваць было даволі складана, патрабавалася і музычная эрудыцыя, і пэўная педагагічная тактоўнасьць. Сама служба была крыху расьцягнутая, я б сказаў – аматарская; пасьля настойлівай працы ўдалося дамагчыся яе большай дынамічнасьці і энэргічнасьці. І мы ганарымся, што зараз усе нашыя харысты прыходзяць на службу з задавальненьнем, таму што іх чакаюць хвіліны радасьці незабыўнага сумеснага духоўнага сьпяваньня. У хоры сьпяваюць і нашыя жонкі – Вера і Ірына. У царкву прыходзяць розныя людзі – і пажылыя, і маладзейшыя, ва ўзросьце 25 – 45 гадоў. Прыводзяць у царкву і дзяцей. Арошнім часам з'явілася многа новых людзей з усходняй Польшчы, з Беласточчыны. Усе прыхаджане з задавальненьнем слухаюць наш хор. Нам неадноўчы ўжо давялося чуць, што многія лічуць наш хор лепшым сярод праваслаўных хароў у Чыкага.



Сьпявае хор Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятога Юр'я. За дырыжорскім пультам – Уладзімер Вараб'ёў.

- Мусіць, пэўны ўзровень такога хору патрабуюць і традыцыі: харавое сьпяваньне з'яўляецца абавязковай істотнай часткай менавіта праваслаўнай службы?

- Гэта так, усё мае свае карані ў гісторыі. Людзі, якія прыходзілі ў царкву, былі ўдзельнікамі ня толькі самой службы, але і харавога сьпяваньня. Сьвятары вялі ўсё дзеяньне ў храме, а народ адказваў ім, адбываўся своеасаблівы дыялог паміж сьвятаром, дыяканамі і тымі, хто быў у царкве. Сьпяваньне хору было для ўсіх прыхаджан своеасаблівым суфлёрам, падказчыкам, што вызначала парадак службы, увесь яе сюжэт. У многіх старых царкоўных кнігах хор яшчэ мае стараславянскі назоў "ЛІК", што значыць народ, людзі. Але паступова хор стаў адыгрываць ня толькі ролю суфлёра, але і акампаніятара. Сталі зьвяртаць увагу ня толькі на тэксты, на прасьпяванае слова, але і на музычнае гучаньне – на мелёдыі, рытмы, інтанацыі. У канцы XVII стагодьдзя гэта набыло сур'ёзныя формы, і такія кампазытары як Бартнянскі, Кедраў, крыху пазьней Чайкоўскі, Рахманінаў і іншыя сталі зьвяртаць асаблівую ўвагу на музыку сьпеваў. Яны значна ўзбагацілі гучаньне царкоўных хароў. Пэўна, менавіта тады гэты від праваслаўных сьпеваў стаў асобным харавым мастацтвам.

- Ваш сёньняшні рэпертуар таксама вызначае традыцыя?

- У асноўным, так. Наш рэпертуар умоўна можна падзяліць на тры часткі. Першая – гэта дыялёг са сьвятаром, калі хор адказвае, фактычна ўторыць яму. Падчас службы ёсьць і 5 –6 умоўна сольных харавых нумароў. Гэта "Херувімская песьня" выдатнага кампазытара Бартнянскага, "Верую" – доўгая малітва, "Ойча наш" – малітва, на словы якой пісалі музыку розныя кампазытары, мы сьпяваем "Ойча наш" кампазытара Кедрава. Падчас службы ёсьць месца, якое ўмоўна завецца канцэртам: сьвятар чытае пэўныя малітвы, а хор выконвае нумары, якія фактычна гучаць як канцэртныя. Праваслаўная служба складаецца з мінорных і мажорных сьпяваньняў, танальнасьць вызначае царкоўны каляндар. Трэцяя частка службы – гэта ўдзел дыякана, калі ён чытае ўрыўкі з Евангельля, якія таксама вызначаюцца царкоўным календаром. І Андрэй Васіленка – у яго цудоўны бас – выконвае гэта вельмі добра. Сьпявае ён вельмі цікава, пачынаючы ад нізкіх нотаў да высокай тэсітуры. Многа ў нас сьпеваў так званага кіеўскага расьпеву, напрыклад, "Верую",

напісанага як канцэртны нумар. Амаль уся служба ў царкве ідзе на царкоўна-славянскай мове, у канцы гучыць казань сьвятара па-беларуску, і мы сьпяваем "Магутны Божа" на словы найвыдатнейшай беларускай паэткі Натальлі Арсеньневай. Некаторыя сьпевы выконваем і на ангельскай мове. Сьпяваем, у асноўным, на чатыры галасы, некаторыя нумары выконваем і ў пяць – шэсць галасоў.

Мы бясконца ўдзячны Амэрыцы за тое, што яна дала нам магчымасьць застацца тут, знайсьці сябе духоўна і прафесіянальна, знайсьці сябе як асоба, адчуць упэўненасьць, убачыць перспектыву ў жыцьці. Часткаю гэтага жыцьця з'яўляецца наш хор, якому мы з Андрэем Васіленка аддаем усе нашыя здольнасьці і майстэрства. Працаваць з людзьмі няпроста, але мы здолелі чагосьці дамагчыся, і мы вельмі рады гэтаму.

Дзякуючы за цікавую гутарку, мы пажадалі далейшых посьпехаў Уладзімеру Вараб'ёву, Андрэю Васіленку і іх творчаму калектыву.

Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага).

**************************************************

# Масей Сяднёў – пісьменьнік драматычнага лёсу

Масей Сяднёў нарадзіўся 1 верасьня 1915 году ў вёсцы Мокрае на Магілёўшчыне. Умовы жыцьця сям'і Сяднёвых былі тыповымі для цэлага беларускага сялянства пэрыяду Першай Сусьветнай вайны й Кастрычніцкай рэвалюцыі. Раньняе юнацтва Масея Сяднёва прыпала на пэрыяд беларусізацыі, калі пасьлядоўна ўводзіліся ў жыцьцё нацыянальныя прынцыпы. У гэтым часе Масей Сяднёў закончыў пачатковую й сярэднюю школы.

У 1933 годзе, які быў пачаткам кульмінацыі сталінскіх рэпрэсіяў, Масей Сяднёў паступіў у менскі Вышэйшы пэдагагічны інстытут. Аднак яму не ўдалося закончыць гэтую вучэльню. Хваля тэрору ўдарыла перш за ўсё ў вышэйшае школьніцтва. Студэнт 4-га курсу Масей Сяднёў быў арыштаваны ў кастрычніку 1936 году, пастаўлены перад судом і прысуджаны на многа гадоў ссылкі за гэтак званую контррэвалюцыйную дзейнасьць. Пакараньне адбываў Сяднёў у адным з найбольш жорсткіх лягераў на Калыме.

За некалькі тыдняў да выбуху савецка-нямецкай вайны ў 1941 годзе быў ён прывезены ў Менск на перагляд судовай справы. Не было ніякіх сумневаў, што сталінскі трыбунал павялічыў бы яму кару, а можа й засудзіў бы на сьмерць, аднак так яно ня сталася. Хуткае наступленьне Вэрмахту даваяло да вызваленьня Сяднёва, якога разам зь іншымі вязьнямі энкавэдэсты гналі на ўсход.

Вярнуўся Масей Сяднёў у сваю родную вёску, да бацькоў, дзе працаваў на гаспадарцы да 1943 году. У гэтым жа годзе выехаў у Беласток, дзе працаваў у рэдакцыі газэты „Новая дарога". У 1945 годзе ўдалося яму ўцячы перад наступленьнем Чырвонай Арміі ў Бэрлін.

Пасьля падзеньня гітлераўскае Нямеччыны Масей Сяднёў настаўнічаў у Беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе. У 50-я гады пераехаў зь Нямеччыны ў ЗША, дзе 10 гадоў працаваў на мэталюргічным заводзе. Пасьля выкладаў расейскую мову ў адным з унівэрсытэтаў штату Індыяна. Адначасова вучыўся сам, атрымаў "Дыплём Унівэрсытэту Індыяна" й ступень магістра гуманітарных навук па славянскай літаратуры й філялёгіі. У 1967 годзе атрымаў ад амэрыканскіх уладаў прапанову працы на Радыё „Свабода" ў Мюнхэне, дзе ён працаваў да 1983 году, узначальваў беларускую службу.

Масей Сяднёў шмат разоў наведваў Беларусь. Творчую актыўнасьць праяўляў да апошніх гадоў свайго жыцьця. Памёр пісьменьнік 5 лютага 2001 году ў амэрыканскім горадзе Глен-Коў, размешчаным непадалёк ад Нью-Ёрку. Пахаваны на Беларускіх могілках Саўт-Рывэра (штат Нью-Джэрзі, ЗША).

Першыя вершаваныя творы напісаў Масей Сяднёў у 1933 годзе. Друкаваў іх у „Полымі", „Чырвонай змене", „Савецкай Беларусі", „Літаратуры і Мастацтва". Усе ягоныя творы з гэтага пэрыяду былі ўтрыманыя ў духу ідэалёгіі, якая абавязвала ў БССР.

Падчас акупацыі многія свае вершы апублікаваў у часопісах „Новы шлях", „Раніца", „Новая дарога". Ягоная паэзія гэага часу рэзка зьмяніла характар. Паэт стаў на грунт беларускай нацыянальнай ідэалёгіі.

Пасьля вайны, апынуўшыся ў эміграцыі, Масей Сяднёў выдаў такія кнігі паэзіі й прозы, як: *І акіяны ночы, На край сьвету, Спадзяваньні, Ля ціхай брамы, Патушаныя зоры, Ачышчэньне агнём, А часу больш чым вечнасьць*, раманы: *І той дзень надышоў, Раман Корзюк*, а таксама том успамінаў *Масеева кніга*.

Па сутнасьці, уся эміграцыйная творчасьць пісьменьніка арганічна зьвязаная зь Беларусяй, зь яе трагічным падсавецкім і падакупацыйным лёсам. Масей Сяднёў як паэт валодае вытанчанай тэхнікай паэтычнага рамяства. Ягоная паэзія характарызуецца глыбокай рэфлексійнасьцю й эстэтызмам. У прозе гэтага аўтара знаходзім цікавыя апісаньні падсавецкай беларускай рэчаіснасьці. Незалежна ад таго, дзе Масей Сяднёў жыў і пісаў, ягоная творчасьць заўсёды характарызавалася вернасьцю й любоўю да роднае Беларус.і.

Алесь Барскі, Варшава

*************************************************

Алесь Марціновіч /Роднае Слова/

# ЖУРАВЫ НАД ПОЖНЯЙ

**Патрыятычная лірыка Анатоля Бярозкі**

Трэба быць шчырым: імя Анатоля Бярозкі (хоць пра яго апошнім часам напісана даволі шмат, а ў выдавецтве "Тэхнапрынт" нават убачыла свет кніга **"Выбранае"**, у якой, апроч твораў, змешчаны і артыкулы пра жыццё і творчасць аўтара, а таксама багаты фатаграфічны матэрыял) не вельмі вядомае аматарам літаратуры. І на тое некалькі прычын. Па-першае, сталася так, што А. Бярозка некалькі дзесяцігоддзяў не згадваўся. Па-другое, напісана ім няшмат. А яшчэ выяўляецца тут і наша, калі можна сказаць, лянота – задавальняцца толькі тым, што ляжыць на паверхні. Між іншым, у "Лістках календара" Максіма Танка лёгка адшукаць занатоўку, датаваную 28 траўня 1936 г.: «У рэдакцыі "Калоссе" Я. Шутовіч паказаў мне некалькі вершаў А. Бярозкі. Мне здаецца, з яго вырас бы цікавы і сур'ёзны паэт, калі б мог вызваліцца з-пад апекі сваіх духоўных айцоў». Аднак зусім не "духоўныя айцы" вінаваты ў тым, што А. Бярозка належным чынам не сцвердзіўся як паэт. Справа ў тых умовах, у якіх пачынаў рунецца ягоны талент, але так і не змог заквітнець дружнай зелянінай на палетку нацыянальнай культуры. Каб упэўніцца ў гэтым, неабходна вярнуцца на дзесяцігоддзі назад, калі Мацвей Рэпкаў-Смаршчок яшчэ не паспеў стаць Анатолем Бярозкам.

Нарадзіўся ён 19 лютага 1915 г. у вёсцы Падлессе колішняй Ляхавіцкай воласці Слуцкага павета (сёння Ляхавіцкі р-н) і быў першынцам у сялян Васіля і Ганны, якія ў 1914 г. згулялі вяселле. Як ні цяжка было, але бацькі пастараліся даць сыну прыстойную для свайго часу адукацыю. Закончыўшы чатыры класы ў Падлессі, Мацвей працягваў вучобу ў Ляхавіцкай школе, потым – у Баранавіцкай гімназіі. Зацікаўлены лекарствам, юнак паспяхова закончыў медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта і застаўся працаваць асістэнтам прафесара на кафедры фізіялогіі.

Здавалася б, жыццёвая дарога канчаткова вызначана: наперадзе зайздросная перспектыва выявіць сябе ў медыцыне. Але не адпускала ад сябе і паэзія.

Мацвей Смаршчок, яшчэ жывучы ў роднай вёсцы, упершыню надрукаваўся (пакуль пад уласным прозвішчам) у часопісе для дзяцей "Заранка", які выдавала Зоська Верас. Але ягоным сапраўдным дэбютам стаў верш "Х р ы с т о с У с к р о с !", што з'явіўся ў красавіцкім нумары не менш вядомага заходнебеларускага часопіса "Шлях моладзі" за 1933 г. і быў падпісаны літаратурным псеўданімам.

Гэты твор не надта вызначаўся сярод тагачасных публікацый. Але ўсё ж прыцягнуў увагу нацыянальна свядомай беларускай моладзі, якой найперш і адрасавалася выданне. Уваходзячы ў вялікае жыццё, маладая змена моцна адчувала свае карані, шанавала духоўныя традыцыі продкаў і на гэтым трывалым грунце хацела як мага лепш і як мага хутчэй самасцвердзіцца. Верш прасякнуты жыццёвым аптымізмам, настроем вясновага абуджэння. Прачыналася ад зімовага сну прырода, набіралася сокаў усё жывое:

*Хрыстос Ускрос! Шпакі пяюць,*
*Ужо прабудзіліся дубровы,*
*У сьнягох* руччы бягуць і рвуць*
*Зімы сталёвыя аковы.*
*А цёмны лес абвесіў нос:*
*Ня верыць шчасьцю прабуджэньня,*
*Збудзісь! Пяі гімн ускрасеньня!*
*Хрыстос Ускрос!*[1]

Лёгка зразумець, што цёмны лес, які "абвесіў нос", ніякі і не лес, а той небарака, які не спяшаецца верыць новаму, бо прывык, каб усё цягнулася па-старому. Але заслуга маладога аўтара не толькі ў свежым вобразе. А. Бярозка ўдала паяднаў тут дзве плыні – лірычную і сацыяльную. Апошняя ўвайшла ў паэтычную канву шчыра, натуральна, як усплёск душы, што жадае абуджэння разам з усім наваколлем:

*Хрыстос Ускрос! Прыйшла вясна.*
*Хай прападзе бяда й нясчасьце,*



**Мацвей Смаршчок у дзень святкавання 50-годдзя працы ў шпіталі г. Мантысэла. 2000 г.**

*Хай Беларусь устане з сна*
*І запануе ўсюды шчасьце!*
*Ручай аковы свае зьнёс,*
*Зьвініць нам песьня ускрасеньня,*
*Каханьня, шчасьця прабачэньня –*
*Хрыстос Ускрос!* (17).

Плённым стаў для паэта і наступны, 1934 год. Бунтарныя матывы асабліва выявіліся ў вершы "Н о ч н а в і с л а н а д с о н н а й з я м л ё й...". З малюнка велікоднай ночы нібы вырастае палымяны заклік да беларуса: задумайся, кім ты ёсць на гэтай зямлі, пачынай будаваць новае жыццё:

*Ці чуеш, брат-Крывіч?*
*Гудуць званы, гудуць...*
*Свабоды кліч!..*
*Збудзісь, Крывіч!*
*Званы ўскрасеньня б'юць!* (25).

Шмат рабіў А. Бярозка ў кірунку адраджэнскай дзейнасці. Сябра паэта, вядомы дзеяч беларускага замежжа Антон Шукелойць, які ў маладыя гады жыў з Анатолем Бярозкам у невялікім пакойчыку аднаго з дамоў у Вільні, успамінаў: «У гэтым пакоі Бярозка (асістэнт прафесара на кафедры фізіялогіі Віленскага універсітэта. – **А. М.**) пасьля лекцыяў і працы рэдагаваў часопіс "Шлях моладзі", бо фактычны рэдактар Язэп Найдзюк выконваў адміністрацыйную работу. Сюды-ж прыносіў Бярозка на разгляд і перапрацоўку матар'ялы з часопіса "Калосьсе", сябрам рэдкалегіі якога ён быў. Тут ноччу ён пісаў свае вершы. У гэтым-жа пакоі выдаваўся і рукапісны, гумарыстычны часопіс "З-за плоту", у выпуску якога прыймалі ўдзел Анатоль Бярозка як рэдактар, Ян Жэдзік, які тэхнічна афармляў часопіс, і я» (133).





**Бюст Анатоля Бярозкі на сядзібе Музея выяўленчага мастацтва ў г. Старыя Дарогі.**
*Скульптар Уладзімір Лятун. Фонд Анатоля Белага.*

Менавіта ў часопісе "З-за плоту" з'явілася рэзкая сатыра на Сталіна. На гэта польскія ўлады, безумоўна, увагі не звярнулі, бо ў іх да "правадыра ўсіх народаў" стаўленне было адпаведнае, але ж якраз пачался ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Савецкай, гэты нумар трапіў у рукі ўпаўнаважанаму НКУС. Пільны служака пачаў шукаць тых, хто меў непасрэднае дачыненне да з'яўлення крамолы, і выйшаў на А. Бярозку. Праўда, не здагадваўся, што ў ягоным кабінеце акурат і знаходзіцца той, каго ён безвынікова шукае. Дапытваючы яго, заявіў, што нягодніка абавязкова зловяць і павесяць. А. Бярозка прызнаўся, што гатовы дапамагчы, але не ведае, дзе гэты самы... А. Бярозка хаваецца. А тут якраз адзін сябра паэта запэўніў упаўнаважанага, што А. Бярозка загінуў у верасні 1939 г.

Пасля гэтага А. Бярозка (цяпер ужо назаўсёды М. Смаршчок) паспяшаўся пакінуць Вільню. Пераехаў у Івацэвічы, уладкаваўся лекарам на Брэст-Літоўскай чыгунцы. Жыў і ў Іванаве, Пінску. У час Вялікай Айчыннай працаваў у Баранавічах лекарам, узначальваў медыцынскую школу. А пасля паехаў у Познань, дзе меў блізкіх сваякоў. Але чымсьці не спадабаўся немцам, і тыя накіравалі яго ў фашысцкі канцлагер Нордгаўзен, дзе давялося зведаць усе магчымыя жахі. Калі прыйшло вызваленне, разумеў, што гэтую "адсідку" на радзіме ніхто пад увагу не прыме,

а таму хутчэй за ўсё давядзецца апынуцца ўжо ў савецкім лагеры. А. Бярозка вырашыў застацца на чужыне. Пераехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе і працаваў па спецыяльнасці да выхаду на пенсію. За высокі прафесіяналізм карыстаўся вялікім і заслужаным аўтарытэтам. Адзін з дамоў пенсіянераў у штаце Мінесота носіць імя Мацвея Рэпкава-Смаршчка.

З-за паўсядзённых клопатаў было не да паэзіі. Толькі ў 1989 г. успомніў пра свае даўняе захапленне і вырашыў за ўласны кошт выдаць кнігу. Так і з'явіўся зборнік **"Адзінаццаць вершаў"**. Творы ў ім змешчаны не толькі ў арыгінале, але паралельна і ў аўтарскім перакладзе на англійскую мову.

Набыла паэзія А. Бярозкі і сваё песеннае гучанне. Верш "Эпілог" паклала на музыку Галіна Смоляк. Вядома і яшчэ адна песня, звязаная з імем А. Бярозкі, – "Асенняе лісце". Верш перакладзены ім з англійскай мовы. Далёка не ўсе, калі слухаюць у выкананні знакамітых "Сяброў" песню "Жураўлі лятуць", здагадваюцца, што гэта верш А. Бярозкі "Адлёт жураўлёў", пакладзены на музыку Зміцерам Еўтуховічам:

*Верасьнёвае сонца гуляе*
*На іх крыльлях – і ціха, тужліва*
*Крыльлі йграюць у ветры моў струн пераліва*
*Над іржышчам пустым, над гаем.*

*Вольны покліч нясецца*
*Ў паднябесных сініх шляхох...*
*Там, далёка дзесь, родны астаўся парог –*
*Асталося вернае сэрца.*

*І лятуць. А пад імі, зь нямою малітваю,*
*Засынаюць палі ў адзіноце...*
*А іх крыльлі, сіньню залітыя,*
*Верасьнёвае сонца залоціць* (37).

**Верш напісаны ў 1935 г., а адчуванне такое, быццам сёння нарадзіліся прачулыя радкі, настолькі яны сугучныя з пачуццямі нашага сучасніка. А гэта і ёсць адна з прыкмет сапраўднай паэзіі: не страчваць сваіх вартасцяў праз гады. Тое самае тычыцца і ўсяго найлепшага з напісанага Анатолем Бярозкам.**

# ...Каб трагедыя далёкай ужо грамадзянскай калатні не паўтарылася

Як вядома, 16—17 ліпеня праходзіў Чацвёрты з'езд беларусаў свету. Сярод дакладчыкаў быў і беларускі пісьменнік Валер Санько. Знаёмім чытачоў з фрагментамі яго выступу.

У нас усіх крыніцовіць у душы боль за Беларусь, справы ў ёй. І трывога № 1 — гэта пагроза паглынання нашай суверэннай краіны Расіяй. Гэта сталася б для нашага народа гістарычнай катастрофай, якую нельга дапусціць.

Аб'ектыўны закон развіцця грамадстваў сведчыць: толькі адно аб'яднанне грошай меншай дзяржавы і дзяржавы ў пятнаццаць разоў мацнейшай — гэта смерць дзяржавы меншай. Аб'яднанне такіх дзяржаў у федэрацыю, канфедэрацыю, саюз "роўных"... і г.д. азначала б смерць беларускай нацыі. Не адразу, але 150-мільённая маса суседняй дяржавы пракаўтне, растворыць нашыя дзесяць мільёнаў. У гэтым няма сумніву. Няўжо мы хочам такога зыходу?

Здаць каму б то ні было свае грошы, сваю беларускую мову, дзяржаву, сваіх продкаў — сваю будучыню — недаравальны грэх. Велізарны! З тых, якія значыць Наймагутны, Найдобры, Усябачны. Такі грэх падае не толькі на самых рашальнікаў, падпісантаў, дарадцаў. Такі грэх падае і на іхні род.

Прыклад з нашай даўняй гісторыі. Хітрамондры Ягайла паслухаў каталіцкіх біскупаў і маладую жонку, знішчыў язычніцкае тысячагадовае святое капліща ў Вільні. Адно з найвялікіх крывіцкіх. Пасягнуў на волю, радасць і слёзы продкаў, дзядоў-прадзедаў. Гэтым самым Ягайла вынішчыў сябе і род. Ад абодвух Ягайлавых сыноў нічога не засталося, а значыць, не засталося і ад вялікага беларуса — Ягайлы...

Ужо ў наш час талібы ў Афганістане знішчылі тысячагадовыя будысцкія статуі. Расстралялі з гарматаў. Вынік вядомы: вынішчылі яны і створаны імі ж лад, дзяржаву, сябе.

Тысячы прыкладаў, калі камісары ў грамадзянскую і Айчынную знішчалі супляменнікаў, ідэйна-рэлігійных апанентаў, неўпадабаныя сем'і, а вынішчылі свой род. Нічога ад самых не засталося — ці адразу, ці ў другім-трэцім пакаленнях.

Космасу і Тагасвеццю не скажаш: "Не мог, не здолеў, я маленькі чалавек, спадзяваўся на волю і розум іншых, я баяўся, адсутнічаў..." Той, хто ў любым выглядзе спрыяе знікненню краіны Беларусь, бярэ на душу недаравальны грэх, робіць найцяжэйшае злачынства.

...Мне незразумела, як ідзе выхаванне патрыятызму ў сучаснай беларускай моладзі, сталых людзей. Папрасіце школьніка.сярэдніх ці старэйшых класаў назваць хаця б дзесяць, усяго дзесяць славутых землякоў. Назавуць хіба адзінкі і тое будуць казаць амаль спрэс пра апошнюю вайну, партызанства, савецкіх герояў працы. Нібыта Беларусі ўсяго шэсцьдзесят гадоў...

Папытайце ў выпускніка ВНУ ці каледжа зноў жа пра дзесяць, усяго дзесяць лепшых беларусаў — ну хаця б у абранай маладымі спецыялістамі галіне, — знаных у краіне і за яе межамі. Пра вынік вы здагадваецеся.

Паспрабуйце і ў міністэрскіх ці гарвыканкамаўскіх — старанных і нават надта старанных, пасадных і непасадных супрацоўнікаў — спытаць пра самых вядомых на ўвесь свет беларусаў. І зноў назавуць адзінкі, ды і тых, як школьнікі і студэнты, — амаль выключна з нядаўняга савецкага мінулага.

Міністэрскія завіханцы сваё няведанне апраўдваюць чым заўгодна. Няма, маўляў, партрэтаў у міністэрстве, не засяроджана ўвага ў навучальных праграмах, ніхто не падказаў прапагандаваць такое. А то і збочваюць на звыклае: дык гэта ж — беларускі нацыяналізм!

А рускіх і англійскіх, польскіх і нямецкіх славутасцяў можна прапагандаваць? Дык чаму — адных іх? А дзе свае? Іх жа ў нас нямала. Часам славутых і вядомых за межамі Бацькаўшчыны куды болей, чым у сябе дома. Міністэрскія "дарэкі" (не кажу — недарэкі) спасылаюцца на недахоп часу, занятасць...

Любасць да зямлі беларускай і мовы беларускай, браткі, — гэта не адно ўздыхі, усхліпы ці крыкі. Працаваць болей трэба. Кожнаму. На любым месцы.

Нехта казуістычна і жорстка закручвае на зямлі беларускай антыбеларускія гайкі. Вяжа двудушнік такія вузлы, якія народ будзе пасля доўга развязваць.

У перайменаванні двух сталічных праспектаў, можа, ёсць хоць нейкая логіка. А якая логіка ў назве "Беларускі нацыянальны дзяржаўны тэхнічны універсітэт"? Былы БПІ. Тут што — вучацца адны беларусы? Не. Працуюць толькі беларусы? Выкладаюць усе прадметы па-беларуску? Не. Дык чаму "нацыянальны"? А ў Магілёве, Гродне, Віцебску, Брэсце, Гомелі ВНУ не нацыянальныя? Не беларускія?

Каго мы ўзвышаем, не ведаю. А што астатнія ВНУ краіны, дзяржаўныя і недзяржаўныя, прыніжаем, дык гэта дакладна. Дзяржава прыніжае саму сябе.

У сталіцы Беларусі ёсць Рускі драматычны тэатр. Будзе — дай Бог — з гадамі і польскі, і габрэйскі. А беларускага тэатра гадоў колькі ўжо нямашака! Змена Купалаўскаму назвы "Беларускі" на "Нацыянальны" фактычна падсекла лепшы і галоўны драматычны тэатр беларускай дзяржавы. Знізіла яго рэнаме.

Назвы любых установ павінны быць лаканічнымі, зручнымі для маўлення. Была Акадэмія навук Беларусі, стала Нацыянальная акадэмія навук Рэспублікі Беларусь. У чым патайны сэнс такой змены, не зразумею да сённяшняга дня. Ды нават самі акадэмікі патлумачыць не могуць.

...Вялікія адмыслоўцы і старанныкі з Мінскага метрапалітэна прыдумалі надзвычайны "патрыятычны" ход. Замрыце, гумарысты свету, вам да такога ніколі не датумкацца! Праз шмат гадоў пасля пачатку эксплуатацыі метрапалітэна назву станцыі "Плошча Незалежнасці" перамянілі на "Плошчу Леніна". Плошчы няма, зараз праспект Незалежнасці з'явіўся, а ў сталічным Мінску станцыя метро "Плошча Леніна" існуе! Вучыся, Масква, патрыятызму ў беларускіх хватаў!

Памылачка — ці свядомае тыканне жыхароў сталіцы незалежнай дзяржавы носам у сцяну бюракратную, у паніжэнне духоўнае?

Галоўную мову дзяржавы, беларускую, у мінскім метро нядаўна "запаважалі" такім чынам: сталі на ёй папярэджваць пасажыраў, каб бераглі ад злодзеяў кішэні... Смех і грэх! Быццам, як сказаў адзін высокі кіраўнік, наша мова і сапраўды ні на што "высокае і вялікае" не здатная...

Плююць беларусам у твар з самых розных стрэх, а яны выціраюцца, "не бачаць". А як выхоўваць нашу годнасць без нацыянальнай літаратуры? На выданне ж новых кніг пра нашу праўдзівую гісторыю і сучаснасць, вядома, патрэбны грошы. Дзяржава іх не дае. Дарэчы, за трынаццаць гадоў Беларускае выдавецкае таварыства "Хата", у якім я працую, — недзяржаўнае выдавецтва, — дзевятнаццаць (!) разоў звярталася з просьбамі аб дапамозе ў друкаванні асобных кніг. Звярталася ў міжнародныя банкі, пасольствы, цэнтры. Часам суму прасілі страшэнна "вялікую" — эквівалент адной тысячы долараў... Адказу няма.

Дзякуй Богу, пакрысе, па меры магчымасці дапамагаюць нам беларускія арганізацыі, прадпрыемствы, установы. Мясцовыя. А вельмі хацелася б, каб і беларусы замежжа, дыяспара землякоў нас падтрымала ў гэтым.

Браткі, нам патрэбна меней самаедства. Тут, у метраполіі, і там, на дыяспары. Давайце дапамагаць адно аднаму на справе. Інакш прайграе беларуская справа ў цэлым. Калі б у свой час усе беларусы — правыя і левыя, эсэры і сацыялісты — аб'ядналіся ў барацьбе за святую справу — беларускую дзяржаўнасць, абарону ўжо абвешчанай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспубліцы — яна магла б, напэўна, утрымацца. І гісторыя Беларусі даўно магла б пайсці іншым — еўрапейскім, цывілізаваным шляхам.

Але... Не змірыліся адзін з адным, партыя з партыяй. Не хапіла ўмення саступаць, выслухоўваць адно аднаго да канца, улічваць усе "за" і "супраць", арыентавацца ў складанейшых, зменлівых, бурных абставінах. У выніку — прайгралі...

Каб трагедыя далёкай ужо грамадзянскай калатні не паўтарылася ў новай гісторыі Беларусі, каб нашы цяперашнія ўладаўцы і дыяспарцы, як і мы ўсе, не бралі грэх на душу і не сцёрлі з карты сусвету свой род, нацыю беларускую, дзяржаўнасць, наш дэвіз і лозунг павінны быць адзін: БЕЛАРУСЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

Дзеля святой нацыянальнай справы — яднайцеся!

Дзеля народа беларускага і дзяржавы нашай — Беларусі — яднайцеся!

Жыла, жыве і вечна жыцьме Беларусь!

Валер САНЬКО,
дэлегат IV з'езда беларусаў свету, пісьменнік, доктар народнай медыцыны. /Народная Воля/

***

# "Washington Post": у Беларусі насьпявае аранжавая рэвалюцыя

Амэрыканская газэта "Вашынгтон Пост" апублікавала артыкул Філіпа Кэнікота пад загалоўкам "Простымі прыладамі актывісты ў Беларусі будуюць рух". Паводле амэрыканскай газэты, у канспіратыўных умовах, за кухоннымі сталамі, у парках і рэстаранах, у Беларусі высьпявае беларуская "аранжавая рэвалюцыя", а ўрад Лукашэнкі робіць усё, каб не дапусьціць яе... Публікацыя цікавая тым, як амэрыканцы бачаць і ацэньваюць разьвіцьцё падзеяў ў Беларусі... Калі 9 ліпеня спэцслужбы ўварваліся ў хату апазыцыйнага дзеяча Ўладзіміра Кішкурны, ні яго самога, ні жонкі не было дома. Міліцыя арыштавала 22-гадовага сына Кішкурны Антона, абвінаваціла яго ў продажы наркотыкаў і захоўваньні боепрыпасаў. Пры гэтым, што вельмі характэрна для Беларусі, міліцыя канфіскавала пішучую машынку, сапраўдную зброю ў руках тых, хто хоча адхіліць Лукашэнку ад улады – піша Філіп Кэнікот на старонках газэты "Вашынгтон Пост".

Паводле газэты, Лукашэнка здушыў гэтулькі формаў грамадзянскай актыўнасьці, што апазыцыі засталіся самыя прымітыўныя мэтады барацьбы, калі параўнаць іх з мэтадамі ўжыванымі дэмакратычнымі рухамі ў іншых краінах. Мабільныя тэлефоны, сатэлітнае тэлебачаньне, інтэрнэт і электронная пошта адыгралі значную ролю ў часе рэвалюцыяў ў Грузіі, ва Ўкраіне, а таксама ў Лібане. Аднак ў Беларусі ўсё гэтыя сучасныя формы камунікацыі ў той ці іншай ступені кантралююцца ўладамі, што калі пераварот ў Беларусі і адбудзецца, дык з дапамогай пішучых машынак, стаптаных чаравікаў і размоваў сам-насам, лічыць амэрыканскі журналіст. Дарэчы, як нагадаў праваабаронца Алесь Бяляцкі, на пішучую машынку трэба мець дазвол зь Міністэрства інфармацыі і друку, у найлепшых традыцыях савецкіх часоў.

Беларуская апазыцыя, гэта вельмі адрозныя адна ад адной групы палітыкаў, грамадзкіх дзеячоў і студэнтаў. Бадай адзінае, што іх аб'ядноўвае, гэта перакананьне, што Лукашэнка вядзе краіну ў змрочную эпоху сталінізму. Улетку сёлета яны больш шчыльна працавалі разам пры падрыхтоўцы Кангрэсу дэмакратычных сілаў і вылучэньні адзінага кандыдата ад апазыцыі. Тры асноўныя прэтэндэнты: Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька і Аляксандар Мілінкевіч дамовіліся адносна адзінага кандыдата, але іх чакаюць вялікія цяжкасьці, піша газэта "Вашынгтон Пост".

Неабходна сабраць 150 тысяч подпісаў, а ўлады могуць адхіліць канкурэнта Лукашэнкі ад ўдзелу ў выбарах на любой, выдуманай падставе. Бяз доступу да дзяржаўных СМІ, яны вымушаныя дайсьці да электарату з жывым словам альбо ўлёткамі, пры тым друкаванымі падпольным шляхам. Ніводная друкарня не асьмеліцца іх надрукаваць, бо кожную публікацыю ў болей як 300 асобніках трэба рэгістраваць. Незарэгістраваныя арганізацыі ня могуць мець банкаўскіх рахункаў і нельга ім атрымліваць дапамогу з-за мяжы.

Газэта "Вашынгтон Пост" прыгадвае словы былога дзяржсакратара ЗША Коліна Паўэла аб тым, што Беларусь застаецца апошняй дыктатурай Эўропе, а паводле праваабарончай арганізацыі "Freedom House", з усіх постсавецкіх рэспублік, у галіне правоў чалавека, горшая чым у Беларусі сытуацыя толькі ў Туркмэністане. Тым ня меней, ва ўмовах жорсткага кантролю і ціску, апазыцыйныя арганізацыі ўсё ж дзейнічаюць. Проста, паводле аднаго зь лідэраў моладзевага руху, выжываньне патрабуе творчых і вынаходлівых падыходаў.

***



# Шануйма сваё

*Ніва*

*Усё ж такі мы, беларусы, неразумны народ. Усяго баімся і гатовы проста прасіць прабачэння за тое, што яшчэ існуем. Мала цэнім сваё. Замкнуліся ў сваёй „тутэйшасці" і далей ні кроку.*

*У нашым даволі цяжкім і моцна паблытаным мінулым можа гэта і было апраўдана — гэта быў спосаб на выжыванне. Але ўжо цяпер — у ніякім выпадку. І калі не скарыстаем з данага нам шанцу стаць паўнапраўнай нацыяй, затрацім не толькі нашу прымітыўную „тутэйшасць", але і сябе. І гэта будзе непапраўнай нашай памылкай.*

*Вось данае нам права на падвойны запіс назваў нашых мясцовасцей і магчымасць выкарыстання нашай беларускай мовы як дапаможнай да агульнадзяржаўнай. Гэта ж цудоўная справа, дзякуючы якой яшчэ больш атракцыйнай стане наша Малая айчына і тым самым нашая тут меншасць. Нічагуткі не паменшыўшы і не зашкодзіўшы польскай мове, культуры і нашай польскай дзяржаве. Так, зрэшты, ёсць ва ўсіх цывілізаваных краінах, а дзе яшчэ няма, то хутка будзе.*

*Чаму ж тады ў нас з такой пададзронасцю ўспрымаецца многімі гэтае права?! Нават некаторымі беларусамі. А ёсць нават такія мулы (нават сярод інтэлігенцыі), якія робяць уражанне як бы гэтым правам атрымалі аплявуху. І, канешне ж, адкрыта выступаюць супраць ажыццяўлення яго.*

*А гэта ж добрае, разумнае, карыснае права. Мясцовая назва, напрыклад, з'яўляецца найбольш праўдзівай, аўтэнтычнай назвай. У ёй захоўваюцца ўсе адценні яе. Пасля гэтага ўжо будзе цяжка маніпуляваць ёю, упрыгожваць ці дапасоўваць да розных тэндэнцый, што цяпер так моднае ў нас. Ды і нашыя будучыя, ужо спаланізаваныя, пакаленні будуць глыбей задумвацца над імі і нашымі справамі ды прабаваць дакопвацца да таго, хто тут сапраўдны аўтахтон.*

*Што тычыцца дапаможнай ролі беларускай мовы таксама адны выгады: лепей жа і прыгажэй выказацца па-свойму, як калечыць польскую мову. А хто не хоча ёю карыстацца, не мусіць.*



*Тады, напрыклад, не пасмеюць лаяць бацькоў у бальніцы (што я сам чуў і бачыў), што прывезенае імі дзіцё з нашай беларускай вёскі не ўмеее гаварыць папольску. Або ў "powizytacyjnych zaleceniach" куратарыйнага візітатара ў школе не знойдзецца такое, што тэмы ўрокаў беларускай мовы і літаратуры ў школьным журнале павінны быць запісаны на польскай мове. І гэтак далей...*

*Адмаўляцца ад гэтага права — проста смехата адна, публічнае прызнанне ўласнай дурноты. Гляньце як палякі пільнуюць гэтых спраў. І менавіта ад іх нам трэба вучыцца.*

*А ў нас усё нейк наадварот. Не раз мы скарыстаць з задарма дадзенага зверху добрага і карыснага нам права, і некаторыя з нас проста аж рвуцца да змен там, дзе, на маю думку, змены нам толькі зашкодзяць. Напрыклад, пераход на новы стыль у царкоўных абрадах і ўвядзенне польскай мовы ў царкву — ад чаго так бараніліся (і абараніліся) нашы продкі. А мы такія ўжо сталі разумныя, што бачым патрэбу такіх змен. Значыць, не хочам ушанаваць іх волі, бо лічым, што не мелі яны рацыі?*

*Ад самага нараджэння нашых дзетак стараемся цяпер навучаць іх і польскай, і англійскай, і нямецкай, і іншым мовам. І гэта, канешне, разумна, правільна. Чаму ж тады ў такой няласцы становіцца ў нас свая родная і царкоўнаславянская мовы?! Яны ж так верна служылі нашым мінулым пакаленням у міжлюдскіх зносінах і са святымі. А цяпер што, раптам сталі незразумелымі ім? Лічу, што гэта неразумна, і нават грэшна.*

*Чаму ж так упарта некаторым хочацца набліжаць нашу святую царкву да польскага касцёла? Адны святы, адна мова — гэта ж заціранне граніц і розніц між намі. І яны якраз паспрыяюць яшчэ часцейшаму пераходу праваслаўных вернікаў у каталіцызм і нашай паланізацыі. Відаць, пра гэта такім рэфарматарам і ходзіць.*

**Васіль Сакоўскі**

Вольга **ІПАТАВА**, пісьменніца

# Толькі ўсе разам...

У нашай краіне амаль усе тэлевізійныя перадачы, прысвечаныя палітыцы і рознага кшталту аналізам грамадзянскай супольнасці, нармальнаму чалавеку можна глядзець толькі невялікімі дозамі — каб не атруціцца. Не мною зробленую гэтую выснову зноў пацвярджаюць каментары на тэму канфлікту з Саюзам палякаў на Беларусі.

Я не ведаю Анжаліку Борыс і не магу меркаваць пра ейныя дзеянні ў якасці старшыні гэтай грамадскай арганізацыі. Але спадарыню Борыс адкрыта абразілі на гэтую пасаду, што да пэўнага часу не абвяргалася і беларускай юстыцыяй. І я добра ведаю адно: нікому ў краіне, дзе пануе Закон і павага да правоў чалавека, не павінна быць дазволена гаварыць пра грамадзяніна (ці грамадзянку) у тым тоне і асвятленні, як гэта ў адносінах да А. Борыс рабілася на беларускім экране. Не павінна дазваляцца — не толькі ўладам, але і журналістам, калі яны хоць трохі паважаюць сябе саміх.

Тое, што толькі "адмарозкі" могуць даваць уласныя ацэнкі ўсяму, што ў нас робіцца, мы ўжо неяк і прывыклі, амаль ужо і не рэагуем. На пытанне "Чаму?" адзін грамадскі дзеяч прывёў у прыклад афінскага мудраца. Калісьці Сакрат на заўвагу, чаму ён не звяртае ўвагі на абразы пэўных людзей, адказаў па-філасофску: "Не буду ж я судзіцца з сабакам, які мяне ўкусіў!" Магчыма, Сакрат, апыніся ён у сённяшняй Беларусі, таксама не стаў бы звяртацца ў суд, але зусім па іншай прычыне... Так, абразы самага нізкага кшталту ў адрас як па-сапраўднаму сумленных людзей, што сёння не могуць не быць у апазіцыі, так і ў адрас пакорлівых чыноўнікаў, якія даўно не бароняць сваю годнасць, сыплюцца бесперапынна, атручваюць духоўную атмасферу краіны. Прывыкнуць да гэтага — немагчыма.

Таму не перастае ў мяне балець сэрца ад таго, што Святлану Завадскую нейкі (не буду нават і абазначаць хто) ударыў кулаком у твар, калі яна трымала партрэт свайго зніклага мужа. Баліць ад таго, што гэтага недачалавека не толькі не асудзілі, не толькі хаця б назвалі, але яшчэ і абараняюць дзяржаўныя мужы. Тым самым яны робяцца САЎДЗЕЛЬНІКАМІ ЗЛАЧЫНСТВА. Бо самае нізкае, бруднае злачынства — яшчэ і зневажаць, яшчэ і БІЦЬ жанчыну, у якой забралі самае дарагое — ейнае каханне. Якой не даюць нават сказаць пра сваё гора.

Калі жанчыну, якой аказалі давер многія нашы суайчыннікі, абраўшы яе кіраўніком арганізацыі, вы, што кіруеце намі, вы, што называеце сябе журналістамі, выстаўляеце як сексуальна заклапочаную асобу, якая адсутнасць мужчыны нібыта замяняе грамадскай працай — вы не яе абражаеце. Вы абражаеце ўсіх нас, жанчын і мужчын краіны, якія маюць сэрца і годнасць. І ў мяне баліць сэрца таксама і за Анжаліку Борыс, якой ад душы спачуваю, як спачуваю і ўсім тым, хто галасаваў за яе і каму наплявалі ў душу.

О, як вы хацелі б зрабіць, каб у тых, хто не спявае вам "алілуйя", не было сумлення, сэрца, а часам — свайго ўласнага дому і нават дзіцяці!

У мяне баліць сэрца за Аксану Новікаву, якой пагражалі тым, што пазбавяць яе матчыных правоў — толькі таму, што яна мела годнасць і пратэставала супраць беззаконня і гвалту навокал. За гісторыка Ніну Стужынскую, якую выгналі з працы таму што яна пішa праўдзівую гісторыю. За Элеанору Язерскую, якая гэтак дорага заплаціла за словы, пад якімі можа падпісацца амаль што кожны, хто працаваў на колішнім тэлебачанні і па драбінцы збіраў духоўныя каштоўнасці нацыі, якія пасля былі знішчаны і заменены на тое, што мы бачым там цяпер...

За Ларысу Геніюш, чыё 95-годдзе мы адзначалі пад дажджом у агароджы зэльвенскай царквы, таму што зэльвенскія ўлады адмовілі ў памяшканні — як звычайна, у апошнія хвіліны, — і выставілі міліцыянтаў нават пад могілкі, на якіх мы спявалі "Магутны Божа".

За дзяўчатак, якіх бязлітасна кідалі ў міліцэйскія аўтобусы падчас акцый пратэсту — пратэсту, якім шчырая маладая душа не можа не адказваць на вашы турмы і "хіміі", на вашу бесперапынную хлусню і подласці.

Разам з тым мне радасна, што яны ў нас ёсць — гордыя і нязломныя, мужныя і адкрытыя свету. Што яны спадзяюцца змяніць сітуацыю ў Беларусі, адкрыць багацце яе культуры — а не баяздольнасць "ваеннага кантынгенту, гатовага даць адпор у любым накірунку". Абазначыць гатоўнасць да дэмакратычных пераменаў (а не да кансервацыі аскабалка Савецкага Саюза). Менавіта з-за таго, што яны гатовы любой цаной бараніць дэмакратычныя каштоўнасці, уладамі так душыцца сёння беларуская мова і адвечныя дзяржаўныя сімвалы.

Адкрытасць свету — вельмі важны складнік нашага духоўнага жыцця. І калі я бачу іншых жанчын — унутрана скарчанелых, са згаслым і неспакойным позіркам, я таксама ім спачуваю. Не выказваючы сваіх адносін да беззаконня і гвалту, які творыцца ў адносінах да іншых, яны нібыта абараняюць сваю сям'ю, свой маленькі дабрабыт, сваю працу. Гэта ілюзія. Іхняе сумленне пратэстуе, іхняя душа спрабуе закрычаць — а яны маўчаць, яны спрабуюць заціснуць сваю бессмяротную душу ў вузкія рамкі побыту, у якім заўсёды будзе нечага не хапаць — ці то грошай, ці то парыжскіх убораў, як у суседскай "бізнес-лэдзі", ці то дапушчанасці да ўрадавага канцэрта...

Мне, дарэчы, заўсёды хацелася нешта напісаць пра канцэрты, якімі заканчваюцца розныя важныя мерапрыемствы. Дзеячаў культуры там, апроч якога дзесятка вядомых людзей, амаль няма, наведвальнікаў прывозяць аўтобусамі з раёнаў па разнарадках. Большасць з іх жанчыны. Менавіта яны, у сваіх уборах турэцкага шырспажыву, з наспех зробленым манікюрам на чырвоных спрацаваных руках (трэба ж пры мізэрных заробках выглядаць па-людску!), якраз і ёсць працаўніцы культуры і адукацыі, якія вызначаюць (ці павінны вызначаць) культурны і грамадскі клімат краіны. Гэта яны скончылі інстытуты і універсітэты і штодзень ідуць у школы, бібліятэкі, каб вучыць дзяцей і дарослых.

Ці вучаць яны іх быць перш за ўсё грамадзянамі?

Для гэтага трэба быць грамадзянамі самім, самім адчуваць адказнасць за лёс краіны, за тое, каб складнікамі грамадства былі не хамства і агрэсія, а сумленне і павага да чалавека. Але ці адчувае гэтую адказнасць наша вясковая, раённая інтэлігенцыя, нашы жанчыны, у якіх па самім прызначэнні (па-першае, жанчыны, а па-другое, ва ўстановы культуры традыцыйна ідуць людзі з больш высокім парогам сумлення і болю) павінна гучаць настроенасць на Святло?

Я часта сустракаюся з імі і сёння, і бачу сярод іх мноства тонкіх, духоўных асобаў. Але яны дазволілі сябе зацугляць — штодзённаму цяжкаму побыту, хамству чыноўнікаў, беззаконню. Іх прымушаюць палоць буракі, выбіраць на калгасных палетках бульбу — замест таго, каб чытаць прафесійную літаратуру і ўдасканальваць веды. Яны не пратэстуюць, а самае вялікае, на што асмельваюцца, — цішком напісаць у газету альбо пісьменніку — і чакаць, пакуль нехта прыедзе і стане вызваляць іх ад паншчыны (бо калі некваліфікаваную працу выконваюць не машыны, а людзі, гэта і ёсць паншчына). Якраз у іх можна ўбачыць гэты зацкаваны позірк у самыя, здавалася б, радасныя хвіліны, ім жывецца найбольш цяжка. Якраз да іх і звярталася пры мне аднойчы Зіна Бандарэнка з заклікам: "Як вы можаце мірыцца з усім тым, што робіцца навокал?", а яны толькі слаба ўсміхаліся і адводзілі вочы...

Я вельмі спадзяюся, што некалі яны ўздымуць вочы і скажуць самі сабе, што час вечнага страху скончыўся...

Але ёсць і іншыя жанчыны, якія трывала трымаюцца за фальш і двурушша. Яны задаволеныя ўжо тым, што іх чарговы раз адзначылі, прывезлі на ўрадавы канцэрт, і яны гатовыя ісці на выбарчыя ўчасткі і не будуць адводзіць вочы, калі ўбачаць старшыню выбарчай камісіі, які шмыгае да тэлефона, каб дзейнічаць па ўказцы зверху.

Гэта значыць, што ўладам удалося зацэментаваць у гэтых нашых суграмадзянках голас душы, узяўшы на сябе адказнасць за "гэтую хімеру" — сумленне. Чым скончылася такое ў 30-я гады ў адной еўрапейскай краіне, мы добра ведаем. Прабуджэнне "хімеры" было такім пакутлівым, што і сёння ў Германіі робіцца ўсё, каб ніколі больш не дапусціць панавання жывёльных інстынктаў над розумам.

Найбольшую, на мой погляд, цану заплацілі маці, якія бласлаўлялі сыноў у "гітлерюгенд", і кадры з хронікі тых часоў, калі менавіта жанчыны істэрычна крычаць "Зіг хайль!", здаюцца мне самымі страшнымі...

У нашай краіне, дзе жанчыны складаюць большасць насельніцтва, духоўная пазіцыя інтэлігенцыі (інтэлігентак) можа вырашыць вельмі многае. На жаль, нашы апазіцыйныя палітыкі яшчэ не навучыліся (на маю неспрактыкаваную ў палітыцы думку) апеляваць да душы і сэрца менавіта жанчын.

А таксама іх абараняць.

Думаю, невыпадкова сталася, што на вастрыі сённяшняй палітычнай мітрэнгі вакол Саюза палякаў апынулася менавіта жанчына. Улады, мабыць, палічылі, што справіцца з ёю будзе лягчэй, чым з мужчынамі. Але за кіраўніцай Саюза палякаў стаіць нешта большае, чым проста грамадская арганізацыя.

За ёю стаіць (і можна толькі пазайздросціць гэтаму) годнасць нацыі, якая выкоўвалася ў нялёгкай барацьбе за сваю незалежнасць і набыла сёння значны аўтарытэт у новай еўрапейскай супольнасці, якая мае палітычную волю абараняць інтарэсы суайчыннікаў, дзе б яны ні былі і хто б ні спрабаваў прыніжаць іх грамадзянскія правы.

Гэта не права так званага "рускамоўнага насельніцтва" ў краінах Балтыі ігнараваць мову і культуру краіны, дзе яны жывуць, яго хутчэй можна назваць сіндромам "старэйшага брата", які ў сілу сваёй агрэсіўнасці нездарма так палохае прыбалтаў. Гэта патрабаванне сусветнай супольнасці да кожнай еўрапейскай краіны — захоўваць у адносінах з нацыянальнай меншасцю пэўныя межы аддаленасці пры ўмове, што гэта не пагражае нацыянальным інтарэсам.

Ці пагражае сёння нашым нацыянальным інтарэсам Саюз палякаў? Ці, можа, шукаць трэба там, дзе на сёння існуе рэальная пагроза і беларускай мове, і суверэнітэту Беларусі? Дзе пасол ПАСМЕЎ заяўляць аб сваім жаданні стаць апошнім паслом у краіне, куды ён едзе, тым самым абвяшчаючы ўсяму свету сваё рэальнае стаўленне да ейнага суверэнітэту?

Суверэнітэт — гэта тое, супраць чаго некалі зацята змагалася сённяшняе кіраўніцтва і чым яно ўсе гэтыя гады тым не менш гандлюе, як сваёй уласнасцю. Гэта тое, што дорага ўсім нармальным людзям і за што на працягу стагоддзяў аддавалі жыцці лепшыя сыны і дочкі чалавецтва. Але калі пад выглядам абароны незалежнасці і суверэнітэту нашымі ворагамі робяцца ўсё больш крайн-суседзяў, то ўзнікае сітуацыя, якая вельмі дорага можа абысціся беларускаму народу. Агрэсіўнасць у адносінах да іншадумцаў непазбежна абернецца (што назіраецца ўжо не сёння, але паступова набывае ўсё больш небяспечныя рысы) агрэсіяй у дачыненні да ўсяго свету, які бачыць іншы шлях развіцця чалавецтва, чым дыктатура і тыранія.

Зацьменне духу, якое мы назіраем вось ужо адзінаццаць гадоў, заключаецца ў тым, што нашае грамадства перамолваюць па частках, і таму ацалелыя ўвесь час спадзяюцца, што іх не крануць. Спачатку малацілі мастацкую інтэлігенцыю, пасля палітычную апазіцыю (часам уперамешку), пасля прадпрымальнікаў, цяпер узяліся за нацыянальныя меншасці. І што цікава — некаторыя нацыянальныя меншасці не толькі не падтрымалі палякаў, а наадварот, выказалі ледзь не падзяку за сваё шчаслівае існаванне, нібыта можна шчасліва існаваць, калі гвалцяць суседзяў. Мы ўсё яшчэ не хочам зразумець, што выратавацца ад тыраніі можна толькі разам.

Тое, што называюць грамадзянскай супольнасцю, усё ж вырастае — пасярод правакацый, бесперапынных спробаў раз'яднання, амбіцый, саперніцтва і ўсяе той чарнаты, якая сапраўды нагадвае балота.

Яна будзе моцнай толькі тады, калі будзе грунтавацца не толькі і не столькі на палітычных тэхналогіях, як на пачуццях, якія чамусьці не прымаюцца пад увагу ні палітыкамі, ні грамадскімі дзеячамі. Я маю на ўвазе універсальныя, касмічныя катэгорыі — сумленне і любоў. Любоў да краіны, у якой мы жывём, да яе мінулага і будучыні (тое, што даследуе мастацтва, найперш Літаратура). Сумленне — гэты голас сэрца — не дасць "праглынуць" хлусню і гвалт над іншым, няхай гэты іншы не падабаецца табе асабіста. Мы жывём менавіта так, як жывём, таму што ў большасці не ведаем вялізных наступстваў сваёй хлусні, здрадніцтва і страху — наступстваў для сябе і для нашых нашчадкаў. Нічога не прападае, усё застаецца ў энерга-інфармацыйным полі Зямлі, і вяртаецца да нас — хваробамі, няшчасцямі, смерцямі. Ці толькі з-за дрэннай экалогіі так бязлітасна-хутка выміраe Беларусь?!

Калі мы пачнём хаця б слухаць голас уласнага сумлення, мы зможам пераламіць беспрасветна-чорную сітуацыю і выбрацца з балота.

Палітык, які думае перш за ўсё пра Беларусь, а не пра сябе, зможа тады ацаніць сваё рэальныя магчымасці і не марнаваць чужыя высілкі і час, каб у выніку ў чарговы раз пацярпець няўдачу.

Просты грамадзянін пераможа свой страх і выйдзе на вуліцу разам з іншымі, таму што будзе клапаціцца не толькі пра сваю ўтульную кухню, але і пра тых, хто зараз як вязень сумлення пакутуе ў турме ці на "хіміі".

Настаўніца, якой прапануюць падпісаць фальшывы пратакол, адмовіцца і заявіць пратэст, таму што будзе разумець, што грэх на душы (як казалі ў старажытнасці) заявіць пра сябе калі не цяпер, то ў будучым.

Гэта тыя, у кім сумленне яшчэ жывое. Бо тыя, хто сёння абліваe непакорлівых і смелых тэлевізійным брудам, хто забараняе і пераследуе — тыя добра ведаюць, што яны твораць, да іх не дойдуць ніякія папрокі і пратэсты, бо ў нашай краіне, хочам мы таго ці не, процістаянне ідзе па разломе адвечных ліній — Дабра і Зла.

Іх можна спыніць толькі тады, калі мы ўсе разам — пісьменнікі і прадпрымальнікі, рабочыя і лекары. Беларусы і рускія, палякі і татары.

Супраць атруты і разбэшчвання душаў, супраць ілжы і рабаўніцтва, супраць ідэалогіі насілля і прыніжэння, супраць удушэння беларускага ў беларусах.

Пакуль яшчэ не стала позна, і пакуль мы яшчэ народ...

************************************************

# Баляслаў БЕРУТ: «Яна выратавала мне жыццё»

ЗНОЙДЗЕНА Ў АРХІВЕ

Улічваючы 60-годдзе заканчэння другой сусветнай вайны, прыгадаем малавядомыя старонкі знаходжання ў беларускай сталіцы ў дні ваеннага ліхалецця Баляслава Берута — першага пасляваеннага прэзідэнта Польшчы. Пражытае склала амаль два гады. Аб тым, якім яно было, расказваюць архіўныя матэрыялы, успаміны, значная частка якіх адносіцца да гісторыі Мінска-га антыфашысцкага падполля, узаемаадносінаў з людзьмі, якія акружалі польскага грамадзяніна і якім ён аказваў знакі асаблівай увагі.

Некалькі афіцыйных даных. Баляслаў Войцэхавіч Берут нарадзіўся 18 красавіка 1892 г. у Польшчы, недалёка ад г. Любліна. Палітыкай стаў займацца ў 20 гадоў. У 30-я гады — член камінтэрнаўскага руху. Пачатак другой сусветнай вайны сустрэў у польскай турме, у камеры-адзіночцы. Адсюль яго вызвалілі ваенныя падзеі, што разгарнуліся на тэрыторыі Польшчы ў 1939 г.

Мінск, як новае месца жыцця і дзейнасці, сустрэў Берута ў вобразе казачнай істоты, якая затаілася. Такім ён выглядаў у ліпені 1941 г., калі яго жыхары яшчэ толькі-толькі пачыналі адыходзіць ад шоку хуткага падзення савецкай улады і ўстанаўлення новай — германскай. Адной з першых грамадзянскіх устаноў Мінска, якая павінна была арганізоўваць адміністрацыйна-гаспадарчую і культурную работу, стала так званая Мінская гарадская ўправа.

У пачатку 1943 г. Беларускі штаб партызанскага руху склаў спіс асоб, якія абвінавачваліся ў здрадзе. Але дакладнасць яго была не вельмі вялікая, бо многія з тых, хто там «засвяціўся», былі патрыятычна настроеныя людзі. Гэта адносіцца і да супрацоўнікаў гарадской управы, якія аказаліся ў тым лісце. Працаваўшыя тут выпускнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, політэхнічнага інстытута, мединстытута і іншых навучальных устаноў дапамагалі будучым удзельнікам мінскага антыфашысцкага супраціўлення з ліку ваеннапалонных, былых савецкіх ваеннаслужачых атрымаць гарадскую прапіску, уладкавацца на работу, забяспечвалі неабходнымі дакументамі заходне-беларускіх бежанцаў, выратоўвалі ад пагромаў і здзекаў яўрэйскае насельніцтва. Знаходзіліся і такія (Л.Д. Драгун-Пастрэвіч, З.З. Гала), якія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы і ажыццяўленні унікальнай аперацыі па ліквідацыі нямецкага гаўляйтэра, генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ.

Вось у такі орган адміністрацыйнага самакіравання і трапіў у ліпені 1941 г. вядомы польскі дзеяч — Баляслаў Берут. Хадайнічалі за яго будучая мінская падпольшчыца Марыя Мікалаеўна Калініна, яе муж Міхаіл Фёдаравіч Філіповіч, а таксама паляк з нямецкім прозвішчам — П.І. Герынг. Берут амаль за два з паловай месяцы прайшоў шлях ад памочніка загадчыка гаража да начальніка пададдзела па нармаванню і размеркаванню харчовых прадуктаў Мінскай гарадской управы. Рухальнай сілай у гэтым працэсе паслужылі добрае валоданне нямецкай мовай, інтэлігентныя формы ўзаемаадносінаў з супрацоўнікамі, акуратнасць у працы. Да сённяшняга часу хвалюе пытанне, выпадковым ці не было ўладкаванне Берута на работу ў гарадской управе? На наш погляд, яно насіла мэтанакіраваны характар, бо выбар гарадской управы быў зроблены загадзя. Гэта паказвае аналіз розных архіўных матэрыялаў.

Тайныя жыццё і дзейнасць Берута ў Мінску складаюцца з дзвюх частак: ажыццяўленне ім сувязі з падполлем і партызанамі і гуманітарная дапамога пацярпеўшым людзям. З падпольшчыкамі і «ляснымі воінамі» асцярожны польскі грамадзянін меў кантакты толькі праз асабліва давераных яму людзей — Ц.А. Зарубіна, М.М. Калініну, М.Ф. Філіповіча, К.І. Караля і іншых. У ход пускаліся падложныя квітанцыі, справаздачы і іншыя дакументы такога кшталту, па якіх крупы, соль, масла, алей, цукар, іншыя прадукты, а таксама медыкаменты і нават адзенне завозіліся па дамоўленасці ў спецыяльныя магазіны, а адтуль, на машынах гаража ўправы, адпраўляліся ў «лес». Па такой схеме дзесяткі, а то і сотні тон харчу і вопраткі былі дастаўлены ў 1942—1943 гг. у партызанскія атрады «Мсцівец», «За Айчыну», «Беларусь», партызанскую брыгаду «Штурмавая» і іншыя. Паўтараем: дакументаў, якія б пацвярджалі прамы кантакт з партызанамі, не выяўлена. Гэта дае права канстатаваць, што Берут у нейкім сэнсе з'яўляўся рэзідэнтам, які меў сваю агентуру, праз якую і ажыццяўляў сваю антыфашысцкую дзейнасць.

Хто адкрыў ваенная Берута шырокай грамадскасці? Зрабіла гэта жонка вядомага кампазітара Беларусі Ісаака Ісаакавіча Любана — Анастасія Якаўлеўна Калеснікава. Не адзін год Баляслаў Войцэхавіч заставаўся толькі прозвішчам ва ўспамінах удзельнікаў падпольнага і партызанскага руху. Нейкага паглыбленага аналізу яго дзейнасці і жыцця ў Мінску ў дні акупацыі не рабілася. Больш таго, прозвішча гэтага чалавека нярэдка выкрэслівалася, калі траплялася на старонкі рукапісу. Пра кніжныя выданні не прыходзілася і гаварыць. Доўгі час прычынай гэтага з'яўлялася праца Берута ў Мінскай гарадской управе, існаванне да гэтай катэгорыі людзей з боку афіцыйных савецкіх уладаў абвінавачвага ўхілу. Прамень, які ўпершыню асвятліў мінскі перыяд жыцця і дзейнасці Берута, быў пушчаны Калеснікавай у 1974 г. у пісьме да польскага ўрада. Менавіта тады палякі і беларусы пачалі рабіць першыя абагульненні і высновы аб патрыятычнай дзейнасці вядомага польскага грамадзяніна. Да вырашэння праблемы далучылі нават тагачаснага міністра замежных спраў Беларусі К.В. Кісялёва. Рабілася гэта ўжо на аснове выхаду першых буйных работ беларускіх вучоных па гісторыі Мінскага падполля.

Анастасія Якаўлеўна Любан-Калеснікава адносілася да кола людзей, з якімі Берут пазнаёміўся ў час знаходжання ў Мінску і з якімі ўстанавіў добрыя ўзаемаадносіны. Аднойчы яна паскардзілася яму на жыццё: не падае звестак муж, які знаходзіцца ў Маскве, нядобразычлівцы пагражаюць даносам на яўрэйскую нацыянальнасць яе дзяцей, бесперспектыўныя спробы ўладкавацца на работу, прычына адна — няма на каго пакінуць маленькіх дзяцей. З таго незабыўнага вечара іх сустрэчы сталі сістэматычнымі. А праз нейкі час Баляслаў Берут перабраўся ў яе трохпакаёвую кватэру на пастаяннае жыццё.

Літаратура аб вайне ў даўгу перад памяццю тых, хто ў той трывожны час знаходзіў магчымасць для аказання гуманітарнай дапамогі пацярпеўшым людзям. У словазлучэнне «гуманітарная дапамога» ўваходзілі: дапамога харчамі, медыкаментамі, шчырым цёплым словам, уменне не гаварыць лішняе аб суседзях і знаёмых, выратаванне ад галоднай смерці ваеннапалонных, добразычлівыя адносіны да яўрэйскага насельніцтва, асабліва да іх дзяцей, і іншае. Многае з гэтага адпавядала таму, што рабіў Берут. Ва ўспамінах А.Я. Калеснікавай расказваецца, напрыклад, аб выратаванні ад галоднай смерці сям'і беларускага кампазітара Яўгена Цікоцкага. Калі яны наведалі гэтых людзей, якія пражывалі на Камароўцы, то ўбачылі страшэнную карціну фізічнага і маральнага паміраня. Смерць абышла сям'ю кампазітара. У той жа дзень Баляслаў Берут пакінуў ёй свае асабістыя хлебныя картачкі, а праз нейкі час дапамог жонцы Цікоцкага ўладкавацца на працу. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь сярод матэрыялаў Анастасіі Якаўлеўны Калеснікавай захоўваецца цэлы спіс яўрэйскіх сем'яў, выратаваных ад голаду і генацыду польскім грамадзянінам.

Самыя цёплыя і сардэчныя адносіны Берута адрасаваліся А.Я. Калеснікавай. Ён зрабіў усё магчымае для таго, каб адвесці пагрозу ад дзяцей Анастасіі Якаўлеўны. Славутая нямецкая формула «вырашэння яўрэйскага пытання» патрабавала перамяшчэння іх і іх маці ў яўрэйскае гета. Берут адыграў не апошнюю ролю ў дасягненні згоды земляка Любана — Мікалая Парфір'евіча Клауса — узяць на сябе бацькоўства дзяцей Калеснікавай. Так гэта вельмі балючае пытанне было паспяхова вырашана.

Усё гэта не магла забыць жанчына. І пасля 1974 г. настаў 1981 г., калі яна зноў паставіла пытанне аб легалізацыі ролі Берута ў падполлі і партызанскім руху. На гэты раз усё гэта адбылося ў форме звароту да палітычнага і дзяржаўнага кіраўніцтва Савецкай Беларусі. У разглядзе яе вялікага пісьма (41 старонка) удзельнічаў М.Я. Аўхімовіч, які ў час вайны займаў пасаду сакратара кампартыі Беларусі па кадрах. У яго адозве гаворыцца: «Аб паводзінах гр. Калеснікавай Анастасіі Якаўлеўны ў час яе пражывання ў Мінску ў перыяд яго часовай акупацыі нямецкімі фашыстамі мне вядома наступнае. У жніўні 1943 г. па даручэнню ЦК КПБ партызаны Мінскай вобласці вывезлі з Мінска жонку беларускага кампазітара Любана і дваіх яго дзяцей, а потым з партызанскага аэрадрома (база Мінскага абкама КПБ) пераправілі іх у Маскву. Мне было даручана пагутарыць з А.Я. Калеснікавай. У гэтай гутарцы яна мне тады расказала, што ў Мінску на яе кватэры жыў (у блізкіх з ёю адносінах) Баляслаў Берут, што гэты чалавек працаваў у гебітскамісарыяце г. Мінска і загадваў там картачным бюро, што ён выратаваў яе дзяцей ад гета, а ўсю сям'ю — ад голаду. Хто такі Берут, яна не ведае. Але, пакідаючы Мінск, ён пакінуў ёй сваю салдацкую кніжку — польская салдата, паланёнага немцамі. Пакідаючы Мінск, ён ёй таксама сказаў, што накіроўваецца выконваць адказнае заданне, але якое гэта заданне — яна тады сказала, што не ведае. Але яна вельмі добра ведала, што ён, Берут, чалавек добры і сумленны. Я пра гэту гутарку тады далажыў першаму сакратару ЦК КПБ. І грамадзянка Калеснікава была ўладкавана на працу, і ёй і яе дзяцям было прадастаўлена жыллё. Прозвішча Берут мне тады ні аб чым не гаварыла. У 1945 г. дэлегацыя ПНР на чале з Б.В. Берутам вярталася з Масквы, зрабіла прыпынак у Мінску. П.З. Калініну, І.А. Крупені і мне было даручана іх сустрэць на аэрадроме і правесці ў залу ўрада. Там была гутарка з дэлегацыяй у першага сакратара ЦК КПБ

і старшыні Саўнаркома рэспублікі П.К. Панамарэнкі. Пасля гутаркі ўсіх прысутных запрасілі на абед на дачу ў Дразды. Выходзячы з кабінета старшыні ўрада, у прыёмнай Б. В. Берут убачыў грамадзянку Калеснікаву. Ён абняў яе і пацалаваў і прадставіў яе ўсім нам са словамі: «Вось чалавек, які ў час майго падполля ў Мінску ў 1941—1943 гг. выратаваў мне жыццё». Будучы ў 1954 г. у Варшаве на Другім з'ездзе Польскай аб'яднанай рабочай партыі, я меў гутарку з Берутам аб грамадзянцы Калеснікавай: Ён вельмі цёпла аб ёй адзываўся і вельмі клапаціўся аб ёй матэрыяльна».

Разбор пісьма закончыўся дзвюма падзеямі. У 1985 г. імем Баляслава Берута была названа адна з вуліц Мінска. На мемарыяльнай дошцы зроблены надпіс: «Гэта вуліца названа імем Баляслава Берута — дзеяча польскага і сусветнага рабочага руху, які знаходзіўся ў 1941—1943 гг. у падполлі ў акупаваным немцамі Мінску». Не забылі і Анастасію Якаўлеўну Калеснікаву, якая ў той перыяд атрымала архіўную даведку ўдзельніцы Мінскага антыфашысцкага падполля.

Сціплы расказ Любан-Калеснікавай у час гутаркі з Аўхімовічам пра Берута можна толькі вітаць. У той перыяд (1942—1943 гг.) у адносінах да Мінскага падполля быў абвінаваўчы ўхіл. Кожнае неасцярожнае слова магло абярнуцца негатывам як супраць яе, так і супраць дарагога ёй чалавека.

Аўтар гэтых радкоў у 90-я гады сустракаўся з М.М. Калінінай. Гэта цудоўная жанчына пражыла 95 гадоў, мела светлую галаву і добрую памяць. І вось пра што яна расказала:

— У 1956 г. у Маскве ад запалення лёгкіх памёр Б.В. Берут. Мы параілі Калеснікавай паехаць у сталіцу на апошняе развітанне. Яна ж адказала: «Там для мяне няма нікога. Быў адзін — і той памёр». Нягледзячы на нашыя ўгаворы, нават сабраныя грошы, Насця ў Маскву не паехала. Але думала і гаварыла пра Берута да апошняга дня.

Яўген БАРАНОЎСКІ,
вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук. /Zviazda/

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Новае замежнае радыё для Беларусі загаворыць па-беларуску і па-расейску

Эўракамісія абвясціла конкурс на новы праект замежнага тэле- і радыёперадаваньня на Беларусь. Меркаваны кошт праекту — 2 мільёны эўра. У конкурсе могуць узяць удзел станцыі, якія працуюць на тэрыторыі Эўразьвязу і маюць прынамсі пяцігадовы досьвед вяшчаньня на беларускую аўдыторыю. Наша карэспандэнтка высьвятляла падрабязнасьці ў спадарыні Эмы Удвін — прэсавай сакратаркі. эўрапейскага камісара Бэніты Фэрэра-Вальднэр.

"Літаральна сёньня мы даслалі электронныя лісты ў рэдакцыі з інфармацыяй пра ўмовы тэндэру. Вы мусіце ведаць, што пакуль яшчэ нічога ня вырашана наконт таго, хто атрымае праект. Ён адкрыты для ўсіх дзейных станцыяў. Вяшчаньне на дзьвюх дзяржаўных мовах Беларусі — расейскай і беларускай.

Тое, што зьвязана з "Deutsche Welle", было першым крокам. Цяпер размова ідзе пра другі крок, пра вяшчаньне, разьлічанае на больш працяглы час. Мы зьмясьцілі на нашай інтэрнэт-старонцы інфармацыю пра тое, што хочам рабіць гэты праект, пра тое, што запрашаем да ўдзелу ўсе дзейныя зацікаўленыя ў праекце вяшчальныя станцыі. Гэтыя станцыі мусяць цяпер даць сваё пацьверджаньне на ўдзел у гэтым конкурсе. Тэрмін прыёму заявак — 11 кастрычніка.

Пасьля гэтага мы адбярэм ад трох да пяці (ня больш за пяць) кандыдатаў, а потым будзем абмяркоўваць з гэтымі кандыдатамі іхны магчымы ўдзел у праекце: што, якімі сродкамі яны хочуць перадаваць інфармацыю — радыё, тэлебачаньне, Інтэрнэт, іншае. Гэта называецца канкрэтны дыялёг пра супрацоўніцтва паміж станцыяй і Эўракамісіяй. Канкрэтнага часу, калі будуць вызначаныя пераможцы тэндэру, я назваць пакуль не магу. Аднак пачатак вяшчаньня — студзень наступнага году".

Пра падрабязнасьці тэндэру расказала Эм Удвін, прэсавая сакратарка эўрапейскага камісара Бэніты Фэрэра-Вальднэр

*****************************************************

# Э.Шрэдтэр камэнтуе пляны Эўракамісіі па радыёвяшчаньні на Беларусь

У Страсбуры ў часе паседжаньня эўрапейскай парлямэнцкай дэлегацыі па Беларусі адбылася дыскусія вакол новага тэндэру Эўракамісіі. Размова ідзе пра новы праект замежнага вяшчаньня на Беларусь, на які Брусэль выдаткоўвае два мільёны эўра. Умовы тэндэру мяняліся некалькі разоў і выклікалі даволі крытычныя ацэнкі з боку эўрапейскіх дэпутатаў, якія займаюцца беларускім пытаньнем.

Прадстаўнікі пераважна новых краінаў Эўразьвязу рашуча не пагаджаліся з тым, што новы тэндэр дае карт-бланш для мэдыйных гігантаў кшталту "BBC", "Deutsche Welle", "Radio France Internationale" і не пакідае шанцаў для тых жа менш магутных станцыяў у Польшчы, Літве.

Другім спрэчным момантам ізноў стала мова вяшчаньня. Паводле першых конкурсных апісаньняў, яна была расейскай. Сёньня прэсавая служба Эўракамісіі азнаёміла прэсу з новымі ўмовамі тэндэру. Новыя праекты вяшчаньня для Беларусі камэнтуе дэпутатка Эўрапейскага Парлямэнту, сябра парлямэнцкай дэлегацыі па Беларусі Элізабэт Шрэдтэр.

"Справа ў тым, што ўчора дэпутаты аспрэчвалі старую рэдакцыю тэндэру. Зразумела, большая частка сяброў нашай групы – прадстаўнікі Польшчы і Літвы, і яны настойвалі на вяшчаньні на Беларусь з адной з усходнеэўрапейскіх краінаў.

Іншая справа, што два мільёны эўра – гэта не такія вялікія грошы, каб будаваць новую станцыю, ствараць ад самага пачатку нейкі новы тэхнічны комплекс.

Усё гэта мусіць быць ужо ў наяўнасьці, а грошы Эўракамісіі мусяць ісьці на самі праграмы. Яшчэ трэба акрэсьліць і такі момант. Размова ідзе і пра праект "Нямецкай хвалі". Ён ня мае ніякага дачыненьня да гэтых двух мільёнаў...

Гэта экстрэнная праграма, якая распачнецца ў кастрычніку. Яна прысьвечаная беларускай тэматыцы. Плянуецца, што ў адзін зь пяці эфірных дзён мова вяшчаньня будзе беларускай, а ў астатнія дні – расейскай. Потым беларускай мовы ў праграмах стане больш.

Што да цяперашняга тэндэру, то тут у вяшчаньня будзе дзьве мовы – беларуская і расейская. Здаецца, 50 на 50.

І трэці момант. У часе паседжаньня парлямэнцкай дэлегацыі па Беларусі былі выказаныя прапановы адносна стварэньня дадатковага да гэтых двух праектаў вяшчаньня. І гэтыя прапановы перададзеныя Эўракамісіі. Гэта стварэньне цалкам новай станцыі. Вяшчаньне можа весьціся не абавязкова з тэрыторыі Эўразьвязу. Стваральнікі праграм – выключна беларускія журналісты і тэхнікі. Гэта зусім іншы праект, на які мусіць шукаць сродкі Эўракамісія. Размова ідзе пра магчымае будаўніцтва станцыі, стварэньне незалежных інфармацыйных праграмаў, сеткі адукацыі для журналістаў і гэтак далей".

Заявіла дэпутатка Эўрапейскага Парлямэнту Элізабэт Шрэдтэр.

*****************************************************

# Мова і мы

Дзень беларускага пісьменства, які нядаўна адзначаўся, у сучаснай Беларусі — свята, па вялікім рахунку, сумнае. Сумнае для ўсіх нас, а ў першую чаргу — для прадстаўнікоў уласна беларускага пісьменства. Беларускае слова сёння не корміць тых 500 з нечым членаў пісьменніцкага саюза і не падвышае іх сацыяльны статус, як гэта было нават за савецкім часам. У іншых асяродках беларускай творчай інтэлігенцыі тытульная мова нацыі сёння выконвае не больш як дэкаратыўную функцыю. Сярод сродкаў масавай інфармацыі чыста беларускімі застаюцца ўсяго некалькі газет ды беларуская рэдакцыя Радыё Свабода. Сучасная кіраўнічая эліта беларускую мову наогул не ўжывае — ні пісьмова, ні вусна. Па выкараненні мовы з афіцыйнага ўжытку і СМІ сённяшняя ўлада пераплюнула, здаецца, усе ранейшыя ўлады і рэжымы. Савецкая русіфікацыя, а пасля 12-гадовая русіфікацыя Беларусі рэжымам Лукашэнкі ўжо прывялі да таго, што і ў свеце нас пачынаюць успрымаць як народ без мовы. "Для роднай мовы "створаны ўмовы": паўсюдна на вачах чужыя словы" — плакат з такім надпісам трымалі ў жніўні на плошчы Бангалор у Мінску маладыя ўдзельнікі акцыі пратэсту супраць расейскамоўнага вяшчання на Беларусь "Нямецкай хвалі". А што немцам? Амаль не размаўляюць беларускія дэмакраты па-беларуску, не размаўляе ўлада, бізнес, інтэлігенцыя, працоўныя — то і наце вам беларускую праграму па-руску. Запратэставалі. У незалежных СМІ цэлыя дыскусіі разгарнуліся пра нямецкую расейскамоўную дапамогу беларускай дэмакратыі. Гэты прыклад лішні раз падкрэсліве нашу залежнасць ад мовы. Бо не толькі па тым, што мы мовім, але і па тым, як мы мовім, нас успрымаюць і сябры, і ворагі. Як мы размаўляем і як гэта ўплывае на наша жыццё — тэма асобная. Паказальным у гэтым плане можа быць адзін нядаўні прыклад.

"...Саша, так як і ўсе, быў абыкнавенным мальчыкам. Но мы гардзімся, што васьпіталі і вывучылі Аляксандра Грыгор'евіча, настаяшчага цяперашняга прэзідэнта..." — расказвала пра свайго былога вучня адна з настаўніц Аляксандра Лукашэнкі ў святочным эфіры канала ГНТ 1 верасня.

На якой мове гэта сказана?.. Ды якраз на той, на якой сёння размаўляе большасць насельніцтва Беларусі: ужо не па-беларуску, але яшчэ і не па-руску. І адразу зразумела, адкуль паходзіць такі нязводны беларускі акцэнт у нашага расейскамоўнага прэзідэнта. А сучасным маладым людзям, хто пайшоў у школу на зары прэзідэнцтва Лукашэнкі, беларускі акцэнт, падобна, ужо не пагражае.

Як вядома, падчас апошняга перапісу насельніцтва абсалютная большасць беларусаў назвала беларускую мову роднай. І ў гэтым яшчэ адзін наш сумны феномен. Тая ж большасць не думае, не размаўляе, не піша па-беларуску ні ў дакументах, ні на магільных плітах, а мову называе роднай... Ці то мы перасталі быць шчырымі нават самі перад сабой, ці назвалі беларускую роднай моваў інтуітыўна альбо аўтаматычна — па назве свайго народа? Апошняе падаецца найбольш верагодным. Рускамоўны беларус — яшчэ не рускі чалавек. Таму і называе мову роднай, не карыстаючыся ёй.

*****************************************************

# ХАЧУ СКАЗАЦЬ...

Усе бачаць, што на дзяржаўным узроўні ідзе ўдушэнне беларускай мовы.

Неяк прачытаў, што міністр адукацыі спадар Радзькоў сказаў, што бацькі больш ахвотна аддаюць сваіх дзяцей у рускамоўныя школы (класы), што яны аддаюць перавагу рускай мове. На мой погляд, аддаваць дзяцей пераважна ў рускамоўную школу і аддаваць перавагу рускай мове — гэта, як кажуць у Адэсе, дзве вялікія розніцы. Гэта не адно і тое ж. Можа, і сапраўды больш аддаюць дзяцей у рускамоўныя школы. Але гэта выклікана не тым, што яны не хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускамоўнай школе. Яны аддаюць таму, што не хочуць рызыкаваць (я сам гэта чуў ад многіх), бо ў любы момант беларускамоўны клас (школа) будзе рэарганізаваны ў рускамоўную альбо зачынена. Прыклад — Беларускі гуманітарны ліцэй.

Усе бачаць, што на дзяржаўным узроўні ідзе ўдушэнне беларускай мовы. Мова карэннай нацыі Беларусі фактычна знікае з экранаў тэлебачання, радыё. Яе цураюцца чыноўнікі (прэзідэнт, урад, міністры, дэпутаты).

А вось дзяржаўным служачым з Міністэрства адукацыі, інфармацыі і культуры, па-мойму, сам Бог наканаваў размаўляць па-беларуску. Калі чыноўнік не валодае дзяржаўнай моваў (а іх у нас па Канстытуцыі дзве), то гэты чыноўнік з нізкай эрудыцыяй. Яны ж, чыноўнікі, самі пажадалі дзвюхмоўе ў 1995 годзе. Даводзілі, што беларуская мова будзе мець роўныя правы.

А ці бачылі вы указы, дэкрэты прэзідэнта на беларускай мове? А пастановы Савета міністраў, міністэрстваў, дакументы выканаўчых органаў улады? Паважаны Ніл Сямёнавіч Гілевіч яшчэ ў 1995 годзе гаварыў, што пры такой сітуацыі ніякай роўнасці моў не будзе.

Няпраўда, што большасць беларусаў аддаюць перавагу рускай мове. Проста яны вымушаны размаўляць на ёй, паколькі чыноўнікі і слухаць не хочуць, калі чалавек звяртаецца да іх на роднай мове.

Я нядаўна лячыўся ў адной з мінскіх бальніц. Адзначаўся юбілей аднаго з супрацоўнікаў медперсаналу. Адчуваючы ўвагу да хворых, чуллівасць і дабрату, пацыенты вырашылі павіншаваць юбіляра кветкамі. А я ў сваю чаргу падрыхтаваў віншаванне ў вершаванай форме. Напісаў на беларускай і рускай мовах і спытаўся ў калег, на якой мове лепш гучыць? Усе дружна адказалі: "На беларускай". Віншаванне прайшло цудоўна, усе былі задаволены. А пацыент з маёй палаты (52 гады) нават звярнуўся да мяне: "Пакуль знаходзімся тут, навучыце беларускай мове". І мы ў палаце размаўлялі толькі па-беларуску.

Дарэчы, у гэтай бальніцы працуе доктар, які размаўляе з усімі толькі на беларускай мове. Як жа хораша гучыць яго гаворка!

Так што няпраўда, што на беларускай мове нельга выказаць сур'ёзныя думкі, як гэта некалі заявіў Лукашэнка. Няпраўда і тое, што людзі свядома адмаўляюцца ад роднай мовы.

На гэтым я хацеў бы закончыць, але вось 27 жніўня прачытаў у "Народнай волі" артыкул, дзе напісана пра Руслана Аляхно, які лічыць, што ў Беларусі на роднай мове размаўляюць толькі ў вёсках. Мне здаецца, яшчэ рана Руслану Аляхно называць сябе "нацыянальным героем Беларусі". Яму яшчэ працаваць і працаваць над сабой! А тое, што ён выбраў для "раскруткі" Расію, гэта яго права. Але такіх, як ён, там вельмі многа. Дай яму Бог поспеху. Але ў Беларусі выдатны майстар Уладзімір Мулявін (рускі, з Урала) менавіта на беларускай мове падняў ансамбль "Песняры" на недасягальную вышыню, стаў сапраўды знакаміты не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце.

Калісьці быў выдатны ансамбль "Сябры", рэпертуар якога складаўся ў асноўным з беларускіх песень. На жаль, гэты ансамбль зараз можна назваць "Друзья". Сам кіраўнік Анатоль Ярмоленка цяпер спявае больш на рускай мове (мусіць, такая ў яго кан'юнктура). Не тыя ўжо "Сябры". Тое ж самае можна сказаць і пра дуэт Ядзвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча.

Леанід БУЛАШ,
пенсіянер, жыхар Мінска. /N. Vola./

*****************************************************

**Жан-Шарль Ляльман:**

## Эўропа чакае ад Беларусі сюрпрызу

**Францускі палітоляг Жан-Шарль Ляльман прыехаў у Беларусь, каб яшчэ раз на свае вочы пабачыць аб'ект, які ён ужо дзесяць гадоў дасьледуе. Ён піша кнігу пра Беларусь і Лукашэнку. З сп. Ляльманам гутарыць карэспандэнт «НН».**

**«НН»: Чый Вы палітоляг — францускі ці эўрапейскі?**

**Жан-Шарль Ляльман:** Францускі, бо я француз! Гэта рэальнасьць. Але ж у той самы час я яшчэ і жыхар Эўропы.

**«НН»: Чым зьяўляецца Беларусь для Францыі і чым — Беларусь для Эўропы? Калі, канечне, паміж гэтымі паняцьцямі трэба праводзіць рысу.**

Я спадзяюся, што розьніцы няма і што тое, што датычыцца Францыі, і тое, што датычыцца Эўропы, — гэта аднае і тое ж. Пра Беларусь ужо ведаюць, хоць пра яе дагэтуль мала пішуць і мала гавораць. Але многія эўрапейцы ўжо дазналіся, дзе на мапе сьвету знаходзіцца горад Менск. Два гады таму ў Парыжы праходзіў чэмпіянат сьвету па лёгкай атлетыцы, менавіта тады ўсе буйныя францускія газэты пасапраўднаму адкрылі для сябе Беларусь — праз спорт. Але розьніца паміж Беларусьсю і Расеяй для шараговага насельніцтва незразумелая. Што датычыцца інтэлектуалаў, дык пра Лукашэнку ўжо ўсе чулі.

**«НН»: Што Эўропа чакае ад Беларусі?**

Калі канкрэтна, дык нічога. Ну, хіба што сюрпрызу, накшталт украінскага.

**«НН»: Ці лічыць Эўропа дагэтуль, што можна дэмакратызаваць Беларусь з дапамогай Расеі?**

Цяпер у Эўропе зразумелі, што такое пуцінскі рэжым. Гэта ахалоджвае і без таго няпростыя адносіны з Расеяй. Тыя, хто цікавіцца Беларусьсю, прынцыпова ня хочуць, каб яе праблемы вырашаліся праз Маскву. Ну а тыя, хто зарыентаваныя на Маскву, пра Беларусь увогуле не клапоцяцца.

**«НН»: Што Вы думаеце пра скандал вакол Саюзу палякаў Беларусі?**

Беларусь усё больш і больш нагадвае абложаную фартэцыю. У яе дрэнныя адносіны з усімі суседзямі, нават з Расеяй. Акрамя гэтага, каб мабілізаваць насельніцтва, заўсёды можна адшукаць замежнага ворага. Тым больш што ў часе Аранжавай рэвалюцыі Польшча адыгрывала выключна важную ролю — праз яе можа ісьці падтрымка беларускай апазыцыі, што не падабаецца рэжыму. Вось чаму Лукашэнка карыстаецца палітыкай дзяржаўнага нацыяналізму.

**«НН»: Кім для Вас як для палітоляга зьяўляецца Лукашэнка?**

Дыктатарам! Падобным сваім папулізмам да дыктатараў Лацінскай Амэрыкі. Але ёсьць і адрозьненьне — яно палягае ў тым, што тая сацыяльная палітыка, якую нібыта праводзіць урад Лукашэнкі, — фікцыя. Практычна поўная адсутнасьць сыстэмы мэдыцынскага страхаваньня, 20 даляраў дапамогі па беспрацоўі — гэта не сацыяльная палітыка.

**«НН»: Які Ваш прагноз на 2006 г., калі зыходзіць з рэальнай сытуацыі, якую вы тут бачыце?**

*(сьмяецца)*: Можна разьлічваць на яшчэ адну пяцігодку барацьбы!

Гутарыў **Алесь Кудрыцкі**

*****************************************************

# Куды пойдуць амэрыканскія мільёны?

21 ліпеня бальшынёй галасоў Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ўхваліла законапраект аб фінансаваньні замежнаэканамічнай дзейнасьці ЗША цягам бліжэйшых двух гадоў.

Кангрэс ЗША прыняў рашэньне аб дадатковым выдаткаваньні 10 мільёнаў даляраў для пашырэньня свайго тэлевізійнага і радыёвяшчаньня на Беларусь. Яшчэ Палата прадстаўнікоў вырашыла выдаткаваць 24 мільёны даляраў на прасоўваньне дэмакратыі, развіцьцё палітычных партыяў, грамадзянскай супольнасьці і незалежных СМІ.

Як стасуецца падтрымка замежнай краінай дэмакратычных сіл іншай краіны з нормамі міжнароднага права, куды могуць пайсьці гэтыя пакуль яшчэ толькі абяцаныя сродкі?

Ці ня лічыцца падтрымка дэмакратычных сіл, палітычных партыяў, незалежных СМІ умяшаньнем ва ўнутраныя справы краіны? Такое пытаньне я задала міжнароднаму каардынатару "Хартыі-97" Андрэю Саньнікаву.

"Рэжым Лукашэнкі ўжо выйшаў за межы міжнароднай этыкі. Ніякія абавязаньні, што краіна брала на сябе ў рамках ААН, АБСЭ, міжнародных актаў аб правах чалавека не выконваюцца. Усталяваўся рэжым, які ня толькі шкодзіць развіцьцю краіны, ня толькі выкананьню асноўных свабодаў і правоў чалавека, але яшчэ небясьпечны і ў міжнародным кантэксьце. Таму, я лічу, што дэмакратычныя краіны проста абавязаныя падтрымаць альтэрнатыўныя сілы, перш за ўсё, якія займаюцца абаронай правоў чалавека, распаўсюдам альтэрнатыўнай інфармацыі. Так існуе дэмакратычны сьвет, таму мы маем права чакаць такой падтрымкі".

У законапраекце не раскрываецца, па якіх каналах будзе павялічвацца вяшчаньне на Беларусь. Сродкі праходзяць па артыкуле фінансаваньня дзейнасьці Рады упраўляючых замежным вяшчаньнем, што адказвае за працу "Голаса Амэрыкі" і Радыё Свабода.

Для параўнаньня: на вяшчаньне на Кубу цягам бліжэйшых двух гадоў прадугледжаныя сродкі ў памеры 67 мільёнаў даляраў, на глушэньне радыёстанцыі "Свабодная Азія" Віетнаму выдаткоўваецца больш за 9 мільёнаў даляраў.

Што да сродкаў на развіцьцё дэмакратыі, працытую дакумэнт: "У кожным фінансавым годзе - 2006 і 2007-м, дазваляецца выдаткаваць па 12 мільёнаў даляраў для спрыяньня развіцьцю дэмакратыі ў Беларусі, уключаючы свабодны і сумленны выбарчы працэс, на развіцьцё палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, развіцьцё дэмакратыі, павагу правоў чалавека і вяршынства закону, на незалежныя СМІ і міжнародныя абмены, а таксама навучальныя праграмы для лідэраў дэмакратычных сіл, якія ўмацоўваюць грамадзянскую супольнасьць".

Ці вялікія гэта грошы, і куды іх лепш разьмеркаваць, я высьвятляла не ў палітыкаў, не ў партыйных лідэраў, а ў палітолягаў.

Меркаваньне маладога палітоляга Андрэя Казакевіча. "Трэба глядзець, на што канкрэтна выдаткоўвающца гэтыя грошы. Адна справа, калі гэта проста на вяшчаньне. Іншая, калі выдаецца на трэці сэктар і на нейкія іншыя праекты. І па-другое, дакладна вызначыць, якая сума. У прынцыпе – гэта невялікія грошы, каб яны маглі істотна паўплываць на сытуацыю. Прынамсі, першапачаткова так падаецца. Таму што частка застаецца ў саміх амэрыканцаў на падтрымку розных офісаў, паездак".

Міжнародны каардынатар "Хартыі-97" Андрэй Саньнікаў таксама лічыць, што гэта сродкі зусім не на каляровую рэвалюцыю, а ў першую чаргу, на падтрымку грамадзянскай супольнасьці, на развіцьцё альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі і на міжнародныя праекты – праваўзсьненьне, да прыкладу незалежнага расьсьледаваньня справаў зьніклых.

"Напрыклад, мяне цікавіць пытаньне зьніклых і зьняволеных палітыкаў у Беларусі. Калі з такой дапамогай (а гэта ня толькі фінансавая дапамога, мы перш за ўсё зацікаўленыя ў маральнай падтрымцы і салідарнасьці дэмакратычных краінаў), калі гэта дазволіць вызваліць зьняволеных - Марыніча, Леванеўскага, а зараз адпраўляюць на "хімію" Статкевіча, Севярынца, Клімава, успомнім Бандажэўскага, тады я магу казаць, што гэтыя грошы былі эфэктыўна скарыстаныя".

*****************************************************

**Леанід ЛЫЧ,** доктар гістарычных навук, прафесар

# Гэта было б цудоўна — Бібліятэка беларускай кнігі!

Сёньня, як і ва ўсе папярэднія часы, мы справядліва ўскладаем больш за ўсё надзей аб захаванні сваёй беларускай самабытнасці на магутную, адну з самых развітых у свеце беларускую літаратуру. На мяжы XIX—XX стагоддзяў менавіта яна дапамагла беларусу зірнуць на сябе як на адметную, адрозную ад іншых этнічную адзінку — і зараз у стане стрымліваць наша растварэнне ў рускай культурна-моўнай стыхіі. Працаваць жа элітарнай, нацыянальна свядомай і адданай катэгорыі інтэлігенцыі даводзіцца ў надзвычай складаных, цяжкіх умовах. Аўтар гэтых радкоў гатовы стаць на калені перад майстрамі беларускага мастацкага слова! Нягледзячы на сірочы стан нашай роднай мовы ў родным доме, яны пісалі і пішуць свае творы не ў апошнюю чаргу дзеля таго, каб спрыяць тармажэнню культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў, выратаваць іх ад гэтай злыбеды.

Але сусветнай практыкай неаднойчы пацверджана, што нават высокаразвітая мастацкая літаратура таго ці іншага народа не ёсць поўнай гарантыяй выратавання яго ад асіміляцыі, калі ў астатніх сферах дзейнасці людзей выкарыстоўваецца іншая мова — асабліва ў абслугоўванні дзяржаўнага, адміністрацыйна-гаспадарчага апаратаў, педагагічнага працэсу ўсіх тыпаў навучальных устаноў, сродкаў масавай інфармацыі.

Але ў нас сёння літаратура — ледзь не адзіны фактар, які фіксуе нашую нацыянальную адметнасць, дапамагае беларусам заставацца самім сабой. Таму лёс беларускай мастацкай літаратуры, як і літаратуры пра Беларусь — незалежна ад мовы і месца напісання, этнічнай прыналежнасці аўтараў — не можа не хваляваць. Зараз такая літаратура добра сістэматызавана і знаходзіцца ў будынках, размешчаных у цэнтры беларускай сталіцы, зручных для наведвання, асабліва людзьмі сталага веку. З перамяшчэннем кніжнага багацця на ўсходнюю ўскраіну Мінска — у новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі — доступ да гэтых скарбаў, мяркую, істотна ўскладніцца.

Бясспрэчна, новая бібліятэка стане буйным навукова-інфармацыйным цэнтрам. Але пры гэтым прадчуваю небяспеку: асноўнай рабочай мовай, як ужо усталявалася ў дзяржаўным сектары нашага жыцця, хутчэй за ўсё і тут могуць зрабіць рускую. Ужо не раз высокімі дзяржаўнымі асобамі заяўлялася, што гэты цэнтр увойдзе арганічнай часткай у адзіную з Расіяй навукова-інфармацыйную прастору і возьме на сябе львіную долю па забеспячэнні Саюзнай дзяржавы патрэбнай інфармацыяй. Таму, лічу, у новы будынак было б неразумна перавозіць наша найкаштоўнейшае нацыянальнае багацце — беларускую кнігу. Ва ўсходнім напрамку — на працягу стагоддзяў і за савецкі час — нямала ўжо вывезена (часцей за ўсё гвалтам, незаконна) нашых культурных каштоўнасцяў, якія нам і не думаюць вяртаць суседзі...

Найбагацейшы збор беларускай літаратуры і напісаных на розных мовах рознымі аўтарамі кніг пра Беларусь — пераканаНы ў гэтым — нельга краТаць са старога месца. Магчыма, такім чынам варта паставіцца і да кніг, не звязаных з нацыянальнай праблематыкай, але створаных асобамі беларускага паходжання незалежна ад месца іх пражывання ці ўраджэнцамі нашай краіны. Усё ж астатняе можна перадаць у фонды новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі.

Тэрытарыяльным перамяшчэннем Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, якую з поўнай падставай можна лічыць маткай усіх паблізу размешчаных культурна-асветніцкіх устаноў, можна істотна аслабіць іх ролю ў нацыянальна-культурным адраджэнні, якое апошнім часам ледзь не цалкам заглухла. Да такіх устаноў я адношу Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы і Оперны тэатр, тэатры юнага гледача і лялек, Палац мастацтваў і Палац прафсаюзаў, Дом афіцэраў, музей Янкі Купалы, філармонію, Дом літаратара, Нацыянальны архіў РБ, значную колькасць будынкаў Траецкага прадмесця, праваслаўныя і каталіцкія храмы ў цэнтры горада.

На вялікую бяду, з пералічаных устаноў далёка не ўсе будуюць сваю дзейнасць у адпаведнасці з беларускім нацыянальным інтарэсам. Некаторыя з іх працуюць больш у рэчышчы рускай культуры, чым беларускай. Упэўнены, што рана ці позна адказныя за яе лёс дзяржаўныя і грамадскія дзеячы зразумеюць усю небяспеку такога засілля і энергічна возьмуцца за выратаванне краіны ад канчатковай русіфікацыі. О, як нам тады будзе неставаць у гісторыка-культурным цэнтры Мінска самага дзейснага нацыянальна-культурнага асяродка — Беларускай бібліятэкі! Можа, лёс ніводнага народа так моцна не залежаў і не залежыць ад кніг — беларускай кнігі. Калі мы яе расцярушым у рускамоўным акіяне фондаў новай бібліятэкі, у нас вельмі звузяцца магчымасці для выкарыстання набыткаў пакаленняў беларускіх майстроў прыгожага пісьменства.

У далёкім мінулым у нашых разумных продкаў было вельмі слушнае правіла: не рухаць без патрэбы старыну.

### *Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2005 годзе*

| | |
|---|---|
| Др. Мацьвей Смаршчок | $40.oo |
| Івонка Сурвілла /Канада/ | $50.oo |
| Юлія Андрусышын | $100.oo |
| Мікола Сьнежко | $50.oo |
| В. Бельмач /Канада/ | $30.oo |
| Вітаўт і Вера Рамук | $100.oo |

Замест Кветак на сьвежую магілу Алега Шнэка, ахвяравалі на выдавецкі фонд газэты "Беларускі Дайджэст" у Мэлбурн, Аўстралія:

| | |
|---|---|
| Беларускі Цэнтральны Камітэт | $50.oo |
| Аўген Груша | $50.oo |
| Ф. Корбут | $50.oo |
| Т. М. Субач | $20.oo |
| Ш. В. Русак | $20.oo |
| А. Карп | $5.oo |
| А. Палікарпоўска | $10.oo |
| Беларускі Сацыяльны Клюб | $30.oo |
| Сястрыцтва БАПЦ | $50.oo |
| Я. Яшчэнка | $10.oo |
| Ж. Сідлярэвіч | $10.oo |
| Беларусы Адэлайды | $100.oo |
| Янка Барысевіч | $20.oo |
| М. Сасноўскі | $15.oo |
| Каця Сасноўская | $5.oo |
| М. М. Тарашкевіч | $10.oo |
| Фэдэральная Рада ВАА | $50.oo |
| Ф. Лашук | $20.oo |
| Анна Буцак | $5.oo |

*Зьбіральнік Аўген Груша*

*Вялікае Дзякуй!*

*****************************************************





Сьв. Памяці

## Алег Шнэк

7.2.1930 —16. 8.2005



У горадзе Мэлбурне, Аўстралія, раптоўна памёр на сэрца грамадзкі дзеяч Алег Шнэк, старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі.

Нарадзіўся Алег у Расеі. Бацька Алега Сьцяпан Шнэк быў вайсковым афіцэрам у савецкай арміі, якога пасылалі ў розныя былыя савецкія рэспублікі. Сям'я доўга не затрымоўвалася ў адным месцы. А ў 1939 годзе сям'я Шнэкаў вярнулася ў родны свой горад Слуцк. дзе і застала іх 2-я сусьветная вайна.

Па заканчэньні вайны сям'я Шнэкаў апынулася ў беларускім ДП лягеры Ватэнштат у ангельскай зоне Нямеччыны.

У лягеры Алег вучыўся ў Беларускай гімназіі і належаў да беларускіх скаўтаў. Вельмі любіў спорт і браў актыўны ўдзел у Беларускім Спартовым Аб'еднаньні

У траўні месяцы 1950 году Алег разам з сям'ёю прыбыў у Аўстралію. У 1951 годзе далучыўся да беларускіх скаўтаў, зьвяз Усеслаў Чарадзей.Скаўцкія зборкі адбываліся ў доме Шнэкаў на "Муні Пондс". Быў адным з заснавальнікаў Беларускага Футбольнага Клюбу, аддзел моладзі БВФ. Чатыры гады гуляў у беларускай футбольнай дружыне "Зубр", пасьля футболу 4 гады гуляў у валібольнай дружыне "Глэнрой".

Першыя 6 год працаваў на чыгунцы, пасьля пакінуў чыгунку і пайшоў на працу ў абутковую фабрыку, бо хацеў вучыцца тэхнічнаму чарчэньню на вячэрнім курсе "Малбурскага Тэхнічнага Інстытуту". Пасьля 4-х гадоў навукі ў Інстытуце атрымаў працу на тэлефонным прадпрыемстве "Эрыксон". Скончыў працу як галоўны чарцёжнік.

Пасьля выхаду на пэнсію, стаў вельмі актыўным у беларускім грамадзкім жыцьці. Належаў да ўсіх беларускіх арганізацыяў у Мэлбурне. З студзеня 1992 г. назначаны начальнікам краёвага штабу БВФ на Аўстралію. А ў 1993 г. быў дэлегатам ад Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі на 1-м зьезьдзе ЗБС "Бацькаўшчына" ў Менску, 8-10 ліпеня 1993 г.

Алег пакінуў у вялікім смутку жонку Ніну і двух сыноў.

Пахавальны абрад выканаў а. А. Кулакоўскі ў саслужэньні а. Юуры. Месная царква БАПЦ не магла зьмясьціць усіх жадаючых, што прыйшлі ўшанаваць памяць Алега Шнэка. Алег быў вельмі папулярнай асобай, і ня толькі сярод беларусаў, але і іншых нацыянальнасьцяў... Пахаваны на беларускіх могілках на "Фоўкнэр". Труна нябожчыка была пакрыта бел-чырвона-белым сьцягам. Над магілай кароткую прамову сказаў Аўген Груша. Прысутныя адсьпявалі жалобны марш "Сьпі пад курганам герояў".

Беларуская грамада Мэлбурна страціла шчырага і адданага беларуса, які доўгія годы працаваў і змагаўся за лепшую долю сваёй Бацькаўшчыны.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

*Аўген Груша*, старшыня Фэдэральнай Рады БАА.

*

*Прамова Аўгена Грушы, над магілай Алеге Шнэка.*

Сёньня мы прыйшлі, каб ушанаваць памяць, разьвітацца і правесьці ў апошні шлях, старшыню Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Алега Шнэка. Алег Шнэк заслужыў павагу і пашану ўсёй беларускай грамады ў Мэлборне. Сваёй адданай грамадзкай працай на карысьць Бацькаўшчыны, якую ён моцна любіў, ніколі не шкадаваў свайго часу і сілы, ды матэрыяльных сродкаў для беларускай справы. Змагаўся і адстойваў беларускі нацыянальны гонар, як нязломны барацьбіт і верны сын свайго народу. Братка Алег! Вельмі шкада, што ты не дажыў да таго дня, калі Беларусь стане Вольнай і незалежнай дзяржавай у якую ты так моца верыў.

Сьпі спакойна дарагі сябра Алег, хай табе сьняцца сны пра родныя далі Случчыны, дзе дзяўчаты ткуць залатыя паясы. Вечная Памяць!

Твой сябра Аўген Груша.

*************************************





Сьв. Памяці

## Міхась КАЛЕНІК

Dec, 1, 1924 — Sept, 7. 2005



Далёка ад беларускае зямлі, ў ЗША, адыйшоў у вечнасьць Сьв. Памяці Міхась Каленік. Быў ён ведамым грамадзка-царкоўным працаўніком у Чыкага, ЗША, доўгагадовым старшынёй Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады і былы старшыня Царкоўнага Камітэту праваслаўнага прыходу сьв. Юр'я, вялікі патрыёт свайго народу.

Пахаваны на могільніку Эльмвуд, Рывэр Гров, Ільліной, ЗША. Пахавальны абрад адбыўся з Беларускае Праваслаўнае Царквы сьв. Юр'я ў Чыкага, парафіянам якое ён быў ад самага пачатку арганізацыі прыходу.

Пакінуў у вялікім смутку жонку Марыю, трох сыноў, унукаў, сваякоў у Беларусі, а таксама шмат прыяцеляў у ЗША.

Адыйшоў у вечнасьць яшчэ адзін вялікі патрыёт і змагар за беларускую справу, незабыўны сын беларускага народу.

**Вечная Яму памяць!**

*******************************************





Сьв. Памяці

## Валянтын МІЦКЕВІЧ

9.3.1918 — 8.19.2005



У Ню Ёрку, далёка ад Бацькоўскай зямлі, на 87 годзе жыцьця, скончыў свой цярністы жыцьцёвы шлях Валянтын Міцкевіч — сын Міхаліны — сястры Якуба Коласа.

Жыў у Мікалаеўшчыне з бацькамі да часу калі выбухнула 2-я сусьветная вайна. Служыў у польскім войску, удзельнічаў у баі за Варшаву, калі немцы напалі на Польшчу. Нямецкага палону ўдалося пазбыцца. У тадышнім ліхалецьці, Валянтын, як і шматлікія іншыя беларусы апынуўся ў Францыі.

Пасяліўшыся ў Парыжы, быў актыўным у беларускіх арганізацыях, ды належаў да выдавецкай суполкі часопісу "Моладзь".

1961 г. эміграваў у Амэрыку (Ню Ёрк), дзе ўжо раней пасяліўся яго брат Алесь і дзядзька Міхась Міцкевіч. Належаў да парафіі сьв. Кірылы Тураўскага на Рычмод Гіл, а жыў на Фляшынгу.

Пахаваны на беларускіх могілках у Іст Брансвіку. Пакінуў у вялікім смутку жонку Таісу, брата Алеся і яго жонку Тэрэсу, іх дочкі Марыю, Ялянту і ўнука Юзіка.

Няхай памяць па ім трывае вечна!

**Вечная Памяць!**

*******************************************

# Аляксандр Мілінкевіч абраны адзінам кандыдатам

**У Менску на Кангрэсе дэмакратычных сілаў падлічаныя галасы, пададзеныя падчас другога туру галасаваньня за адзінага кандыдата ад апазыцыйных сілаў.**

За **Мілінкевіча** прагаласавалі 399 дэлегатаў, за **Лябедзьку** – 391.



### Біяграфія Аляксандра Мілінкевіча

*Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Горадні. Скончыў Гарадзенскі ўнівэрсытэт і асьпірантуру Інстытуту фізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. У 1980-1984 гадох загадваў катэдрай Сэтыфскага ўнівэрсытэту (Альжыр), быў дацэнтам Гарадзенскага ўнівэрсытэта (1978-1980, 1984-1990). Працаваў намесьнікам старшыні гарвыканкаму Горадні. Заснавальнік і кіраўнік грамадзкай арганізацыі "Ратуша". Кіраўнік праграмаў "Фонду спрыяньня лякальнаму разьвіцьцю". У 2001 годзе быў кіраўніком перадвыбарчага штабу кандыдата на пасаду прэзыдэнта Сямёна Домаша. Валодае ангельскай, францускай і польскай мовамі. Жанаты другім шлюбам, ад першага мае двух сыноў.*

*******************************************

## Пра "Кансьпіратар Беларускі"

**Першы нацыянальны дапаможнік па арганізацыі грамадска-палітычнай барацьбы ў падпольных варунках. "Кансьпіратар Беларускі" на 120 старонках распавядае, як эфэктыўна дзейнічаць свабоднаму чалавеку ў таталітарным грамадзтве.**

Выданьне адрасаванае актывістам дэмакратычнага супраціву, сябрам нелегальных арганізацыяў і рухаў. Укладальнікі працягваюць традыцыю, закладзеную польскім "Малым кансьпіратарам", які 25 гадаў таму дапамагаў актывістам "Салідарнасьці" разумна змагацца з дыктатурай. "Кансьпіратар Беларускі" зьмешчае вытрымкі з "Малога", аднак асноўная частка тэксту напісаная з улікам сучаснай беларускай практыкі.

Сярод іншага, кніга дае практычныя рэкамэндацыі да наладжваньня інфармацыйнай працы, абароне носьбітаў інфармацыі і сродкаў камунікацыі. Распавядаецца пра выкарыстаньне даступных паспалітаму чалавеку шыфравальных і маскавальных прыстасаваньняў, прынцыпы вырабу, захаваньня і распаўсюду друкаванай прадукцыі, асновы вядзеньня электроннай перапіскі і выкарыстаньня тэлефонаў ва ўмовах татальнага сачэньня і перасьледу. Даюцца парады, як мінімізаваць наступствы канфіскацыі носьбітаў інфармацыі і кампутарнага абсталяваньня.

Асобная ўвага надаецца пытаньням наладжваньня бясьпекі ў памяшканьнях нелегальных арганізацыяў. Выкладзеныя падставовыя правілы паводзінаў падчасператрусаў, допытаў, затрыманьняў і іншых следчых дзеяньняў. Даюцца парады, як не зрабіцца ахвярай брудных правакацыяў з боку спэцслужбаў, такіх як падкідваньня зброі, фальшывых грошаў альбо наркотыкаў.

Аўтары-укладальнікі брашуры падпісаліся псэўданімамі Фокс Малдэр, Дана Скалі, Агент Сьміт. У прадмове Яны вітаюць як мага шырэйшы распаўсюд "Кансьпіратара". Выданьне напісанае клясычным беларускім правапісам.

Замовіць бясплатную копію магчыма праз электронны адрас zamova_biaspeka @ yahoo.com

## Новы «Беларускі гістарычны агляд»

Выйшаў 11-ты том (сшытак 20—21) «Беларускага гістарычнага агляду» (400 старонак).

Нумар пазначаны сьнежнем 2004 г. У нумар увайшлі артыкулы Генадзя Сагановіча (пра ўдзел русінаў у Грунвальдзкай бітве), Валянціна Калніна (пра Яна Марыю Бэрнардоні), Юр'я Туронка (пра дзейнасьць Саюзу беларускай моладзі ў Нямеччыне) і інш. Гэта першы нумар незалежнага пэрыёдыка, які выйшаў пасьля ганебнага звальненьня з Інстытуту гісторыі яго нага рэдактара Генадзя Сагановіча.

###########################################